

Невядомы аўтар. Партрэт Юрыя Радзівіла. Другая палова XVI ст.

# 4.91 СПАДЧЫНА

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ





**ЧАСОПІС ВЫДАЕЦЦА КОШТАМ ТВЦ «ПАЛІФАКТ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

Мастацкі рэдактар У. Я. КРУКОЎСКІ.

Тэхнічны рэдактар З. М. МІКІШЧАНКА.

Адрас рэдакцыі: 220049, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54, 34-26-50.

Здадзена ў набор 24.06.91. Падпісана да друку 31.07.91. Фармат 70×100 1/16. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,15. Ум. фарб.-адб. 22,4. Ул.-выд. арк. 12,63. Тыраж 7958 экз. Зак. 360. Цана 1 руб.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць 6 разоў на год.
Выдавецтва «Полымя»
Мінск




## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы вокладкі: невядомы аўтар. Партрэт Кацярыны Слуцкай. 1580 г.**

# ПРАВАПІС — ЛЮСТЭРКА ГІСТОРЫІ...

**Беларускія перыядычныя выданні вяртаюць у культурны абыходак лепшае з даўнейшай публіцыстыкі, краснага пісьменства, гісторыяграфіі, што, незаслужана забытае, пылілася ў спратах і спачывала пад цэнзарскім замком. У «Спадчыне» гэтую справу робяць рубрыкі «Скарбніца», «Вяртаецца да чытача», «Дакументы і людзі». Большасць часопісаў і газет друкуе такія публікацыі правапісам арыгіналу, калінікалі досыць адлеглым ад заканадаўча прынятага цяпер.**

**Натуральна, ёсць няпісанае навуковае правіла публікаваць помнік як найбліжэй да першаўзору. Аднак да колішняга правапісу звяртаюцца і літаратурна-мастацкія выданні, ім друкуюцца новыя масавыя газеты, плакаты, перадвыбарчыя матэрыялы... Ды суіснаванне розных правапісных і граматычных варыянтаў для беларускай мовы XX ст.— рэч не новая.**

**Беларуская пісьмовая мова ўступіла ў новае стагоддзе ў двух абліччах: кірылічнае, або «грамадзянскае», азбукі і лацінскай абэцэды. Кірыліца на Беларусі з часоў хросту, лацінка ж дапасаваная да гукаў нашае мовы пазней, у часы, калі пры двары Кароны Польскай беларускія дакументы сталі запісваць лацінкай польскага ўзору. Лацінка надта пашырылася ў XIX ст., магчыма, таму, што большасць беларускіх пісьменнікаў тады складалі каталікі, але, пэўна, уплывала імкненне кантрастна абазначыць розніцу з расейскаю мовай. У XX ст. першыя значныя выданні — лістоўкі БСГ, газеты «Наша доля» і «Наша ніва»,— друкаваліся абодвума алфавітамі (у 1912 г. «Наша ніва» спынілася на кірыліцы); пазней лацінкай выходзілі перыёдыкі «Крыніца», «Беларуская крыніца», часткова «Шлях моладзі», падручнікі, кнігі, слоўнікі ў Заходняй Беларусі (у Беларусі Савецкай лацінка не ўжывалася). Лацінка побач з кірыліцай відаць у віленскіх выданнях да самай вайны, ёю друкавалася літаратура падчас вайны; зрэдку выходзіць і цяпер на эміграцыі ды на Беласточчыне. Беларуская лацінка набыла надзвычай істотную функцыю: ёю пішуцца беларускія ўласныя імёны ў англійскіх, нямецкіх ды іншых лацінапісьмовых тэкстах — на жаль, толькі на Захадзе, у нас жа па-ранейшаму колькі моваў, гэтулькі напісанняў; адразу і не ўцяміш, што гутарка пра адно:** Baranowichi, Baranowitschi, Baranovitchi, Baranowicze, **хоць працэй паўсюль пісаць** Baranavičy. **Відаць, што не польская і не расейская назва; стандартнасці вымагае і міжнародная традыцыя напісання ўласных імёнаў.**

Кірыліца-«грамадзянка» ў пачатку стагоддзя, як і лацінка, не набыла адметнага нацыянальнага аблічча і складалася фактычна, за невялікім выключэннем, з літараў расейскай азбукі: *і* альбо *и* пісалі ў адпаведнасці з расейскім правілам (гл. апублікаваныя ў № 3 за 1991 год агітацыйныя матэрыялы БСГ 1905 г.). Непаслядоўна абазначалася на пісьме беларускае аканне (*поход, рэка*), бессістэмна пісаліся іншамоўныя словы (*делегація*). Але ўжо на старонках «Нашае нівы» выявілася імкненне пісаць бліжэй да вымаўлення, з кожным годам усё больш выразнае, што дазваляе прыблізна датаваць паводле правапісу розныя тагачасныя публікацыі. Акрамя чужамоўных уплываў, была яшчэ адна прычына неўсталяванасці пісьма: многія дапісчыкі «Нашае нівы», часопісаў трымаліся вымаўлення сваіх родных мясцінаў — ад віцебскага *зілянець* да паўднёва-заходняга *зялянець*.

Наспела патрэба ў пісанай граматыцы, і з'явілася іх адразу некалькі: «Jak prawilna pisać pabiełarusku» Антона Луцкевіча (Вільня, 1917), «Bielaruski prawapis» Антона Луцкевіча і Янкі Станкевіча, граматыка Баляслава Пачобкі, арыгінальная кніжка нямецкага прафесара Рудальфа Абіхта і Янкі Станкевіча «prosty sposab stacca u karotkim čaśe hramatnym», якая прапаноўвала для нашае мовы «ідэальны алфавіт», дзе кожнаму гуку адпавядала б адна літара і не было б асобнага выгляду рукапісных і друкаваных, вялікіх і малых літараў. Кніжка выйшла ў Брэславе (Уроцлаве) у 1918 г. Усе граматыкі імкнуліся да фанетычнасці напісання, г. зн. да адпаведнасці яго вымаўленню, але, мусіць, адным аўтарам бракавала паслядоўнасці, праца ж іншых была занадта смелая на тыя часы. «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча, што выйшла абедзвюма азбукамі ў 1918 г., шчасліва пазбегла крайнасцяў, вытрымала навуковы ўзровень і зусім дакладна выбрала за асноўны віленска-маладзечанскі дыялект беларускай мовы, які па сучаснай класіфікацыі адносіцца да сярэднебеларускіх гаворак. Сам Тарашкевіч быў родам з падвіленскіх Мацюлішак. Тарашкевічава «Граматыка» апісвала і адначасова парадкавала моўныя з'явы — найперш скланенне і спражэнне. Раздзелы ж, прысвечаныя менавіта правапісу, хоць і невялікія, аднак маюць у «БГШ» ці не галоўнае значэнне.

Тарашкевіч канчаткова замацаваў напісанні з «аканнем» (праўда, напачатку толькі ў беларускіх з паходжання словах: *малако, белага*, але *поэма*). Ён вызначыў правілы «якання» на пісьме для спрадвечна-беларускіх словаў: у першым складзе перад націскам *е* пераходзіць у *я* (зелень — зялёны), у другім —*е* пераходзіць у *я*, калі ў першым стаіць не *а* ці *я* (непатрэбны, але нячуваны). Правіла досыць складанае, але заснаванае на вымаўленні некаторых гаворак Віленшчыны. Вядома, замацоўвалася *ў* нескладовае, паказвалася цвёрдасць шыпячых (*шы*рокі, *чы*рвоны), дзеканне-цеканне (*дзеці*).

Вымаўленне і напісанне ў кожнай мове, якая карыстаецца алфавітам, у большай або меншай меры не супадаюць. Паўстае дылема: ці захоўваць нязменна, не зважаючы на вымаўленне, часткі слова (карані, суфіксы), ці, наадварот, зважаць найперш на вымаўленне, трымацца прынцыпу, сфармуляванага вялікім сербскім асветнікам Вукам Караджычам: «Пиши ако говориш». Паводле першага прынцыпу ў асноўным пішуць рускія (*молоко, песчаный*, хоць кажуць *мълако, пищанъй*).

Галоўнае адрозненне паміж старабеларускай літаратурнай мовай часоў Скарыны і Вялікага Княства, з аднаго боку, і беларускаю літаратурнаю мовай XX ст.— у тым, як пісьмо суадносіцца з вымаўленнем.

Б. ТАРАШКЕВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА ДЛЯ ШКОЛ.

ВЫДАНЬНЕ ПЯТАЕ, ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ПАШЫРАНАЕ.

ВІЛЬНЯ 1929 г.



ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

АДДЗЕЛ МОВЫ І ЛІТАРАТУРЫ

# ПРАЦЫ

АКАДЭМІЧНАЕ КОНФЭРЭНЦЫІ ПА РЭФОРМЕ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ І АЗБУКІ.

(14—21 ЛІСТАПАДА 1926 г.)

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

Старшыні Аддзелу Мовы і Літаратуры

С. НЕКРАШЭВІЧА

і

Старшыні Інстытуту Беларускае Культуры

У. ІГНАТОЎСКАГА

ВЫДАНЬНЕ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

У МЕНСКУ — 1927.

**Чатырыста гадоў таму нашыя продкі пісалі на царкоўнаславянскі ўзор** *ходити, литовский,* **хоць чыталі ды казалі** *хадзіці, літоўскі.* **Разыходжанне асвячонага традыцыяй пісьма і жывога слова надта нікому не шкодзіла, бо беларуская мова панавала ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, на спосаб чытання не ціснулі чужамоўныя ўзоры, а вымаўленчая завядзёнка перадавалася з пакалення ў пакаленне. Дарэчы, даволі значна адрозніваецца чытанне ад напісання ў англійскай, французскай мовах. Такое разыходжанне без рызыкі страціць самабытнасць, падпасці пад чужыя ўплывы, пацярпець у плане прэстыжнасці, як правіла, дазваляюць сабе мовы дзяржаўныя, трывала ўгрунтаваныя ў грамадскім жыцці свайго народу.**

**Для мовы паняволенага народу гэта не можа быць узорам — свядома ці падсвядома адчувалі ўпарадчыкі беларускага пісьма XIX— пачатку XX стст. З першых жа беларускіх тэкстаў XIX ст., запісаных лацінкай, а потым і кірыліцай, відаць няўхільная тэндэнцыя аўтараў, фалькларыстаў, святароў да гукавых, фанетычных напісанняў. Тарашкевіч замацаваў яе.**

**Вядома, Тарашкевічаў правапіс не быў механічнаю спробай замацаваць на пісьме вымаўленне, гэта — задача навуковае транскрыпцыі. Але перадаць у пісанай форме асноўныя рысы беларускай фанетыкі, што адрозніваюць яе ад суседніх, найперш ад рускай,— ён змог. Гэта, акрамя згаданых,— і памякчэнне** *с, з, ц, дз* **перад наступнымі мяккімі (***сьвет, зьвер, цьвік, дзьверы***), і спрашчэнне збегаў зычных (***нясьвіскі, добрускі***), і паказ якання ў прыназоўніках і часціцах (***ня той, бяз маткі***). У той жа час аглушэнне зычных на пісьме не паказвалася, бо**

гэта — ідэнтычная для беларускай, рускай і шмат у чым для польскай моваў з'ява (*дзед* чытаем як *дзет*). Зручнасць Тарашкевічавага правапісу, яго адпаведнасць духу жывой мовы гарантавалі яму ўсеагульнае прызнанне. Без урадавых пастановаў правапіс і граматыка Тарашкевіча (дазволім надалей сабе называць гэты варыянт упарадкавання беларускае літаратурнае мовы «тарашкевіца») сталіся абавязковымі для выдаўцоў перыёдыкі ды кніг для пісьменнікаў і журналістаў, для настаўнікаў і выкладчыкаў у Менску ці ў Смаленску, у Вільні ці ў Пецярбурзе.

На падставе граматыкі Тарашкевіча пачалі ствараць падручнікі беларускай мовы браты Лёсікі, Радаслаў Астроўскі, іншыя. Прычым Я. Лёсік развіваў і ўдакладняў абыдзеныя ўвагай Б. Тарашкевіча або недастаткова разгледжаныя ім моманты, напрыклад, правапіс чужаземных словаў.

Тарашкевіч пісаў у «Граматыцы»: «Чужаземнае *і* (сярэдняе) перадаецца мяккім *ль*, як у словах *лямка, пляц, плямка, клямка; Лёндан, лёзунг, монолёг...(...)*Не зьмягчаюцца звычайна й зычныя *з, с* і *ц: асыстэнт, магазын, пазыцыя...*» Але культурна-гістарычнае і навуковае абгрунтаванне гэтай відавочнай для кожнага тагачаснага носьбіта беларускай мовы яе рысы далі ўпершыню Язэп Лёсік і Ян Станкевіч. Лёсік у артыкуле «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» («Полымя», № 2, 1925) пісаў: «З лацінскае мовы маем шмат слоў агульна-культурнага значэньня; яны зашлі да нас або праз Польшчу, або праз старасьвецкую школу, дзе некалі, як і ўсюды ў Эўропе, панавала латынь, дзеля гэтага словы лацінскага пахаджэньня найбольш пашыраны былі сярод шляхты і вуніяцкага духавенства». Вымаўленне мяккага *ль* і цвёрдых іншых зычных у іншамоўных словах падобна тлумачыў Я. Станкевіч у працы «Да вымовы й правапісу чужых словаў» («Родная мова», Вільня, № 1—2, 1930), які паказаў, што ў народнай мове прыжыліся словы *лямпа, шкарлятына*, а ў сучаснай літаратурнай па той жа мадэлі аформіліся *лёзунг, кляса* і г. д. Пераканаўча гучаць доказы Станкевіча, што да вымаўлення сыстэма, псыхіка: беларускія мяккія *зь, сь*, надта далёкія ад заходнееўрапейскіх паўмяккіх *з, с* у гэтых словах. Даўнейшыя *магазын, Зыдар, Базыль, Сымон* далі ўзор і для пазнейшых запазычанняў.

Магутны ўздым беларускай культуры, якая выкарыстала часовую магчымасць развіцця па абодва бакі мяжы — і ў польскай, і ў савецкай частках падзеленай Беларусі,— прывёў да ўзнікнення велізарнага корпусу беларускіх тэкстаў і, што яшчэ больш важна, далучыў да беларускага пісьмовага слова мільёны людзей. У жывой практыцы сталі выяўляцца пэўныя «белыя плямы», недасканаласці правапісу і нават алфавіту. З ідэяй перагляду некаторых палажэнняў тарашкевіцы і рэформы алфавіту выступілі Язэп і Антон Лёсікі, якія распачалі дыскусію ў прэсе (гл., напр., «Да рэформы беларускага правапісу». «Полымя», № 6, 1926).

Вынікам дыскусіі стала скліканне Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў лістападзе 1926 г. Канферэнцыя праходзіла на дзяржаўным узроўні, на яе запрасілі лепшых мовазнаўцаў абедзвюх частак Беларусі, беларускай дыяспары, іншых саюзных рэспублік і краін. У працы Канферэнцыі бралі ўдзел С. Некрашэвіч, П. Бузук, Я. Воўк-Левановіч, Я. Лёсік, Ул. Чаржынскі, Ан. Багдановіч (Мінск), П. Растаргуеў з Масквы, А. Німчынаў з Украіны, знакаміты прафесар Макс Фасмэр з Германіі, Яніс Райніс з Латвіі. З Коўна, Рыгі і Прагі прыехалі В. Ластоўскі, К. Езавітаў і Ул. Жылка. Поль-

скі ўрад не даў згоды на выезд у Менск віленскіх навукоўцаў, у выніку чаго ані А. Луцкевіч, ані сам Тарашкевіч у працы форуму ўдзелу не бралі (Я. Станкевіч, маючы магчымасць паехаць, застаўся дзеля салідарнасці).

Справаздачы з Канферэнцыі друкавалі газеты, яе прывітаў урад. Цікавую і прарочую ацэнку атмасферы Канферэнцыі даў Яніс Райніс: «Што паказала канферэнцыя? Маладая Беларусь перажывае сваё духоўнае адраджэнне ў вялікім энтузіязме і ідэалізме».

Канферэнцыя стала не толькі святам беларускага Адраджэння, але і сведчаннем яго сталасці. Дыскусія ішла карэктна, удзельнікі добра разумелі сваю адказнасць перад нацыяй. Канферэнцыя пастанавіла ўвесці ў беларускі алфавіт пазычаныя з сербскага літары для абазначэння гукаў (дзь) і (дж), літару ј, перадаваць у чужаземных словах пераход (э) у (а) толькі ў першым складзе перад націскам, але пераход (о) у (а)— паўсюдна (пісалі: рэмонт, поэзія; прапанавалі ж — рамонт, паэзія). Вырашылі пісаць асобна *не* і *без* незалежна ад вымаўлення.

Праблему абазначэння т. зв. асіміляцыйнай мяккасці зычных (*сьвятло* і пад.) вынеслі на абмеркаванне браты Лёсікі, якія прапаноўвалі зняць мяккі знак з падобных становішчаў у слове дзеля эканоміі месца. Яны, як, дарэчы, і В. Ластоўскі, зыходзілі з перакапання і надзеі, што дзяржаўная мова Рэспублікі будзе развівацца на ўласнай аснове, што іншамоўныя ўплывы не паглынуць самабытнае стыхіі беларушчыны, што вымаўляць свае словы беларусы не развучацца, як бы тыя ні пісаліся.

Ластоўскі наогул прапаноўваў пісаць *діед*, не пазначаць дзекання-цекання, бо гэтак пісалі ў эпоху Вялікага княства Літоўскага; замілаваны ў тым часе, ён бачыў у вяртанні старабеларускага правапісу спосаб забеспячэння пераемнасці культуры.

Прапанову скасаваць мяккі знак у пэўных становішчах рашуча не падтрымалі абазнаныя ў настаўніцкай працы навукоўцы Я. Бялькевіч і С. Мялешка, якія пераконвалі аўдыторыю, што знікненне мяккага знака абцяжарыць навучанне грамаце. Небяспеку знікнення характэрнай фанетычнай рысы бачылі і папярэджвалі пра гэта С. Некрашэвіч, П. Растаргуеў, Я. Воўк-Левановіч. Наогул большасць удзельнікаў Правапіснае камісіі Канферэнцыі былі супраць скасавання асіміляцыйнага ь, аднак прагаласаваць па гэтым пытанні камісія не паспела. Супраць гэтай прапановы яшчэ да канферэнцыі выказаліся і віленцы, у тым ліку Б. Тарашкевіч.

Канферэнцыя стварыла Правапісную камісію ў межах БАН, якой даручыла давесці да ладу прапановы, выпрацаваць сістэму абноўленага правапісу. Вынікам працы камісіі стаў «Беларускі правапіс (праект). Апрацаваны Правапіснай камісіяй БАН», які выйшаў у 1930 годзе, Праект захоўваў асноўныя Тарашкевічавы правілы, даў колькі прапановаў і адлюстраваў гарачыя спрэчкі ўдзельнікаў камісіі. «Трэба таксама адзначыць, што некаторыя пастановы Камісіі праходзілі самаю нязначнаю большасьцю галасоў»,— пісалася ў прадмове. Адна з такіх пастановаў — прапанова зняць мяккі знак у пазіцыях паміж зычнымі — прайшла толькі ў карэктуры, прычым Купала і Некрашэвіч настаялі на публікаванні іх асаблівае думкі. Варта прывесці Некрашэвічаву аргументацыю:

«Асаблівасьць адменна мяккага, сьвісьцяча-сычачага вымаўленьня беларускіх сьвісьцячых «з, с, ц, дз» перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі катэгарычна вымагае, каб гэтыя гукі, як *гукі*

*асобныя*, знайшлі на пісьме свой адбітак. Да вырашэньня пытаньня аб рэформе азбукі (як іх азначаць на пісьме) гэтае азначэньне можна перадаваць праз «ь». Зусім-жа не азначаць іх на пісьме — гэта значыць сьцерці адну з характэрных асаблівасьцяй беларускае мовы». Купала цалкам згаджаўся з папраўкаю; Ластоўскі, памяняўшы сваю думку, прапаноўваў пазначаць мяккасць рыскай, як у беларускай лацінцы.

З 1930 г. стала відавочна, што ВКП(б) зрабіла паварот у палітыцы. Калектывізацыя, масавыя рэпрэсіі, «абвастрэнне класавай барацьбы»... Неабходным звяном гэтага ланцужка стала барацьба з «нацыяналізмам» нярускіх народаў. Пад моўную палітыку быў падведзены ідэалагічны падмурак:

«Трэба даць нацыянальным культурам развіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх у агульную культуру з адной агульнай мовай» (І. В. Сталін, выступ на XVI з'ездзе ВКП(б), 1930 г.).

Зоркі беларускае філалогіі, сябры Правапіснае камісіі (1927—1930) С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі, Я. Бялькевіч, Ул. Чаржынскі, многія ўдзельнікі Канферэнцыі 1926 г. былі рэпрэсаваныя ўжо ў 1930 г. На Купалу, на Бузука распачалі маральны, псіхалагічны ціск. Памяняўся склад Інстытута мовазнаўства, П. Бузук быў пастаўлены дырэктарам Інстытута, вучоным сакратаром пры ім — П. Юргілевіч, былы сакратар райкама; вылучаўся грамадскай актыўнасцю малавядомы як мовазнаўца Я. Мацюкевіч.

Менавіта гэтыя трое аўтараў у справаздачным артыкуле «Год працы Інстытуту мовазнаўства БАН» («Савецкая краіна»— былы «Наш край», № 12, 1931) выставілі тым, хто ўжо не мог адказаць, абвінавачанне:

«А чаго толькі ні нарабілі нацдэмы ў галіне правапісу і граматыкі. Яны змагаліся супроць усіх формаў скланеньня і спражэньня, аднолькавых з расійскімі формамі... Іх спасланьне... на архаічныя сялянскія гаворкі беларускай мовы... нічога не даводзіла, а наадварот, яшчэ раз сьведчыла аб тым, на што арыентаваліся нацдэмы ў справе нармаваньня літаратурнае мовы (...) У процілегласьць нацдэмам, Інстытут у гэтай рабоце орыентуецца не на гаворкі старых бабулек глухіх куткоў Беларусі, кулацка-шляхоцкіх засьценкаў, а ў першую чаргу на вядучыя беларускія гаворкі рабочых, калгасьнікаў і наогул бядняцка-серадняцкага сялянства». Ідэалагічны сігнал набыў «навуковую» базу. Шлях да рэфармавання мовы быў адкрыты, пытанне зводзілася толькі да яго тэмпаў і тэрмінаў.

У 1931 г. асноўнаю працай грамадазнаўчых аддзяленняў БАН стала выкрыццё «нацдэмаўшчыны» ў розных галінах беларускай навукі. Адмыслова створаная «брыгада катэдры марксізму-ленінізму» выпусціла серыю брашураў пад агульнаю назвай «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», адна з якіх прысвячалася мовазнаўству (аўтары — Л. Бабровіч, Ів. Шпілеўскі, В. Бандарэнка, С. Вальфсон і ўсё той жа Я. Мацюкевіч). Пафас кніжкі ўгрунтаваны на «яфетычнай» класавай тэорыі мовы акад. М. Я. Мара: «...Калі, па вядомаму ўказаньню Леніна, «у кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі», то ў нас ёсьць усе падставы сказаць, што ў «кожнай мове ёсьць дзьве мовы». «Нацдэмаў» абвінавачвалі ў імкненні вывучаць і захоўваць «феадальную» і «кулацкую» мову, бо, маўляў, пралетарыят, «кляса-прэтэндэнт на грамадзкую гегемонію, маладая рэволюцыйная кляса стварае сваю мову, афарбоўвае яе ў пэўныя клясава-

**эмоцыянальныя тоны, надае сваёй мове наўмысьля абвостраныя формы, што колюць, рэжуць, б'юць. (...) Яна наўмысьля часам грубаватай бравурнасьцю адкідае філёлёгічныя каноны, устаноўленыя тымі клясамі, з якімі яна ўступае ў гістарычную сутычку, руйнуе моўную традыцыю...»**

**Гэтая зброя, зброя класавай дэмагогіі, і сапраўды пачала калоць і рэзаць, біць і руйнаваць лёсы як нашых навукоўцаў, так і нашае мовы — на сваё няшчасце, мовы народу «непралетарскага».**

**Правапісная камісія ў новым складзе працягвала працу. З 1930 па студзень 1933 гг. яна правяла 15 паседжанняў. Спрачаліся наконт таго, ці варта, як у рускай мове, гаварыць і пісаць, незалежна ад граматычнага роду,** *двух лаваў* **і** *двух сталоў*, **згаджаліся перайсці ад канчаткаў лясом, у лясох да формаў лясам, у лясах ды інш.**

**Укладальнікі Праекта'33 адмяжоўваюцца ад папярэднікаў: праект 1930 г. «складзены яшчэ пры нацдэмаўскім кіраўніцтве Інстытута мовазнаўства». «...Яны (нацдэмы),— сцвярджалі ўкладальнікі новага праекта,— імкнуліся даць такі правапіс, які быў-бы адарваны ад шырокіх рабочых і бядняцка-серадняцкіх сялянскіх мас, прытупляў-бы мову, як зброю клясавае барацьбы». Здаецца, упершыню граматычныя з'явы ўводзяцца ў літаратурную мову пры дапамозе ідэалагічных аргументаў: «...Узаконьваюцца даўно ўжо ўжываемыя ў савецкім друку формы** *дзеяслоўных прыметнікаў* **абодвух часоў абодвух станаў:** *існуючы, -ая, -ае, існаваўшы, -ая, -ае, эксплёатуемы, -ая, -ае...* **супроць якіх так змагаліся нацдэмы, аргумэнтуючы адмоўныя адносіны да гэтых форм спасыланьнем на адсутнасьць іх у сялянскіх гаворках. Патрэбнасьць увядзеньня гэтых форм даказваецца неабходнасьцю адрозьніваць у мове сэнс такіх выразаў, як** *эксплёатуемая кляса* **ад выразу** *эксплёатаваная кляса* **і пад. Ясна, што прапанаваная нацдэмамі форма** *эксплёатаваны* **ў сэнсе дзеяпрыметніка цяперашняга часу прыводзіць да грубага палітычнага скажэньня сэнсу».**

**Але характэрна, што нават такі, амаль дарэшты ідэалагізаваны і падпарадкаваны «барацьбе з нацдэмамі» праект не ўводзіў зменаў у правапіс, а, значыць, у «еўрапейскае» вымаўленне зычных у іншамоўных словах:**

**«Упарадкавана перадача чужаземнага |... Наогул... проект ухіліўся вялікадзяржаўніцкіх тэндэнцый, якія выяўляліся ў імкненьні даныя факты замежных слоў перадаваць абавязкова ў рускім вымаўленьні»... Праект раіць пісаць** *блюза, навэля* **і г. д.**

**Аднак за летнія месяцы 1933 г., за час пасля публікацыі Праекта'33 (чэрвень), становішча абвастрылася яшчэ больш. З пачатку года, зважаючы на папярэджанне Сталіна пра тое, што «могуць аджыць і заварушыцца групы буржуазных нацыяналістаў у цэнтры і на ўскраінах», «Правда» пачала рэгулярна публікаваць матэрыялы з Беларусі пра недастатковую барацьбу з «нацдэмамі» і «нацыянал-ухілістамі». Быў зняты з пасады Пятро Бузук і сасланы ў Волагду. Дырэктарам быў прызначаны Андрэй Александровіч, пра мовазнаўчыя пазіцыі і пазнанні якога сведчыць праграмны выступ на адной з нарадаў: «Шмат нацдэмы нашкодзілі ў пытаннях «окання» ў словах іншамоўнага паходжання. Такія словы, як «кааперацыя, калгас, трактар» і іншыя, пісалі праз «о», матывуючы гэта правіла тым, што словы «калгас», «кааперацыя» і другія не прыняты беларускай мовай, не ўвайшлі ў быт, што яны па сваёй прыродзе чужыя беларускай мове. Што слова «калгас» і падобныя ім чужыя і варо-**

жыя нацдэмам гэта зразумела, як і зразумела буржуазна-класавая «апрацоўка» правапіса нацдэмаўскімі «слупамі мовазнаўства».

Інтэрнацыянальна-рэвалюцыйныя словы, словы, якія народжаны пролетарскай рэволюцыяй і якія ва ўсіх мовах сусвета пашырыліся вымаўленнем праз «о»: у нашым новым правапісе гэтая рэволюцыйная якасць захована. Словы «комуна», «комунізм», «рэволюцыя», «совет», «соцыялізм», «большэвік», «піонер», «Комінтэрн», «комсамол», «пролетарый»... пішуцца і ў нас праз «о», г. зн. захоўваецца ў корані іх першакрыніца і гэтым мова ўздымаецца на новую вышэйшую ступень развіцця па шляху пролетарскага інтэрнацыяналізма».

Прашу прабачэння за даўгаватую цытату і пакідаю чытачу магчымасць разбірацца самому, чаму пісаць «трактор» ёсць нацыяналізм, а пісаць «комуна»— сведчанне пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Трэба меркаваць, што менавіта пры чынным удзеле Александровіча былі ўнесены прынцыповыя дадаткі ды змены ў Праект'33. Пастанова Саўнаркама ад 26 жніўня 1926 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса» цалкам дапасавала правапіс «л» і наогул зычных у словах іншамоўнага паходжання да рускай традыцыі (*план*, *сесія*); уводзіла выключна аднолькавыя з рускімі канчаткі назоўнікаў давальнага і меснага склону множнага ліку (брат*ам*, у гарад*ах*); скасавала адметныя формы загаднага ладу (было: нясеце, бярэце; стала — нясіце, бярыце); увяла цэлую катэгорыю «інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных» словаў, дзе не дапушчалася аканне (*совет*, *комуніст* — але *камунальны*, хоць гэта і аднакарэннае з папярэднім слова).

Відавочна, рэформа змяняла не толькі правапіс. Яна ўрывалася ў далікатную сферу вымаўлення і граматычных нормаў, што наогул недапушчальна без грамадскай апрабацыі і відавочных тэндэнцыяў у жывой моўнай практыцы. Рэформа валявым чынам уводзіла ў беларускую мову катэгорыю «дзеяпрыметнікі незалежнага стану, асабліва калі яны азначаюць соцыяльны сэнс, напр.: пануючы клас, а не ... класа, якая пануе».

Якуб Колас, вымушаны, як і астатнія пісьменнікі, нешта сказаць пра рэформу, зрабіў гэта, так бы мовіць, з прыхаванай іроніяй: «... асноўных прынцыпаў (рэформы) тры: палітычны прынцып, навуковы і прынцып практычны (...) Палітычнае ўгрунтаваньне не патрабуе каментарыяў — яно ясна і проста». Аднак пераважная большасць пісьменнікаў выказалася куды больш пэўна. Так, І. Харык, забыўшыся, што ініцыятыўная прапанова скасаваць памякчэнне на пісьме зыходзіла ад «нацдэма» Лёсіка, сцвярджае: «...беларускія фашысты таксама «скорбят» аб лёсе літары «мяккага знака», прычым вельмі ясна выступае за гэтым плачам і брэхам другі знак, а іменна фашысцкі, і вышчараныя воўчыя зубы гэтых паноў».

Па другі бок «зялёнае мяжы», у Вільні, на рэформу адназначна негатыўна адрэагавала практычна ўсё навуковае грамадства. Ніводная газета, часопіс, кніга, незалежна ад палітычнай арыентацыі іхніх аўтараў і рэдактараў, у Вільні да 1939—40 гг. не выйшлі правапісам узору 1933 г. Папулярны месячнік «Шлях моладзі» змясціў вострую нататку «Недарэчная рэформа»: «Ня мае аднак ніякіх жыцьцёвых падставаў тая рэформа, якая йдзе наперакор духу мовы, і заместа ўсталіць пэўныя правы, існуючыя ўжо ў практыцы,— накідае згары правілы, будучыя ў супярэчлівасьці з жывой мовай, калечучы яе ў імя палітычных тэндэнцыяў». Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні 31 кастрычніка 1933 г. правяло прысвечанае

рэформе паседжанне, дзе прыняло рэзалюцыю пратэсту, прызнаўшы прынамсі палову зменаў русіфікацыйнымі (у працы БНТ бралі ўдзел такія вядомыя навукоўцы і грамадскія дзеячы, як А. Луцкевіч, Р. Зямкевіч, Я. Шнаркевіч, А. Бартуль, М. Шкялёнак, М. Іллямэвіч, Ул. Самойла, а. Ул. Талочка, Ян Станкевіч. Апошні прысвяціў падрабязнаму аналізу рэформы кнігу «Зьмены беларускага языка ў БССР» (1937).

Сам Браніслаў Тарашкевіч, якога польскія ўлады ў свой час не выпусцілі ў БССР для ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі, досыць асцярожна паставіўся нават да яе рашэнняў: «...Непавязаныя, паасобныя зьмены *«на лепшае»* могуць заграмазьдзіць і загарадзіць дарогу да запраўды *добрай* рэформы.

Дзеля гэтага аўтар устрымаўся ад увядзеньня і тых зьмен, якія прыняла «Акадэмічная Конфэрэнцыя...»— пісаў Тарашкевіч у прадмове да V выдання свае «Граматыкі». Напярэдадні той канферэнцыі Тарашкевіч адмоўна адказаў на пункт анкеты аб магчымым скасаванні асіміляцыйнага «ь». Апынуўшыся ў 1933 г. у СССР, Тарашкевіч адразу адбыў у ганаровую ссылку ў Маскву, і пра яго сапраўднае стаўленне да рэформы нічога не вядома.

Рэформа 1933 г. яшчэ чакае ўсебаковай ацэнкі. Аднак ужо ў 1968 г. аўтарытэтныя мінскія навукоўцы І. Крамко, А. Юрэвіч і А. Яновіч заўважалі, што для моўных зменаў у БССР «рашаючым, відаць, трэба прызнаць уздзеянне рускай літаратурнай мовы».

У заходняй палове Беларусі правапіс развіваўся на аснове кірыліцы і лацінкі, захоўваючы пераемнасць з Тарашкевічавымі ідэямі, без умяшання дзяржаўнай волі. Поруч з больш традыцыйнаю мовай і пісьмом Антона Луцкевіча ці Адама Станкевіча вызначылася моўная школа Яна Станкевіча (яму належала прапанова абазначаць мяккасць у прыназоўніках: *зь мейсцам*, іншыя прапановы). «Родная мова», «Родныя гоні», «Нёман», часткова «Шлях моладзі» арыентаваліся болей на канцэпцыю ўдасканаленай тарашкевіцы Яна Станкевіча, хадэцкія ж выданні мелі за аўтарытэт мову Адама Станкевіча.

Тарашкевічаў правапіс выкарыстоўваўся на Беларусі падчас другой сусветнай вайны (граматыка Тарашкевіча выйшла ў Менску шостым выданнем накладам 100 тыс. асобнікаў). Удакладніў правапіс запазычанняў у Тарашкевічавай правапіснай традыцыі Антон Лёсік, якому пашчасціла вырвацца жывым са сталінскіх лагераў (ягоны «Беларускі правапіс» пабачыў свет у Менску ў 1944 г. таксама вельмі вялікім накладам). Па вайне на эміграцыі было ўкладзена некалькі падручнікаў: арыгінальны — Яна Станкевіча (прызнанне меў невялікае) і больш вытрыманы ў традыцыйным Тарашкевічавым духу «Fundamental Byelorussian» (падручнік беларускай мовы) Валянціны Пашкевіч, што жыве ў Канадзе. Гэты двухтомнік выйшаў у 1974—1978 гг., мае англа-беларускі і беларуска-ангельскі слоўнік і сёння з'яўляецца найбольш аўтарытэтным для большасці карыстальнікаў тарашкевіцы.

Суіснаванне двух варыянтаў правапісу і нават літаратурнай мовы ў аднаго народа — вялікая праблема. Аднак гэта — непазбежная расплата за гады, калі ў ахвяру прыносіліся і законы мовы, і нацыянальная годнасць.

**Вінцук ВЯЧОРКА**

**Ад рэдакцыі.** Спадзяемся працягнуць гутарку пра гісторыю правапісу на старонках «Спадчыны».

СЫМОН БРАГА

# ДОКТАР СКАРЫНА Ў МАСКВЕ*




Карта Масковіі ды суседніх краін. З кнігі С. фон Герберштэйна «Масковія».

## (...) 2

На думку аб падарожжы ў Маскоўшчыну Скарыну маглі наводзіць найперш чыста практычныя меркаваньні — спроба знайсьці шырэйшыя рынкі збыту для выдадзеных праваслаўных рэлігійных кнігаў, рынкі, якія паза межамі Вялікага Княства Літоўскага існавалі якраз на ўсходзе. Хоць матывы перакладу кнігаў Бібліі на беларускую мову й іх друку для «люду паспалітага» ў Скарыны былі бясспрэчна патрыятычна-ідэйныя, і хоць кнігі былі прызначаныя ў першую чаргу для ягонае-ж бацькаўшчыны Беларусі, тым няменш яго, як выдаўца, не магло ня цікавіць пытаньне магчымасьці далейшага іх пашырэньня, хоць-бы для тога, каб за вырučаныя грошы праводзіць далей шырака задуманае выдавецтва, а найперш — давесьці да завяршэньня справу выданьня ўсіх кнігаў перакладзенае ім Бібліі.

Доктару Скарыне магло карціць і выясьніць магчымасьці наладжаньня друкарскае справы ў самой Маскве. Як ведама, з тых ці іншых прычынаў ягонае выдавецтва ў Празе, а пасьлей у Вільні абарвалася. Маскоўскае-ж княства ў Скарынаву пару вырасла ўжо ў вя-

* Друкуецца паводле зборніка «Запісы». Мюнхэн, Беларускі інстытут Навукі і Мастацтва, 1963. Кн. 2.

лікую дзяржаву й прастораю, і сваім, блізу вылучна праваслаўным паводля веры, жыхарствам. Маскоўскія князі да пачатку XVI стагодзьдзя ня толькі здолелі атрэсьціся ад татарскага ярма, але пасьпелі ўжо самі падбіць Вялікі Ноўгарад (1480 г.), Пскоў (1510 г.) дый захапіць ад Вялікага Княства Літоўскага Смаленск (1514 г.). Дык ня дзіва, калі Скарыне магло выдавацца, што на ўсходзе, у Маскоўшчыне, ляжаць адлогам вялізарныя прасторы для піянэрскае культурнае дзейнасьці ў галіне праваслаўнага рэлігійнага друку.

Маглі ў доктара Франьцішка Скарыны паўстаць зацікаўленьні Масквою й як месцам практычнага прытарнаваньня свае мэдычнае прафэсіі. Палажэньнем і працаю ў Вільні Скарына выразна ня быў задаволены й шукаў іншага, новага асяродзьдзя для прытарнаваньня свае шырокае веды. Пра гэта нам сьветчыць ягоны выезд вясною 1530 году да Каралеўца дый кароткатрывалы эпізод ягонага тамака прабываньня на двары прускага гэрцага Альбрэхта. Аб гэтым-жа гаворыць і тое, што пазьней доктар Скарына пакінуў Вільню назаўсёды дый асеў на становішчы батаніка-садоўніка караля Фэрдынанда I ў чэскай Празе. А. В. Флароўскі дапушчае, што Скарына мог зацікавіцца Масквою й з гандлёвага гледзішча, бо-ж сяньня ведама, што побач лекарскае прафэсіі дый друкарска-выдавецкае справы, у патрэбе ён ня цураўся й свайго радавога занятку — гандлю. Сьветчаць аб гэтым дакумэнты, на якія ў дваццатых гадох гэтага стагодзьдзя натрапіла ў пазнанскіх меставых актах М. Вайцяхоўская. Тамака адзначана, што доктару Скарыне ягоны брат Іван быў вінаваты за дастаўленае ліёнскае сукно 11 коп літоўскіх грошаў.

Дык было шмат прычынаў, якія маглі накіроўваць увагу Скарыны да справы падарожжа на ўсход, у Маскоўшчыну. З другога-ж боку магло паўставаць перад ім і яшчэ больш вельмі паважных засьцярогаў супроць такога падарожжа. Найперш — само асяродзьдзе тагачаснае Маскоўшчыны, што ледзь пасьпела вылузацца з татарскага ярма, было гэтак адрозным ад культурна-духовага жыцьця ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім, што калі толькі Скарына ўсьведамляў сабе гэта, падарожжа да Масквы яму, гадунцу тагачасных культурна-інтэлектуальных цэнтраў Эўропы, мусіла-б выглядаць вельмі рызыкоўным. Факт сяньня добра ведамы, што шпаркаму тэрытар'яльнаму росту Маскоўскае дзяржавы канца XV — пачатку XVI стагодзьдзяў дый скрысталізаванай ужо тады яе вялікадзяржаўнай мэце стацца «трэйцім Рымам» — зусім «не адказвала нутраное інтэлектуальнае разьвіцьцё, край быў пазбаўлены ўсякае асьветы й сяродкаў да яе... Асьвета народу і ў XVI і XVII стагодзьдзях застаецца на самай прымітыўнай ступені, блізу зусім не існавала». У тагачаснай Маскоўшчыне навет «складаецца пераканаНьне, што асьвета ня толькі не патрэбная, але можа й пашкодзіць...».

У вадваротнасьць Вялікаму Княству Літоўскаму, якое, асабліва ад пачатку XVI стагодзьдзя, знайходзілася ў беспасярэднім жывым засягу культурных працэсаў заходняэўрапейскага цывілізацыйнага кругу, тагачасная Маскоўшчына бытавала й далей паза эўрапейскім духовым сьветам. Як сьцьвярджае чэскі гісторык Пэрвольф, «...да Пётры Вялікага на Маскоўшчыну ўва ўсёй Эўропе глядзелі як на гаспадарства, што стаяла вонках іншых эўрапейскіх дзяржаваў». І гэтае «вонках» разумелася й палітычна, і культурна. Гэткі пагляд на Маскоўшчыну быў пашыраны найперш у Скарынавую пару, у часы, калі Маскоўскае княства ў кажнай галіне свайго бытаваньня зраджала звычкі, вякамі пераняты ад татарскага складу й ладу жыцьця.



Зіма ў Масковіі. Гравюра з кнігі С. фон Герберштэйна «Масковія».

Яшчэ ў канцы XV стагодзьдзя аб грубой жорсткасьці маскоўскіх звычаяў трагічна пераканаліся два заходняэўрапейскія лекары. Каля 1485 году ў Маскве знаходзіўся лекар «Немчын Антон», якога маскоўскі князь Іван III меў быццам у васаблівай пашане. Дый давялося лекару гэтаму лячыць раз татарскага князя Каракучу. Лячэньне не ўдалося, хворы памёр. Князь Іван выдаў тады лекара Каракучаваму сыну. Той хацеў адпусьціць яго за вялікі выкуп. Дый Іван III на гэта не згадзіўся, а загадаў лекара забіць. У выніку, Татары завялі Немчына Антона пад Маскварэцкі мост і там, як кажа летапісец, «зарэзалі ножем как овцу». Прысутнага тады ў Маскве італьянскага інжынера-архітэкта Арыстотэля Фіоравантэ, якога вялікі князь запрасіў для будовы цэркваў і перабудовы Крамля, трагэдыя лекара Антона гэтак напалохала, што той пачаў маліць Івана III адпусьціць яго назад у Італію. За гэта вялікі князь загадаў схапіць яго дый аграбіць. Падобнае неўзабаве здарылася й зь іншым лекарам. У 1490 годзе захварэў на ламату ў нагах сын вялікага князя, малады вялікі князь Іван. Быў гэтым часам у Маскве лекар «майстра Лявон Жыдовін» з Вэнэцыі. Лячыць сына князь загадаў яму. Майстра Лявон лячыў, як мог — прыкладаў да цела шклянкі з гарачаю вадой, даваў хвораму піць лекі. Дый стан пацыента, заміж лепшаць, горшаў, а хутка ён і памёр. Тады Іван III загадаў лекара схапіць і кінуць у цямніцу. Калі-ж ад сьмерці князевага сына мінула 40 дзён, майстру Лявона завялі на маскоўскую плошчу Балваноўку й тамака адсеклі яму галаву. Падобныя факты, пэўне-ж, не маглі заахвочваць Скарыну, самога лекара, да падарожжа ў Маскву. А пра незавідную долю лекараў у Маскве Скарына мог чуць яшчэ ў гады свайго юнацтва ў ня

гэтак далёкім ад Масквы Полацку, зь якім, нягледзячы на частыя тады войны Маскоўшчыны зь Вялікім Княствам Літоўскім, усё-ж існавалі гандлёвыя дачыненьні.

Да Скарыны мог дайсьці слых і пра ня менш трагічны лёс і першага ведамага друкара, што адважыўся накіравацца ў Маскоўшчыну. Паводля актавых і летапісных вестак маскоўскіх і нямецкіх, у 1493 годзе паехаў да Масквы, з мэтаю наладзіць тамака друк, ведамы тады любэцкі друкар Баўтрамей Готан. Пра нейкія практычныя вынікі ягоных друкарскіх плянаў у Маскве ў гісторыі няма ніякіх сьлядоў. Але ведама затое, што ўжо праз паўтара года, у годзе 1495, Баўтрамея Готана зьвінавацілі ў гарэзіі, аграбілі й — утапілі. Пра долю лекароў і друкара Готана, трагэдыі якіх разыгрываліся ў Маскве яшчэ ў гады Скарынавага маленства, мог ён ведаць, мог і не. Але мусіў ён чуць і знаць пра іншыя, пазьнейшыя факты яскравае нецяляранцыі і грубое жорсткасьці, якіх дазналі ў Маскве чужынцы ўжо ў пару Скарынавае сталасьці дый ягонае бытнасьці ў Вільні.

У Маскве ў тую пару ня было нікога, хто-б разумеў пагрэцку дый мог перакладаць з мовы грэцкае на царкоўнаславянскую патрэбныя рэлігійныя кнігі, найперш — палемічныя кнігі супроць «латынін». Князь Васіль Іванавіч зьвярнуўся таму з просьбаю да манахаў ведамае Афонскае гары ў Грэцыі, каб тыя прыслалі перакладніка. У выніку гэтага ў 1518 годзе да Масквы на «часовую» перакладніцкую працу прыяжджае Максім Грэк. Быў гэта чалавек строгае асцэтычнае маралі й высока адукаваны. Хоць дактаратаў і ня меў, але, як і Скарына, вучыўся на ўнівэрсытэтах Італіі, студыяваў там клясычныя мовы дый царкоўную й філязафічную літаратуру, слухаў у Флярэнцыі палкія прамовы фанатычнага Саванаролі. Максім Грэк хутка справіўся з даручэньнем перакласьці «Талковы псалтыр» і хацеў варочацца назад у Грэцыю. Дый князь Васіль яго не адпускаў, а вымагаў перагляду й выпраўленьня царкоўнаслужэбных кнігаў і больш перакладаў.

Колькі год пасьлей, якраз вясною 1525 году, калі ў Вільні доктар Скарына ўзводзіў верставы стоўп культурнае гісторыі Беларусі, выпускаючы ў сакавіку месяцы зь першае на беларускай зямлі друкарні першую кнігу «Апостала»,— у Маскве, у красавіку-травені таго-ж году, саборам судзілі найбольш асьвечанага тамака чалавека — Максіма Грэка. Вінавацілі яго ў «еллінскіх» дый «жыдоўскіх ерасях» і «чарах», а на довад гэтага прыводзілі памылкі, зробленыя ім пры перакладзе рэлігійных кнігаў і выпраўляньні кнігаў літургічных, хоць недакладнасьці гэтыя відавочна й лёгка паясьняліся слабою ведаю Максіма Грэка ў царкоўнаславянскай мове дый звычайнымі памылкамі пісцоў. Максім Грэк да віны ня прызнаваўся, каяцца ня каяўся, а, наадварот, сваю справу яшчэ яўна пагоршыў тым, што перад саборным судом выказаў сумляваньне ў аўтакефальнасьці й прававерности маскоўскае праваслаўнае царквы. Ягоным галоўным прасьледнікам і супраціўнікам быў тагачасны маскоўскі мітрапаліт Даніла. Сабор засудзіў Максіма Грэка на манастырскае зьняволеньне. Князь Васіль прысуд пацьвердзіў, і няўдатны перакладнік быў сасланы ў Валакаламскі манастыр дый кінуты тамака ў цямніцу «обращения ради и покаяния, и исправления», із строгаю забаронаю перапісвацца зь кім-небудзь і наагул пісаць. Шэсць год пасьлей, у 1531 годзе, яго ізноў прывезьлі ў Маскву дый нанава саборам судзілі за новавыкрытыя памылкі перакладаў. Цяпер Максім Грэк тройчы падаў ніцма перад саборам, каяўся, прызнаваўся ўжо да



Маскоўскі цар Васіль III. З кнігі С. фон Герберштэйна «Масковія» (1577).

памылак, апраўдваўся людзкой слабасьцяй і недасканаласьцяй, із сьлязьмі ў вачох прасіў дараваць яму памылкі, маліў у мітрапаліта Данілы й саборнага духавенства зразуменьня й літасці. Дый нічога не памаглі ні мольбы, ні каянкі, ні самапаніжэньні. Гэтым разам сабор адлучыў, на дадатак, Максіма Грэка ад сьвятых тайнаў, і яго, скаванага, павалаклі ізноўка ў цямніцу, цяпер ужо ў Атроцкі манастыр у Цьверы.

Пазьней Максім Грэк прасіўся ня раз у вялікага князя пусьціць яго назад у Грэцыю, на Афонскую гару ў манастыр, дый дарма. Бяз выніку засталіся й няўтомныя захады-просьбы Афонскіх манахаў дый заступніцтвы антыяхійскага й канстантынопальскага патрыярхаў ад імені ўсяго сабору дый патрыярха ярузалімскага. Усе гэтыя стараньні лёс Максіма Грэка канчаткова прыпячатвалі, бо вялікі князь і мітрапаліт Даніла, калі пабачылі, якую павагу й пашану мае іхны зьняволены «гарэтык» сярод найвышшых галоваў усіх праваслаўных цэркваў, баяліся выпускаць яго ўжо хоць-бы й дзеля таго, каб ён не раскрыў перад праваслаўным сьветам невуцтва й забабон-

най цемнаты тагачаснага маскоўскага духавенства, вялікакняжага двара дый усяго маскоўскага грамадзтва.

Калі толькі Скарына, сам перакладнік рэлігійных і царкоўнаслужэбных кнігаў, чуў тады ў Вільні пра трагічную долю Максіма Грэка — падарожжа да Масквы не магло выглядаць яму шматабяцаючым. І тым больш, што блізу гэтым самым часам дужа няпрыемная прыгода ў Маскоўшчыне здарылася й зь віленцам, якога Скарына добра знаў і зь якім даводзілася быць яму ў блізкай сутычнасьці ў выдавецкай справе — купцом Багданам Онкавам-Анкевічам. Пра гэты факт, зьвязаны беспасярэдня зь Вільняю, Скарына ўжо напэўна мусіў чуць і ведаць.

На аснове апублікаваных маскоўскіх архіўных матар'ялаў можна сьцьвердзіць, што ў Кракаве 30 сакавіка 1527 году паслом вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча — Івану Васілевічу Ляцкаму дый дзяку Ялізару Цыплятаву — ад імені караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча быў уручаны сьпіс гвалтаў і крыўдаў, якіх дазналі падданыя Вялікага Княства Літоўскага на тэрыторыі Маскоўшчыны або на сумежных Маскве валасьцёх Літвы, з дамаганьнем гвалты й крыўды спыніць, пакрыўджаным «справялівасьць учыніць без адвалокі» дый вінаватых пакараць.

> «Да мещчанина виленского Богдана Онкова на (Велико) лутцкой дорозе розбили, листы у него отняли Можайских и от Шемячича; в одном листу четыреста коп шірокіх грошей, а в другом лісту пять сот коп грошей, полтораста рублев денег готовых, чара серебряна позолочена, ложка, святость; и князь велики приказал дать на поруку их разбойников. Андреа да Ждана, Перетрутовых детей и сына Жданова Мартына, водлуг ему умовы и отворота не учинили».(...)

Названыя ў актах прозьвішчы Мажайскага й Шэмячыча належаць северскім удзельным князём: старадубскаму князю Васілю Сямёнавічу Мажайскаму дый ноўгарад-северскаму Васілю Іванавічу Шэмячычу. Калі, як згадваецца ў другой актавай вэрсіі, справа «разьбіцьця» Багдана Анкевіча падымалася ў Маскве ўжо раней — «будучы нашым паслом у вялікага князя»— дык сам факт аграбленьня мусіў здарыцца найпазьней у першай палове 1526 году, бо «веруючыя лісты» паслом — ваяводзе полацкаму Пётры Кішцы дый маршалку й пісару Вялікага Княства Літоўскага, старасьце слонімскаму Богушу Багавіціновічу — былі выстаўленыя ў Варшаве Жыгімонтам Казімеравічам 11 жніўня 1526 году, і хутка пасьля гэтага яны да Масквы й ад'ехалі.

Зьмест прыведзеных вышэй дакумэнтаў цікавы й важны для Скарынавае біяграфіі з колькіх гледзішчаў. Багдан Онкаў, ці Анкевіч, сын купца й райцы места віленскага, як ведама, фінансаваў Скарынавыя праскія выданьні. На некаторых экзэмплярах выдадзеных там кнігаў — прыкладам, Псалтыра, кнігі Ёва, Сыраха, Эклезіясты — рукою, магчыма самога Скарыны, паробленыя прыпіскі: «А то ся стало накладом Богдана Онкава сына, радцы места виленскаго».

Адзначыць, найперш, трэба факт вялікіх грашовых сумаў, якімі Багдан Онкаў-Анкевіч апэраваў. Для ўсьведамленьня сабе, чаго былі тады вартыя 900 коп грошаў, пазычаных Анкевічам князём Мажайскаму й Шэмячычу, можна прывесьці факт, што Полацак, другое па вялічыні й багацьці пасьля сталічнае Вільні места Вялікага Княства Літоўскага, плаціў тады ў скарб вялікага князя 400 коп падатку ў год. Дык апіраючыся на грашовую дапамогу вось гэтага ба-

гатага віленскага купца-фінансьера, Скарына й мог выдаваць свае раскошныя праскія кнігі.

(...) Факт аграбленьня ў Маскоўшчыне ведамага віленскага купца й немагчымасьць дабіцца звароту ані зрабаванае маемасьці, ані навет «запісных лістоў», напэўна былі галоснымі ўва ўсей тагачаснай Вільні. Мусіў ведаць пра гэтае здарэньне й Францішак Скарына. І гэтая прыкрая прыгода ў Маскоўшчыне з выдатным віленскім мешчанінам, якога Скарына добра знаў, не магла быць заахвочаньнем да падобнага падарожжа ў тую-ж Маскву самому Скарыне.

І ўсё-ж, нягледзячы на ўсе вышэй прыведзеныя яскравыя прыклады маскоўскае жорсткасьці ў абыходзе з чужынцамі, якія маглі стрымліваць Скарыну перад падарожжам да Масквы й як лекара, і як перакладніка рэлігійных кнігаў, і як выдаўца й друкара, і навет як звычайнага купца,— ехаць да Масквы ён усё-ж наважыўся. На довад гэтага маем сяньня хоць і скупыя, але зусім пэўныя весткі. Да разгляду іх, як і самога Скарынавага падарожжа да Масквы, далей і пярэйдзем.

## 3

Сто год таму, у 1862 годзе, у весьцях венскае Імпэратарскае Акадэміі навук гісторык Язэп Фідлер апублікаваў працу «Спроба зьяднаньня расейскае царквы з рымскаю ў XVI стагодзьдзі». Напрыканцы яе Фідлер прывёў даслоўны лацінскі тэкст цікавага дакумэнту да гэтага пытаньня, які ён знайшоў у венскіх архівах,— копію інструкцыі караля польскага й вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры папе ў Рыме Альбэрту Крычку. Інструкцыя гэтая не датаваная, але пісаная яна нейдзе на самым пачатку 1553 году й дае пагляды Жыгімонта Аўгуста й ягонае сэнатарскае рады ў справе наступнай:

На падставе даручэньня й паўнамоцтваў з Масквы, нейкі Немец Ёган Штайнбэрг на працягу 1552 году чыніў у Рыме энэргічныя захады перад папаю Юльянам III у справе наданьня каралеўскага тытулу й кароны тагачаснаму вялікаму князю маскоўскаму Івану Васілевічу Грознаму. Іван Грозны за карону абяцаў прызнаць над сабою духоўны аўтарытэт папы дый пастарацца давесьці да зьяднаньня цэркваў маскоўскае праваслаўнае з рымскаю. Папу справа гэтая вельмі зацікавіла й да маскоўскае прапановы паставіўся ён прыхільна, тым больш, што пасьля спадзяванага зьяднаньня Маскоўшчыны з Рымам меў надзею ўлучыць яе ў плянаваны паход хрысьціянскіх дзяржаваў супроць пагражаючае тады ўсёй Эўропе Турэччыны. Аднак-жа, перш чым прыняць у гэтай справе нейкія пастановы й пачыніць канкрэтныя крокі, папа даручыў пратэктару Польшчы пры сваім пасадзе, кардыналу Мафеі, паведаміць аб усім і напэўна вельмі зацікаўленага гэтым пытаньнем суседа Маскоўшчыны, вялікага князя літоўскага й караля польскага Жыгімонта Аўгуста, з просьбаю заняць у гэтай справе становішча.

Вось у адказ на паведамленьне з Рыму пра захады Грознага ў справе каралеўскага тытулу й кароны была й пісаная інструкцыя Жыгімонта Аўгуста свайму паслу пры папе, Альбэрту Крычку, з даручэньнем перадаць пагляды караля й ягонае сэнатарскае рады папе й адпаведнай кардынальскай кангрэгацыі. У інструкцыі Жыгімонт Аўгуст даводзіў, што князь маскоўскі яднацца шчыра з каталіц-

каю царквою ніколі ня думаў і ня думае. Ідзе яму толькі пра тое, каб вымануць сабе ад папы каралеўскі тытул і карону. Пра зьяднаньне гаворыць ён цяпер толькі дзеля свае знанае прагнасці тытулаў, бо-ж ведама, што маскоўскі князь дамагаецца ўжо навет таго, каб яго называлі царом. Паводля Жыгімонта Аўгуста, ніякае дапамогі маскоўскі князь ня дасьць і ня можа даць папе й у паходзе супроць Туркаў. У выніку наданьне маскоўскаму князю каралеўскага тытулу й кароны ня прынясе аніякае карысьці папскаму пасаду й хрысьціянству. Для Жыгімонта-ж Аўгуста й ягоных дзяржаваў крок гэты ня толькі непажаданы, але палітычна вельмі шкодны й небясьпечны. На падмацаваньне правільнасьці цьверджаньня, што Масква й князі маскоўскія ненавідзелі й ненавідзяць Рым і каталіцтва, Жыгімонт Аўгуст прыводзіць у інструкцыі цэлую чараду довадаў і гістарычных фактаў. Між іншым, дае ён і гэткі канкрэтны прыклад:

> «І ня толькі ня было ў яго (маскоўскага князя) дасюль нічога, апрача пустых абяцанак, а ў Маскоўцаў ніякіх азнакаў якое-колечы прыхільнасьці да Рымскае Каталіцкае Царквы, але хутчэй нешта адваротнае, бо, *калі вось у часе панаваньня нашага Нябожчыка бацькі адзін ягоны падданы, кіруючыся пабожным жаданьнем, пастараўся сьвятое пісьмо рускаю моваю надрукаваць і выдаць дый пайшоў да Масквы, кнігі ягоныя на загад Князя публічна былі там спаленыя дзеля таго, што належыў ён да Рымскае царквы дый што (кнігі) выдадзеныя былі ў мясцох, што падлягаюць ейнай зьверхнасьці.* Гэткая ненавісьць да лацінскага й рымскага імені ўкарэненая ў народзе гэтым, што якімі-б сьвятымі й багабойнымі пад зьверхніцтвам Рымскага Пастыра быць яны ні прыракалі-б, ніколі ня трэба верыць, што чыняць гэта шчыра дый што запраўды будуць стойкімі й вытрывалымі».

Паколькі ў прыведзенай вышэй вестцы Жыгімонта Аўгуста прозьвішча не падаецца, паўстае само сабой пытаньне: хто-ж гэта быў гэты няўдатны перакладнік і выдавец сьвятога пісьма, кнігі якога ў Маскве былі спаленыя? Пытаньне гэтае найраней у навуковай літаратуры паставіў чэскі гісторык Язэп Пэрвольф, які першы адзначыў культурна-гістарычную цікавасьць прыведзенага ў інструкцыі эпізоду паленьня ў Маскве кнігаў. У другім томе свае працы «Славяне», што паказаўся ў друку яшчэ ў 1888 г., Пэрвольф цытуе адпаведнае месца зь інструкцыі з сваею кароткаю заўвагаю: «Гутарка гэтта, праўдападобна, аб Скарынавых кнігах».

Дый, хоць тэкст інструкцыі быў апублікаваны ўжо сто год таму, а прыведзены ў ей эпізод аб спаленьні ў Маскве біблійных кнігаў яшчэ ў мінулым стагодзьдзі зь імем Скарыны зьвязваў Пэрвольф,— факт гэты заставаўся чамусьці незаўважаным у даволі багатай ужо тады й далей шпарка нарастаючай скарынаведнай літаратуры. (...) ...Пасьлей і заўвагу Пэрвольфа, і адпаведнае месца зь інструкцыі, апублікаванай Фідлерам, у друку нанава прывёў дый у сваіх працах прыдзяліў ім ужо больш увагі праскі гісторык А. В. Флароўскі. Але ягоныя публікацыі, што краналі гэтую справу, паказаліся ў часе Другое Сусьветнае вайны й адразу посьля яе, і з прычыны цяжкога гістарычнага катаклізму, які перажывала тады Эўропа, даўжэйшы час заставаліся незаўважанымі. (...)

яго мастацкая дзейнасць была абумоўлена выключна своеасаблівым філасофскім асэнсаваннем жыцця.

Малевіч ніколі не ішоў на кампрамісы. У яго не было заказных, выпадковых рэчаў. Ён мог ствараць вобразы работніц, сялянак, гандлярак кветкамі, садоўнікаў, коннікаў, цесляроў, але толькі не правадыроў. Памёр Малевіч у 1935 г.— непрыручаным, нераздаўленым. Урну з прахам устанавілі ў чыстым полі каля дачы мастака ў Нямчынаўцы. На магіле — супрэматычны куб з чорным квадратам. Прарывы ў сусвет скончыліся растварэннем ў ім.

І пасля смерці Казімір Севярынавіч заставаўся парушальнікам спакою. Яго часта ўспаміналі нядобрым словам. З усёй творчасці звычайна вылучалася адна работа —«Чорны квадрат», яна павінна была стаць доказам заняпаду буржуазнага мастацтва, яго руху да самаадмаўлення, да пагібелі. Усё астатняе ў спадчыне майстра мімаходзь адмаўлялася: познія рэчы — як слабыя, пазбаўленыя майстэрства, раннія — як перайманне Захаду. Так стварылася ўяўленне пра Малевіча як «вынаходніка» абстракцыянізму, не мастака, а спрытнага трукача.

За мяжою існуе іншы погляд на Малевіча: яго лічаць майстрам, які істотна паўплываў на мастацтва XX ст., асабліва архітэктуру і дызайн, стварыў своеасаблівы стыль эпохі, у ім цэняць смелага эксперыментатара, які пашырыў рамкі традыцыйнага разумення жывапісу. Але тут яго супрэматызм супрацьпастаўлены ўсёй астатняй творчасці.

Малевіч, дарэчы, яшчэ ў 1915 г., да выставы «О. 10» выдаў маніфест «Ад кубізму і футурызму да супрэматызму», які тлумачыў прынцыпы яго новага жывапісу як працяг усеагульнага руху да вызвалення мастацтва ад рэчаіснасці, ад панавання ў ім функцый жыццепабудовы. «Чорны квадрат» стаў своеасаблівым вынікам ранейшых пошукаў Малевіча і заклікам да патаемнай сілы, што фарміруе жыццё сусветнай прасторы.

Малевіч прадбачыў часы, калі міжпланетныя палёты зробяцца звычайнай з'явай, а ланцуг спадарожнікаў Зямлі дазволіць чалавеку пранікнуць далёка ў космас, дзякуючы створаным «планетам для землянітаў», гарадам, што лунаюць у касмічнай прасторы. На зямлі ж і дамы, і рэчы павінны адпавядаць новаму вобразу жыцця, зарыентаванаму на космас. Малевіч праектуе спецыяльныя канструкцыі — архітэктоны, якія арганічна спалучаюць службовую функцыю і дзівосныя формы касмічных храмаў. І нават стварае напружаны «аб'ёмны супрэматызм», напружаныя аб'ёмы ў танальнасці архітэктонаў.

Адразу ж пасля прыезду ў Віцебск Малевіч заняўся агітмасавым мастацтвам: ён не мог ніводнага дня правесці без творчай працы. Шматлікія будынкі горада ўпрыгожылі яго вялізныя пано, якія ўстанаўліваліся на спецыяльных стэндах. Па яго эскізах афармляліся і агітацыйныя трамвайныя вагоны, дзе асноўным стрыжнем кампазіцыі былі словы папулярнага ў тыя гады лозунга: «Владыкой мира будет труд!» Выяўленчы прыём Малевіча быў такі: словы лозунга разбіваліся на асобныя склады, кожны склад адрозніваўся шрыфтам, колерам і велічынёю літар, якія размяшчаліся не па адной лініі. Усё гэта разам з афарбаванымі геаметрычнымі канструкцыямі рознай канфігурацыі і велічыні, размешчанымі таксама, здавалася, бязладна, бессістэмна, адразу кідалася ў вочы, запаміналася.

Паказальна, што эмблемай наладжанай у 1967 г. у Варшаве рэтраспектыўнай выставы «Мастацтва эпохі рэвалюцыі» стаў менавіта гэты рэканструяваны паводле эскізаў віцебскі агіттрамвай Малевіча. На выставе экспанаваліся так-

сама і макет вясковага Дома культуры работы Лісіцкага, які сімвалізаваў рэвалюцыйную эпоху і новыя тэндэнцыі ў архітэктуры; афорты Шагала; літаграфіі Малевіча; кніжнае афармленне Лісіцкага, Філонава, Радчанкі, Бурлюка, Разанавай, Ганчаровай; гравюры Фаворскага.

У стылі Малевіча яго вучні размалёўвалі не толькі трамваі, але і дамы і нават цалкам кварталы Віцебска. Цікавыя сведчанні пакінуў нам С. Эйзенштэйн. «Дзіўны правінцыйны горад,— успамінае ён.— Як многія гарады заходняга краю — з чырвонай цэглы... Але гэты горад асабліва дзіўны. Галоўныя вуліцы тут пакрытыя белай фарбай па чырвонай цэгле. А па белым тоне разбегліся зялёныя кругі, аранжавыя квадраты, сінія трохкутнікі. Гэта Віцебск 1920 года. Па цагляных яго сценах прайшоўся пэндзаль Казіміра Малевіча. «Плошчы — нашы палітры»— гучыць з гэтых сцен... Перад вачыма аранжавыя кругі, чырвоныя квадраты, зялёныя трапецыі мімалётнага ўражання ад горада. Супрэматычныя канфеці, раскіданыя па вуліцах здзіўленага горада».

Гэта былі гады народных маніфестацый, сходаў і мітынгаў. «Трыбунная патэтыка» выклікала да жыцця будаўніцтва трыбун для прамоў, якія канструяваліся і ўпрыгожваліся згодна з патрабаваннямі «рэвалюцыйнага стылю»— ярка феерычна і ў той жа час проста, лаканічна. Распрацоўвалі праекты і эскізы такіх трыбун ў асноўным Малевіч, Лісіцкі і іх вучні Суэцін і Чашнік.

Мастакі выявілі сябе яшчэ ў адной галіне агітацыйнай прадукцыі — у праектаванні ўзораў агітацыйнай парцэляны: рэчаў паўсядзённага ўжытку, дзе арганічна зліліся форма і слова. Талеркі, сподкі, кубкі, сервізы для гарбаты, кавы станавіліся як бы полем для шырокага выкарыстання новай савецкай эмблематыкі, афарызмаў, лозунгаў, адозваў, часам і сцэнак народных гулянняў.

Віцебскія скульптары першыя на Беларусі пачалі здзяйсняць план манументальнай прапаганды. 25 мая 1920 г. вуліцы горада былі запоўнены вялізнымі калонамі працоўных, якія са сцягамі, лозунгамі і плакатамі, у суправаджэнні ваенных аркестраў накіроўваліся на ўрачыстасці адкрыцця помнікаў К. Марксу і К. Лібкнехту. Першы з іх быў пастаўлены ў Пушкінскім скверы (былым Дваранскім), другі — у садзе «Ляпкі». Аўтарам помнікаў быў малады скульптар Д. Якерсон. А яшчэ раней, у сярэдзіне 1919 г., з'явіўся створаны ім помнік К. Марксу ў Полацку і бюст К. Марксу ў Невелі. Урачыста быў адкрыты 18 верасня таго ж года і помнік вядомаму швейцарскаму педагогу-дэмакрату Песталоці, выкананы А. Бразерам, а бюст К. Маркса яго ж аўтарства знаходзіўся перад віцебскім Палацам працы.

У тыя рэвалюцыйныя гады Віцебск узбагаціўся таксама помнікамі Р. Люксембург, Ф. Дасалю, Л. Талстому. Амаль усе скульптуры былі выкананы пад уздзеяннем «левага» мастацтва і ў недаўгавечных матэрыялах, таму ўсе яны падзялілі долю такіх самых часовых помнікаў Масквы, Петраграда, Кіева і іншых гарадоў краіны: праз некаторы час яны былі знятыя.

Калі ў мастацтве 1900-х гадоў гучаў матыў уцёкаў, дык мастацтва 1910-х гг. нарадзілася на свет з дзёрзкім, грубым, гучным голасам. Яно ўсё больш ускладняла сваю мову, асабліва са з'яўленнем кубізму. Але мастакі шукалі разумення. Яны пачалі пісаць маніфесты і тэарэтычныя даследаванні. Толькі ў адным 1921 г. у выдавецтве «Литографии артели художественной работы при Витебских вольных мастерских» былі выдадзеныя такія работы, як «Супрэматызм» і «Аб новых сістэмах у мастацтве» К. Малевіча, «Аб вывучэнні кубізму» В. Ермалаевай, «Пра метад» К. Ма-

левіча, які быў ужыты ў пачатковай кубістычнай мастацкай абстракцыі Н. Коган.

У лістку Віцебскага творчага камітэту № 1 ад 20 лістапада 1920 г. «заснавальнікі новага мастацтва» з пафасам заклікалі насіць «чорны квадрат як выяву сусветнай эканоміі», маляваць у майстэрнях «чырвоны квадрат як сімвал сусветнай рэвалюцыі мастацтваў», ачысціць «пляцы сусветнай прасторы ад усёй пануючай у ёй хаатычнасці».

Вось літаграфічны альманах «УНОВИС», 2-е выданне Віцебскага тваркама за студзень 1921 г. На вокладцы, уверсе, выява Чорнага квадрата, а яшчэ вышэй эпіграф: «Звяржэнне старога свету мастацтваў няхай будзе вычарчана на нашых далонях». Паглядзім альманах. Першы раздзел прысвечаны партыйнасці ў мастацтве. Аўтар М. Кунін заклікае моладзь аб'ядноўвацца ў партыю аднадумцаў і прыхільнікаў новага мастацтва супраць свету, які «адыходзіць ці даўно адыйшоў», супраць «струхлелага і нікому не патрэбнага хламу» ў мастацтве. Другі артыкул Л. Хідэкеля аналізуе працу «УНОВИСа» ў майстэрнях. Ён заканчваецца так: «У тэхнічна-электрычнай дзяржаве няма месца мастаку з яго эстэтычным хламам. А кожнаму творцу ў будучым трэба прыняць удзел у стварэнні магутнай і моцнай культуры, якая набліжаецца ў нашай камуністычнай дзяржаве. З гэтага ўсяго бачым, што мастацкі эстэтызм здаецца нікчэмнасцю на гэты момант. І толькі выхадам на цалкам творчы шлях збудавання і вынаходніцтва мы паслужым... будучай культуры». Далей ішлі яшчэ два артыкулы: І. Чашніка пра архітэктурна-тэхнічны факультэт («Няхай жыве партыя «УНОВИС», што сцвярджае новыя формы ўтылітарнасці супрэматызму!») і Л. Юдзіна «Пра нацюрморт»— абгрунтаванне ідэі растварэння рэчаў рэальнага свету ў новым супрэматычным жывапісе. А ў самым канцы альманаха — заклік: «Таварышы! Рыхтуйцеся да ўсерасійскай вясновай выставы «УНОВИС» у Маскве!»

Выстава ў Маскве адбылася, і многія работы «унавісаўцаў» атрымалі даволі высокую ацэнку. Частка твораў спецыяльнай камісіяй Наркамасветы была адабраная для музеяў краіны. А ў наступным, 1922 г., была арганізавана ў Берлінскай галерэі Ван Дзімена «Першая выстава савецкіх мастакоў», на якой экспанаваліся работы М. Шагала, К. Малевіча, Р. Фалька, В. Ермалаевай. Асаблівым поспехам карысталіся макеты і плакаты Л. Лісіцкага.

Адным з найважнейшых накірункаў дзейнасці «УНОВИСа» было стварэнне «ўтылітарнага свету рэчаў». Адпаведна з гэтым у планах аб'яднання прадугледжвалася распрацоўка праектаў утылітарных будынкаў, аб'ектаў архітэктуры, узораў мэблі, манументальных дэкарацый, інтэр'ераў рознага прызначэння, новых арнаментаў і спосабаў афармлення кніг.

Сутнасць «новага рэалізму» К. Малевіч выказаў у артыкуле «УНОВИС», змешчаным у віцебскім часопісе «Искусство» за 1921 г., № 1. Артыкул выклікаў шмат супярэчлівых водгукаў. Ужо ў наступным нумары часопіса з'явіўся артыкул М. Куніна «Пра УНОВИС», у якім малады аўтар крытыкаваў тэарэтычныя ўстаноўкі свайго настаўніка. «Мы хочам сапраўднай жывапіснай культуры,— пісаў учарашні апалагет авангардызму.— Нам абрыдлі кругі, квадраты, трохкутнікі і бессэнсоўныя словы пра збудаванне рухомых вакзалаў у прасторы і г. д. «УНОВИС» растоптвае і забівае ў памочнікаў майстроў усялякае пачуццё прыгажосці і эстэтычнага ўспрымання...» Дарэчы, такія ж думкі пра «УНОВИС» пазней былі горача падтрыманыя і развітыя многімі з савецкіх даследчыкаў мастацтва паслярэвалюцыйнага перыяду.

Фармальныя ідэі К. Малевіча,

Л. Лісіцкага, М. Суэціна, В. Ермалаевай і іншых віцебскіх авангардыстаў звязаныя з эстэтыкай тэхнічнай цывілізацыі XX ст., яны апярэдзілі і вызначылі многія знаходкі і дасягненні нашай (і сусветнай) архітэктуры, дызайна, прыкладной сферы, кніжнай і прамысловай графікі.

Праіснаваўшы амаль два гады, Свабодныя мастацкія майстэрні былі рэарганізаваныя, дакладней, перайменаваныя ў больш паважную навучальную ўстанову — Мастацка-практычны інстытут. Вобразна кажучы, вучні Свабодных майстэрняў ляглі спаць памочнікамі майстроў, а прачнуліся студэнтамі ВНУ. Здарылася гэта ў лютым 1922 г. Некалькі месяцаў на пасадзе дырэктара працавала В. Ермалаева, а затым 6 снежня новым рэктарам стаў І. Гаўрыс, а прарэктарам па вучэбнай працы — Ю. Пэн.

«Інстытут»— гэта значыць больш высокая ступень падрыхтоўкі «рэвалюцыйных мастакоў»; «практычны»— з вытворча-утылітарным ухілам. У гэтым была пераемнасць традыцый ранейшых школ — рыхтаваць не «наогул» мастакоў, а прыкладнікоў, якія ў асноўным будуць займацца вырабам зручных і прыгожых рэчаў бытавога прызначэння.

Аднак былі і наваўвядзенні. На ўступных іспытах патрабаванні сталі вышэйшыя. Напрыклад, вясною 1913 г. для паступлення ў інстытут трэба было выканаць заданні па малюнку — партрэт натуршчыка алоўкам, па жывапісе — пленэр, куток старога Віцебска з Дзвіною, па кампазіцыі — на вольную тэму. Іспыты па малюнку, жывапісе прымаў Я. Мінін, па кампазіцыі — С. Юдовін.

У інстытуце было тры курсы: на першым занятк і праводзіў С. Юдовін, на другім — А. Бразер, на трэцім — Ю. Пэн. Існавалі жывапісны, скульптурны і графічны факультэты, працавалі мастацка-такарная майстэрня па дрэву, якую ўзначаліла В. Ермалаева, кафедры па гісторыі і філасофіі на чале з Я. Мініным. Вывучалі ў інстытуце таксама перспектыву, тэхналогію матэрыялаў, пластычную анатомію. Агульнаадукацыйныя дысцыпліны не вывучаліся, але добра была наладжана вусная прапаганда: чыталіся лекцыі пра сусветную рэвалюцыю і праблемы «рэвалюцыйнага мастацтва». Перыядычна наладжваліся студэнцкія выставы (апошняя адбылася ў студзені 1923 г.), а таксама конкурсы эскізаў па кампазіцыі на зададзеныя тэмы. Лепшыя творы прэміраваліся пайкамі.

На пачатку красавіка 1923 г. Віцебскі губернскі аддзел Рабоча-сялянскай інспекцыі правёў рэвізію вынікаў дзейнасці мастацкіх вучэбных устаноў Віцебска за перыяд з лістапада 1918 г. да сакавіка 1923 г. Вынікі рэвізіі для інстытута аказаліся несуцяшальнымі. З-за немагчымасці паляпшэння спраў у інстытуце, як адзначалася у акце, яго трэба рэарганізаваць у звычайную сярэднюю мастацкую навучальную ўстанову. Гэты быў першы сігнал. А затым адмоўна была ацэнена выніковая студэнцкая выстава, многія экспанаты якой былі выкананы пад уздзеяннем прыхільнікаў «левага» мастацтва, а ў новых умовах гэта не ўхвалялася. З улікам гэтых і іншых фактараў трэба было прыняць «кардынальнае» рашэнне аб далейшым лёсе інстытута: у ліпені ён быў зачынены, кабператварыцца ў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Гэта рашэнне было падтрымана дэлегатамі губернскага з'езда работнікаў мастацтваў.

У гэты час многіх мастакоў-педагогаў ужо не было ў Віцебску. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны яны пачалі раз'язджацца. У 1921 г. пакінуў родны горад М. Шагал. Спачатку ён жыў у Маскве, пасля за мяжою, у Віцебск больш не вяртаўся. У 1922—1923 гг. ад'ехалі з Віцебска К. Малевіч, Р. Фальк, Л. Лісіцкі, Д. Якерсон, І. Пуні, В. Ермалаева, С. Юдо-

він, Я. Тылберг, К. Багуслаўская.

Дзякуючы К. Малевічу ў Петраградзе ўзнік вядомы Інстытут мастацкай культуры, праз які прайшлі многія буйныя ленінградскія майстры, у тым ліку і былыя віцябчане І. Чашнік, М. Суэцін, Л. Юдзін, Я. Магарыл. Часам заходзіў сюды і малады Андрэй Бембель, студэнт Акадэміі мастацтваў.

Пасля закрыцця гэтай установы ў 1927 г. К. Малевіч працаваў у Зубаўскім інстытуце гісторыі мастацтваў. У апошнія гады жыцця мастак адышоў ад «супрэматычных канфецій», і вярнуўся да рэчавага выяўлення ў жывапісе, да вобраза чалавека. Нягледзячы на цяжкую хваробу — рак, Малевіч працягваў упарта працаваць, прывязаўшы пэндзаль да більярднага кія.

Пераехаўшы ў Маскву, Л. Лісіцкі стаў працаваць прафесарам Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрняў, быў ініцыятарам арганізацыі «Таварыства новых архітэктараў» і мастацкім рэдактарам папулярнага ў свой час часопіса «СССР на стройке». Яго імя было шырока вядома і за мяжой: у ім бачылі носьбіта новай мастацкай ідэалогіі — сусветнага авангарду.

Жыў у Маскве пасля Віцебска і Р. Фальк, які таксама шмат займаўся творчай і педагагічнай дзейнасцю. Сярод яго вучняў былі і беларускія мастакі М. Філіповіч і Л. Зевін.

Адмовіўшыся ад ранейшых захапленняў «кубічнай» пластыкай, скульптар Д. Якерсон у сваіх новых творах 30-х гадоў звярнуўся да рэалістычнага прачытання натуры.

У апошнія гады жыцця В. Ермалаева працавала пераважна як графік-ілюстратар дзіцячай кнігі. У 1938 г. яна загінула ў сталінскіх лагерах.

Мастакі-педагогі Ю. Пэн у Віцебску, А. Бразер у Мінску, С. Юдовін у Ленінградзе пазней займаліся творчай работай. Я. Тылберг стаў прафесарам Латвійскай Акадэміі мастацтваў. Праз усё сваё доўгае жыццё пранёс памяць пра Віцебск М. Шагал. «Я заўсёды памятаю Віцебск і вельмі люблю яго,— пісаў ён.— У мяне няма ніводнай карціны, на якой вы не ўбачыце фрагменты Пакроўскай вуліцы. Гэта, можа быць, і недахоп, але не з майго пункту гледжання.»

Калі ж гаварыць пра вучняў, то многія з іх, атрымаўшы «віцебскую закваску», сталі ў далейшым дзеячамі савецкага мастацтва, своеасаблівымі носьбітамі традыцый Віцебскай мастацкай школы. Напрыклад, М. Суэцін быў галоўным мастаком Ленінградскага завода парцэляны імя Ламаносава. Д. Саннікаў і М. Лерман, атрымаўшы пасля Віцебска архітэктурную адукацыю, паспяхова працавалі ў галіне горадабудаўніцтва. З. Азгур пасля Мастацка-практычнага інстытута працягваў вучобу ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме і ў ВНУ Ленінграда, Кіева, Тбілісі, стаў народным мастаком СССР, акадэмікам.

Аднак у 30-я гг. многія імёны, за рэдкім выключэннем, знікаюць з савецкага мастацтва. Рэпрэсіравалі В. Ермалаеву, аддаюцца анафеме работы К. Малевіча, М. Шагала, Р. Фалька, як і ўся «левая» творчасць паслякастрычніцкіх гадоў. Гэта быў час, калі ў барацьбе культур перамагла трэцяя сіла. Менавіта фальш і падман, процілегласць абвешчаных ідэалаў сталі жахлівай адзнакай яе. Ці не таму нам так няпроста зразумець жывапіс Малевіча, што ён «разважаў з пэндзалем у руках»?

Магчыма, мастакі Віцебскай школы былі ўтапістамі, бо верылі ва ўсемагутнасць мастацтва. Горы не абрынуліся ад іх творчасці, і рэкі не паплылі назад. Але, безумоўна, меў рацыю А. Гаранін, які ўжо ў 1919 г. напісаў, што «Віцебск па свайму ўздзеянню на жывапіс XX ст. ідзе адразу за Парыжам». Так яно і адбылося — сцвярджаем мы ў канцы гэтага стагоддзя.

**Барыс КРЭПАК**

# ВЯРТАННЕ СВЯТЫНІ

Напярэдадні новага года ўзрушаныя вернікі пацягнуліся на плошчу да касцёла Узнясення Маці Божай. А ўсё па той прычыне, што сярод тубыльцаў мястэчка Будслаў у Мядзельскім раёне нехта зламысна пусціў плётку:

— Нашу святыню, Маці Божую злодзеі збіраюцца звозіць!.. На продаж... Вялікія грошы за абраз возьмуць! Жулікаў вунь колькі ў наш час развялося, няма ад іх паратунку... Дабраліся і да Будслава...

Сярод натоўпу сваіх вернікаў ходзіць нейкі разгублены пробашч касцёлаў у Крывічах і Будславе ксёндз Францішак Грынкевіч і тлумачыць:

— Супакойцеся, людцы добрыя! На рэстаўрацыю ў Мінск павязём абраз Маці Божай. Абразу мо за трыста гадоў. Самі ведаеце, які ён закураны, дый увесь у дзірках... Дрэва скрозь прагніло, усё чыста спарахнела... Чуеце, не злодзеі гэта, а мастакі. І не трэба хвалявацца! Пройдзе колькі месяцаў і навюткім стане абраз нашай Маці Божай. Залаценькай нашай...

Ледзьве-такі ўгаварыў святы ойча Францішак тваіх вернікаў, каб тыя не хваляваліся.

І мастак-рэстаўратар Віктар Лукашэвіч некалькі тыдняў запар у сваёй майстэрні не ведаў, як жа падступіцца да унікальнага абраза. Спарахнела начыста паточанае шашалем дрэва, увесь пачарнеў сярэбнаны абклад, цвікі і тыя разлезліся, іржа паела тканіну, на якой была выява Маці Божай... І праўду ж, спазніліся з рэстаўрацыяй ці не на паўстагоддзе, а мо і болей.

— Баяўся дыхнуць, калі ўрэшце дакрануўся да тканіны, убачыў выяву,— дзяліўся ўражаннем мастак-рэстаўратар Віктар Лукашэвіч.— Тканіна з выявай, што тое дзіравае рэшата. Налічыў жа больш дзвюх соцень дзюрак... Трэба ж дадумацца: сярэбраны абклад прыбівалі да тканіны з выявай каванымі цвікамі... На палатно памерам 70×75 сантыметраў увагналі некалькі дзесяткаў. Хто гэты разумнік? Паадбіваць бы яму рукі...



Будслаўскі касцёл Узнясення Маці Божай.

Але ці варта шукаць вінаваўцу цяпер, праз стагоддзі... А вось зрабіць невялічкі экскурс у гісторыю пабудовы Будслаўскага храма варта.

Касцёл Узнясення Маці Божай у Будславе пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя. Рукапісныя крыніцы захавалі імя літвінскага князя Аляксандра Ягелончыка. Менавіта ён, як сведчаць тыя ж летапісныя дакументы, у 1504 годзе падараваў Віленскаму бернардынскаму кляштару Маркаўска-матыцкую пушчу. А ў той пушчы, непадалёк ад рачулкі Сервеч, манахі пабудавалі невялічкую каплічку і ўзвялі два будынкі. Неўзабаве тут з'явіўся каплан і манах... Маліліся, ахоўвалі лес, а ў вольны ад службы час нарыхтоўвалі яго для патрэб віленскага кляштара. Ці не адсюль узята назва мястэчка — Будслаў,



Абраз Маці Божай Будслаўскай да рэстаўрацыі.

бо першапачатковая назва мясціны — Буда. «Буда» — вядома ж, часовае жытло, хацінка вартаўніка.

Гартаем далей рукапісныя старонкі. У канцы XVI стагоддзя ашмянскі земскі суддзя Карэйва пачаў будаўніцтва драўлянага касцёла, якое закончылася ў 1598 годзе. Праз два гады новы касцёл быў асвечаны віленскім суфраганам Куприянам у гонар Наведвання Прасвятой Багародзіцы.

А вось падмурак першага мураванага касцёла быў закладзены 28 жніўня 1633 года настаяцелем Віленскага бернардынскага кляштара Фларыянам Калецкім. У 1643 годзе будаўніцтва было паспяхова завершана, а 9 ліпеня адбылося ўрачыстае асвячэнне.

Ішоў час. Невялічкая вёсачка ператварылася ў бойкае мястэчка, таму і ўзнікла патрэба закладкі вялікага Успенскага касцёла. За-

хавалася і дакладная дата пачатку будаўніцтва: 29 ліпеня 1767 года. У час будаўніцтва значная частка колішняга касцёла была ўключана ў новы архітэктурны ансамбль, а рэшткі яго былі пераабсталяваны ў бакавую капліцу святой Варвары.

Велічны і адзін з лепшых касцёлаў на Беларусі быў пабудаваны дзякуючы дзейнасці настаяцеля Будслаўскага кляштара бернардынаў Канстанціна Пенса і на добраахвотныя ахвяраванні розных людзей. Урачыстае асвячэнне новага касцёла ў імя Узнясення Маці Божай адбылося 7 верасня 1783 года яго Праасвяшчэнствам біскупам, суфраганам Троцкім Алоізам Янушам Гзоўскім.

Шмат добрых людзей гуртавалася вакол касцёла. Вядома, што пры Будслаўскім кляштары бернардынаў існавала музычная школа, парафіяльная школа, а крыху пазней — народнае вучылішча. Вучылі тут і багаслоўскім навукам, чытанню і пісьму, матэматыцы, геаграфіі, фізіцы, замежным мовам. А хворыя і нягеглыя знаходзілі прытулак у мясцовай багадзельні...

Перагорнуты старонкі гісторыі, вернемся ў наш час.

Здзівіла мастака-рэстаўратара такая акалічнасць. Хтосьці, пэўна цыгарэтай, прапаліў у некалькіх месцах твар Маці Божай. І, праўда ж, пакарай яго, Божа!

А ведаеце, паважаны чытач, што першае зрабілі камандзіры Чырвонай Арміі, калі ў верасні трыццаць дзевятага гераічным танкавым кідком вызвалілі Заходнія Крэсы — Заходнюю Беларусь? Ніколі не здагадаецеся, фантазіі не хопіць. Паслухайце старых людзей, яны сведкі тых дзён:

— Паставілі чырвонаармейцы гарматы на плошчы вызваленага ад польскіх жаўнераў мястэчка і давай біць прамой наводкай па купалу храма, дзе зіхацеў у золаце крыж. А праз дзень-другі строем прыйшлі чырвонаармейцы і па загаду камандзіра дружна з карабінаў ударылі па каляровых вітражах, па анёлах, па святых апосталах... Варашылаўскія стралкі ведалі справу. Эстафету ім перадалі тыя самыя будзёнаўскія ездакі. Заганяючы да смерці замыленых коней, яны спяшаліся ашчаслівіць зямную кулю... І ашчаслівілі...

Я шмат разоў быў у майстэрні мастака-рэстаўратара, назіраючы, як карпатліва, міліметр за міліметрам Віктар Лукашэвіч ратаваў знакаміты абраз Маці Божай Будслаўскай.

Невядомы нам пакуль што мастак пачаў яго ў 1612 годзе. Былі пэўна пераробкі, дапаўненні аж да 1649 года. І вось упершыню яе ўбачыць і наш чытач...

Напярэдадні ад'езду дэлегацыі вернікаў Мядзельшчыны на сустрэчу з папай Рымскім на Беласточчыну адноўлены абраз Маці Божай Будслаўскай пакінуў сталіцу. Было ўжо позна. Так сталася, што мы з мастаком мусілі затрымацца. Халодная чэрвеньская ноч, вецер, дождж. Заблудзіліся ў дарозе, згубіўшы ў цемры паваротку на Далгінава. І глыбокай ноччу ўрэшце дабраліся да Будслава. За некалькі кіламетраў мы ўбачылі, як свецяцца агні велічнага касцёла Узнясення Маці Божай. Сабралася шмат народу. І як толькі адноўлены абраз Маці Божай Будслаўскай апынуўся ў касцёле, пачуўся зладжаны хор усчуленых да глыбіні душы вернікаў.

Слаўся, Маці Божая, слаўся...

**Вячаслаў ДУБІНКА**

А. ЦЬВІКЕВІЧ

# «ЗАПАДНО-РУССКАЯ» ШКОЛА І ЯЕ ПРАДСТАЎНІКІ[1]

## III. Гаворскі і «Вестник Зап. России» ў Вільні

Асаблівай энэргіяй і асаблівай агіднасьцю адзначыўся Гаворскі сваёй абаронай насланага ў Вільню «истинно-русскаго» чынавенства, калі ў другой палове 60-х гадоў пачалася павольная рэакцыя супроць мураўёўскага рэжыму і калі ў Пецярбурзе зьявілася прэса, пачаўшая адкрытую кампанію супроць «людоеда».[2] На чале гэтае прэсы стала газэта «Весть» Скорятіна. Група «Вести», блізка зьвязаная з клясаю буйных польскіх земляўласьнікаў, што хутка адракліся ад паўстаньня і заявілі аб сваіх лояльнейшых адносінах да царскага прастолу, камандыравала рэдактара газэты Скорятіна на Беларусь, у Вільню, і, карыстаючыся яго ўражаньнямі, а таксама далейшымі корэспондэнцыямі з краю, узяла пад сваю абарону польскія інтарэсы і пачала кампанію супроць расійскага чынавенства.

---

[1] Гл. «Спадчына», 1991, № 2.

[2] Мянюшкай «людоеда» ахрысьціў Муравьёва самы злосны яго вораг, тагачасны пецярбурскі ген.-губ. кн. Суворов. Калі яму запрапанавалі ў дзень імянін Муравьёва падпісаць колектыўны адрас-павіншаваньне, ён адказаў: «Я людоедов не чествую». З гэтай прычыны Тютчев напісаў на кн. Суворова чарговы верш з усхваленьнем Муравьёва:

Кн. Италийскому, графу А. А. Суворову-Рымникскому.

Гуманный внук воинственного деда,
Простите нам, наш симпатичный князь,
Что русского честим мы людоеда,
Мы, русские, Европы не спросясь...

Как извинить пред вами эту смелость?
Как оправдать сочувствие к тому,
Кто отстоял и спас России целость,
Всем жертвуя народу своему,

Кто всю ответственность, весь труд и бремя
Взял на себя в отчаянной борьбе —
*И бледное, замученное племя,*
*Воздвигнув к жизни, вынес на себе...*
(курсыў наш — **А. Ц.**)

(М. Лэмке. «Эпоха цензурных реформ», 1859—1865, стар. 287).

Скорятін не шкадаваў фарбаў для апісаньня тае распусты і тае бяспрынцыповасьці, якія панавалі ў Вільні ў выніку ўрадаваньня новае адміністрацыі. Разам з тым, ён з выключнай рэзкасьцю наваліўся на Гаворскага і на «Вестник Западной России». Да кампаніі «Вести» хутка далучыліся «СПБ Ведомости» і «Новое Время», дзе супрацоўнічаў А. Кіркор.

«Басота, сволочь, пустая ноздревщина, непроходимая семинарщина, отребье местной жизни» — вось эпітэты, якія пасыпаліся з пецярбурскае прэсы на Гаворскага, калі Муравьёва зьмяніў Кауфман, стварыўшы па сьведчаньні сучасьнікаў, надзвычайную распусту сярод расійскіх чыноўнікаў, і калі за Кауфманам прыйшоў А. Потапов.

«Галоўным тормазам, які затрымлівае ў Заходнім Краі расійскую справу,— пісаў Скорятін,— зьяўляецца пролетарыят, які складаецца з чыноўнікаў, прыбыўшых сюды на службу на заклік улады; (...) тыя шкодныя басаногія патрыёты, якія прынесьлі на алтар бацькаўшчыны ў ахвяру сваё жабрацтва дзеля таго, каб здолець прызваіта апранудца, а будзе магчымасьць — і разбагацець».

Ад імя ўсіх «деятелей русского дела в Западном Крае» — скорятінскай «Вести» адказваў Гаворскі.

«Чым вінаваты мы,— патэтычна пытаецца ён у чытача,— што большасьць служачых тут чыноўнікаў не капіталістыя і ня буйныя зямляўласьнікі? Чаму багатыры ня былі ласкавы прыехаць сюды на агульны заклік Муравьёва? Можа быць паны (барины) не зьявіліся сюды дзеля пачуцьця самазахаваньня? Яны заняты турботамі аб сваёй гаспадарцы, прамысловасьцю, мануфактурай, і можа палічылі за лепшае застацца і забясьпечыць свой матэрыяльны інтарэс перад моральным. Аўтар галаслоўна і гарэзна дазволіў сабе публічна называць тутэйшых дзеячоў расійскае справы «жабракамі і басотай»: большасьць з іх усё-ж мае зямельную ўласнасьць і паходзіць са старых фамілій. А калі-б нават чэсны і карысны для бацькаўшчыны чыноўнік жыў аднэй атрыманай па службе пэнсіяй, ці-ж будзе лёгічным называць яго абарванцам?»

«Дайце сабе адчот у тым, што вы пішаце,— пытаецца Гаворскі ў Скорятіна, пераходзячы ад абароны да наступленьня,— калі праводзіце сынонім паміж расійскім чыноўнікам ў Паўночна-Заходнім Краі і афэрыстым галадранцам!.. Ці разумееце вы, што гэта значыць чыноўнік? Чыноўнік, гэта ёсць чалавек, які прысьвячае ўсю сваю маральную дзейнасьць living розностайным карысьцям свайго «отечества», чалавек, які належыць да аднаго з 14 рангаў, які мае чын, ад якога ён і атрымлівае сваё званьне. Гэткім чынам у поўным сэнсе гэтага слова пад ідэю чыноўніка падыходзяць усе, хто служыць прастолу і бацькаўшчыне, пачынаючы ад канцылярскага чыноўніка да старшыні камітэту міністраў. Толькі галава, гаспадзін нацыі выдзяляецца з групы чыноўнікаў, як слуг,— служачых. Вялікая большасьць гэтых паважаных дзеячоў паходзіць, як і павінна быць, з тае асярэдзіны, якая больш за другія мае сродкаў да моральнага служэньня прастолу,— «из дворянскаго, то есть, сословия». Як-бы там ні было, але Скорятін гэтак абражае ўсю корпорацыю моральных дзеячоў Расіі ў гэтым краі, што пакінуць так справу нельга... Мы пераконаны, што начальства і грамада нашых чыноўнікаў патрэбуюць адпаведнага разрахунку з ім». «Ён аказвае,— протэстуе «Вестник» у другім месцы,— дрэнную паслугу дваранскай корпорацыі і беспасрэдна парушае найвышэйшы рэскрыпт, які загадвае «спыніць безьлічныя спробы да ўзбуджэньня варожасьці паміж рознымі станамі. Мы лічым, што корпорацыя чыноўнікаў, як найбольш карысны і заслугоўваючы ўсеагульнае пашаны і прызнаньня стан, ня выключаны з гэтых Богам натхнёных слоў рэскрыпту»[1].

Толькі ў рэдкіх выпадках Гаворскі згаджаецца з тым, што прыехаўшыя на Беларусь чыноўнікі не стаяць на вышыні свайго палажэньня. Дый то ў гэтых выпадках ён ня столькі абвінавачвае блізкі сабе лягер, колькі спрабуе тлумачыць прычыны адмоўнага зьявішча. Аднэй з такіх прычын зьяўляецца, паводле яго пераконаньня, тое, што наяжджаюць сюды людзі большай часткай нежанатыя. «Трэба вабіць сюды, калі ня выключна, дык пераважна, жанатых,

[1] «В. З. Р.» 1865—66 г., кн. 11, отд. III, стар. 13 і інш.

абставіўшы іх перавод сюды большымі прывілеямі, бо сярод бесьсямейных пануе звычайна большая ступень распусты, газартовай гульні, п'янства ды іншых вадаў, якія прыносяць хваробы і сьмерць». Пры гэтым «Вестник» падае цікавую статыстыку, з якой відаць, што «ў 1864 г., дзякуючы прыліву вялікаросаў з цэнтральных губэрань, мужчын па ўсім Паўночна-Заходнім Краі было амаль у два разы больш, чым жанчын (на кожныя 7526 мужч.— 4769 жанчын, а ў Вільні яшчэ горш: на кожных 4643 мужч.— усяго толькі 2283 жанчыны) Пры гэтым было вылічана, што прырост насельніцтва каталіцкага веравызнаньня, г. зн. нормальна жанатага, быў роўны 1,32 проц., а ў праваслаўнага, якое зьяўлялася пераважна халастым, толькі — 0,4 проц. Наадварот, сьмяротнасць сярод апошняга была значна большая[1].

Другая бяда,— што прыяжджаючыя ў край «истинно-русския» людзі могуць жаніцца толькі на мясцовых дзяўчатах,— а гэта, з пункту гледжаньня Гаворскага і яго «западно-русской» праграмы,— рэч зусім непажаданая. І каб захаваць русыфікацыйны элемэнт ад гэткай страты, «Вестник» друкуе цэльную філёзофію нейкага Авдия Востокова — «Наставление русскаго своему сыну перед отправлением его на службу в западные русские области», у якім той піша[2]: «Ты яшчэ малады, сын мой, і напэўна надумаеш калі жаніцца. Трымайся моцна за сэрца і сьцеражыся звабы якой-небудзь полькай. У рамястве вабіць у свае сеці амаль на ўсёй зямлі ня знойдзецца нікога больш дасьціпней і ваблівей за палячак. Ня вер, рускі, іхнім фокусам-покусам,— з жонкай палячкай ты паселіш у сваім доме пекла. Перш за ўсё, дагаджаючы тваім густам, тваім нахілам і слабасьцям, жонка палячка заўладае табой да таго, што ты прызвычаішся да яе да шаленства, затым яна саб'е цябе са шляху чыстае веры праваслаўнай, зробіць з цябе чалавека Індыфэрэнтнага і паволі ўсімі сваімі жаночымі хітрыкамі давядзе цябе ня толькі да злых учынкаў і няправільнасьцяў па службе, але да ліхаімства і зрады дзяржаўным інтарэсам».

Аднак, ня гледзячы на ўсе апраўданьні Гаворскага і меры забясьпекі з боку «Вестника Западной России», «высока-моральная корпорацыя» насланых на Беларусь чыноўнікаў рабілася штогод то больш разьюшанай. Скаргі на яе пачалі раздавацца ня толькі з полёнофільскай пецярбурскай прэсы,— супроць яе пачалі ставіцца тыя віленцы, якія, у параўнаньні з Гаворскім, захавалі такуюсякую долю незалежнага погляду на рэчы.

Больш таго: протэсты супроць яго заявілі асобы, якіх мы ніяк ня можам палічыць за прынцыповых ворагаў Гаворскага, або абаронцаў мясцовых нерасійскіх інтарэсаў. Гэткімі асобамі былі М. дэ-Пуле, рэдактар «Виленскаго Вестника» пасьля А. Кіркора, і... Іосіф Семашка.

«У Вільні ў тыя часы зьявілася партыя крайніх русыфікатараў (!),— апавядае М. дэ-Пуле,— якую называлі чамусьці «віленскімі клерыкаламі», хоць сярод іх ня было ніводнага чалавека з духавенства (заўвага на «праваслаўны» клерыкалізм Гаворскага). Гэтая партыя патрабавала заўсёды жорсткіх мер і ўпікала ў слабасьці і патураньні гэткіх асоб, як сам М. Муравьёв(!). Збоку гэтых русыфікатараў найбольш даставалася мясцовым рускім людзям і тым, што даўно тут ужо абжыліся, якім яны не маглі дараваць іх мінулага, іх ужыўчасьці да палякоў, іх сымпатый, прывычак і густаў. Ад іх, ад мясцовых людзей, замест спакою і міру, патрабавалі варожасьці і злобы,— і калі не знаходзілі ні таго, ні другога, дык абзывалі іх мянюшкамі палякуючых і апалячаных»[3].

Гэтак-жа нэгатыўна пачаў адзывацца аб «крайніх русыфікатарах» і І. Семашка,— «своя своіх не познаша». Семашка скардзіўся ў лістох сваіх у сынод, што некаторыя з прыбыўшых у Заходні Край чыноўнікаў з пагардай ставіліся да мясцовага праваслаўнага духавенства, дакаралі яго ў няведаньні праваслаўных статутаў і нават дазвалялі сабе ўмешвацца ў царкоўныя справы. У гэтых скаргах расказваецца, што нейкі гвардыі паручнік Шчэрбов

[1] Ibid., 1868, т. 6, отд. IV, стар. 265: «О важном значении усиления и развития в Сев.-Зап. крае русскаго семейнаго элемента».

[2] «В. З. Р.», 1865-66 г., т. 3, отд. IV, стар. 241.

[3] «Древняя и Новая Россия», 1876 г., II т., стар. 333.

закрываў па сваёй волі без тлумачэньня прыходы і хадзіў па алтары ў кажуху, з палкай; штабс-капітан Крамеров і лейб-маёр Савіцкі самі служылі пад п'яную руку набажэнства, адзеўшыся ў рызы і носячы алтарнае судзьдзё; міравы пасрэднік Логінов лаяў мясцовага папа званаром і т. пад.[1]

«Зразумела,— пісаў Семашка,— патрэбна зьмяніць шмат чаго ў тутэйшым краі, каб зрабіць яго аднолькавым з рэштай дзяржавы. Але трэба памятаць, што прывычкі і звычаі, якія ўкараніліся ў масе народнай праз вякі, патрабуюць гэтак сама стагодняга разумнага дзеяньня. Між тым, гэтыя рознасьці, дзякуючы надоечы прыбыўшым сюды расійскім дзеячом, былі апошнім часам прычынай сумных зьяў у нашым краі, якія зрабіліся гласнымі і зрабілі шмат на каго вельмі нявыгоднае ўражаньне». «Аднак,— дыплёматычна дадае І. Семашка,— гэтыя здарэньні няхай не непакояць сьвяты сынод — яны ня могуць мець залішне шкоднага ўплыву на пасьпяховы ход тутэйшых спраў у расійскім духу»[2].

Гаворскі занадта добра ведаў, што ў справе русыфікацыі Беларусі лепш перасаліць, чым недасаліць,— і таму таксама ня надта непакоіўся «дробнымі непаразуменьнямі» паміж мясцовымі жыхарамі і наехаўшымі вялікаросамі. Ласка апошніх, іхняя дружба былі для яго даражэй за ўсё.

Больш даткліва абражаным адчуў ён сябе ў тэй полеміцы, якая ўзьнікла пры канцы 60-х гадоў паміж «Вестником Западной России» і тым-жа Скорятіным у справе расійскае зямляўласнасьці на Беларусі.

Як ведама, аднэй з самых галоўных мер барацьбы Муравьёва з польскім уплывам на Беларусі была конфіскацыя і продаж з публічнага торгу польскіх зямель, у першую чаргу тых памешчыкаў, якія беспасрэдна прымалі ўдзел у паўстаньні. Разам з конфіскатамі да тэй-жа мэты былі скіраваны і іншыя мерапрыемствы, якія, паводле выразу Муравьёва, «білі палякаў па кішэні» і пазбаўлялі іх першараднага экономічнага значэньня ў краі. Гэткімі мерапрыемствамі быў славуты 5-проц. збор з польскіх маёнткаў (ён даходзіў пасьля да 23 проц.) «дзеля здавальненьня неабходных выдаткаў па палітычнаму становішчу краю»[3], абавязаньне даваць лес і дровы на школы і цэрквы, сталыя рэквізыцыі, вайсковыя пастоі і г. д. Разам з гэтым, была высунута грандыёзная програма «насаждения» вялікарускае зямляўласнасьці на Беларусі, замест зямляўласнасьці польскай. У сваіх запісках на імя Александра II, паданых 14 мая 1864 году і 5 красавіка 1865 году, Муравьёв выказваецца аб гэтых экономічных мерапрыемствах з самай вострай рашучасьцю,— аднолькава, а часам яшчэ вастрэй, чым аб мерах адміністрацыйных і рэлігійных: «...Засяляць край расійцамі колькі магчыма сыстэматычней, не выдзяляючы стараабрадцаў, бо яны больш ад іншых захоўваюць расійскую народнасьць; ствараць колёніі з звольненых солдат; біць палякаў па кішэні, каб ўсё было спакойна; засяляць край вялікарускімі сялянамі, прадаваць усім расійцам, незалежна ад стану, конфіскаваныя, сэквэстраваныя і пратэрмінаваныя ў крэдытных установах землі; вырашыць пытаньне аб правядзеньні мытнай лініі паміж Царствам Польскім і Паўночна-Заходнім Краем, каб прыпыніць самую думку жыхароў гэтага краю, што яны могуць ствараць калі-небудзь адно цэлае з Царствам Польскім і г. д.»[4]

Са ўсіх гэтых экономічных мерапрыемстваў «Вестник Западной России» найбольш папулярызаваў лёзунг аб абавязковай продажы польскіх маёнткаў расійцам. У абароне гэтага пункту русыфікатарскай політыкі Муравьёва Гаворскі выказаў і глыбокую гістарычную эрудыцыю і найвышэйшы «западно-русский» запал.

---

[1] Гл. у Г. Киприановича: «Жизнь Иосифа Семашко — митрополита литовского», стар. 449—450.

[2] Киприанович, op cit стар. 451.

[3] «Сборник статей, раз'ясняющих польское дело», С. Шолковича, т. II, стар. 319: «Три политические записки гр. М. Н. Муравьёва».

[4] Сбоник II, стар. 317. Гэтая мера — утварэньне мытнае мяжы паміж Царствам Польскім і Беларусьсю — у якасьці рэпрэсыўнай меры супроць палякаў, была ўжыта пасьля першага паўстаньня 1831 году і мела дадатнае значэньне для разьвіцьця гродзенскай прамысловасьці на Беларусі (М. Довнар-Запольский: «Народнае хозяйство Белоруссии, 1926 г.).

Верны свайму самаўхваленьню Гаворскі пры гэтым заяўляе, што самая думка аб экспропрыяцыі польскіх зямель у Заходняй Расіі з мэтамі барацьбы з полёнізмам належыць нікому іншаму, як яму. «Пры ўсёй нашай скромнасці мы павінны зазначыць,— кажа ён,— што ініцыятыва проекту гэтае экспропрыяцыі належыць таму выданьню («Вестник Зап. России»), якое зрабіла выключнай мэтай свайго існаваньня моральныя і матэрыяльныя інтарэсы заходняй Расіі і якое мае для гэтага спэцыяльныя веды, а таксама сродкі і прыёмы, не заўсёды прыгодныя і даступныя для іншых выданьняў»(?!).

Трэба прызнаць, што сапраўды выступленьні «Вестника» па пытаньні аб барацьбе з польскай зямляўласнасьцю і аб патрэбе перадачы зямель з польскіх рук у рукі вялікарускія, былі па ўсіх даных *першымі* ў сваім родзе. «Западно-русская» школа магла дзеля гэтага справядліва ставіць сабе ў заслугу, што яна падняла гэтую думку адначасна, а можа і раней за М. Муравьёва.

У запісках, якія апрацоўваў і падаваў расійскаму ўраду М. Муравьёв пасьля першага паўстаньня, нічога не гаворыцца на гэтую тэму. У іх Муравьёв найбольш спыняўся на патрэбе «обуздания развратнаго и буйнаго сословия шляхты», сословия тунеядцев, привыкших к праздношатанию», на патрэбе выкрэсьліць з мясцовага жыцьця нормы літоўскага статуту, на адпаведнай рэформе народнае, у першую чаргу вышэйшае, асьветы ў краі («решительно уничтожить гнездилище литовскаго вольнодумства — Виленский университет»), увядзеньні расійскае мовы ва ўсе ўстановы, на рэформе царкоўнага кіраўніцтва і г. д. Але што датычыць зямельнае проблемы, дык Муравьёв толькі ў стасунку да тых «опасных и вольнодумных религиозных конгрегаций, якія вызначыліся асаблівай упартасьцю ў змаганьні», асьцярожна прапанаваў спачатку быццам часова, а потым і назаўсёды пазбавіць іх нярухомай і зямельнай маемасьці[1]. Крутых і ўсеагульных мер Муравьёв пачаў дамагацца толькі у 1864 годзе, пасьля зламаньня першых этапаў другога паўстаньня.

Гаворскі таксама выступіў з праграмай агульнага зьнішчэньня польскай зямляўласнасьці на Беларусі з першых дзён паўстаньня. Дасьледваўшы гэтае пытаньне гістарычна, ён адзін з першых давёў, што спрадвеку палякі ня мелі ў беларускіх межах зямлі і што пачалі яны набываць яе толькі пасьля фэдэрацыйнай вуніі Беларуска-Літоўскага княства з Польшчай, калі польская шляхта, супроць пунктаў унітарнае ўмовы, самавольна, шляхам здрады і гвалту, накінулася на княства. «Мы павінны цяпер зруйнаваць той пункт апоры, які палякі знаходзяць у захопленай імі зямлі,— прапаведваў ён у пачатку 1863 г.,— зьнішчыць тыя цэнтры рэвалюцыі, тыя гнёзды пропаганды, якія ствараюць навокал нас нявідныя петлі, усьцяж разрываныя намі і ўсьцяж нанова сплятаныя»[2]. Польскае зямляўладаньне на Беларусі павінна быць замянена расійскім, вялікарускім,— толькі пры гэтай умове можа быць дасягнута мэта «обрусения» краю.

«Пакуль у заходняй Расіі зямля будзе польскай, там будзе ў тэрыторыяльным сэнсе не Расія, а Польшча, там расійцы будуць тэорэтычнымі, вандроўнымі ўласьнікамі, сёньня «обрусяющими» край, а заўтра ўцякаючымі ў Маскву, Твер, Ташкент»[3].

Але як, у якой форме гэта зрабіць? Якая вялікаруская зямляўласнасьць павінна быць насаджана ў Беларусі — буйная ці дробная?

Па гэтым пытаньні погляды падзяліліся: адны, у тым ліку міністэрства дзярж. маемасьці і Муравьёв, не рабілі розьніцы паміж формамі зямляўласнасьці і ахвотна дапускалі і тую і другую. Наадварот, вышэйшае дваранства ў Пецярбурзе, якое стаяла ў опозыцыі да Муравьёва, лічыла патрэбным перадаваць польскія маёнткі толькі буйнаму расійскаму капіталу.

Гаворскі заняў у гэтай спрэчцы акрэсьленую клясавую позыцыю, зусім згодную з тэй, на якой ён стаяў пры абароне чынавенства. Як там ён бараніў

---

[1] Сборник Шолковича, т. II, стар. 304—305.

[2] «В. З. Р.», 1863 г., кн. III, отд. IV, стар. 65. Другі раз гл. 1865-1866 г. кн. 6, стар. 69: «Газетные толки о землевладении в Западном Крае».

[3] «В. З. Р.», 1867, кн. III, «Странная выходка».

дробных і сярэдніх чыноўнікаў і гіронічна ставіўся да «буйных паноў, больш зацікаўленых сваімі капіталамі і мануфактурай, чым русыфікацыяй Беларусі», так і тут ён рашуча выступае за дробную зямляўласнасьць.

«У мэтах фактычнага абрусеньня заходняга краю Расіі,— пісаў «Вестник»,— ўрад выдаў цэлы шэраг пастаноў, накіраваных на тое, каб узмацніць тут расійскую зямляўласнасьць. Нашая прэса агулам спагадна паставілася да гэтага мерапрыемства,— але апініі разышліся па пытаньні: якая зямляўласнасьць будзе карысьней для краю — буйная ці дробная? Процілежны нам бок кажа, што ўрад мае на мэце стварыць тут гэткую зямляўласнасьць, якая магла-б проціставіць сябе польскім магнатам, трымаўшым да гэтае пары край у сваіх руках, што, быццам, каб даць перавагу расійскаму элемэнту, трэба стварыць тут буйную зямельную ўласнасьць, трэба падтрымліваць ня дробных капіталістых, а буйных».

«Гэта глыбокая памылка,— кажа «Вестник»,— Аргумантацыя падобнага роду забываецца на адну маленькую акалічнасьць — на вызваленьне сялянства. Калісьці магнаты сапраўды маглі трымаць край у сваіх руках, калі была іхняя сіла, права і суд, калі рэшта жыхарства была толькі мэханічным засабам, калі народ ня меў права ні думаць, ні жадаць, быў хлопам, рабочым панскім быдлам. Але цяпер усё зьмянілася. Паглядзеце, што значыць цяпер сярод народу ўчарайшы магнат — ён зьнізіўся амаль да стану ранейшага хлопа-няволька, а хлоп амаль падняўся на ўзровень учарайшага магната. Мы ведаем некаторых магнатаў, якія сабралі сёньня свой хлеб з поля і сена з сенажаці толькі з міласьці кватараваўшага па іх маёнтках войска; яшчэ мы ведаем гэткіх магнатаў, у якіх хлеб на агромністых абшарах так і застаўся несабраным, а калі сабраны, дык за такую плату, якая прымушае ўспомніць прыслоўе: гульня сьвечак ня варта, «Праўда,— папераджае «Вестник»,— магнат праваслаўна-рускі, магчыма, ня сустрэне ў Заходняй Расіі гэткай опозыцыі з боку народу, якую сустракае магнат лаціна-польскі. Але гэта рашуча не таму, што ён магнат, ці пан, буйны зямляўласьнік, але таму, што ён праваслаўны, расіец, што ў селяніна з магнатам адны прыхільнікі і адны ворагі. Аднак мы сьцьвярджаем, што народ далёка ня так сымпатычна будзе ставіцца да магната, як да дробнага зямляўласніка-расійца і што першы будзе мець куды меншы ўплыў на яго, чым апошні. Гэта зусім натуральна. Чым вышэй стан, у якім пастаўлены чалавек, тым меншае спачуваньне ён можа сустрэнуць да сябе з боку чалавека, які стаіць на ніжэйшай ступені грамадзкага значэньня. У іх так мала супольнага, сьветапагляд іхні нагэтулькі розны, сымпатыі, звычаі, прывычкі так разыходзяцца, што суседзтва іх, супольнасьць інтарэсаў мысьлімы адзіна пад умовай звыш-натуральнага прыніжэньня, з боку аднэй стараны, і перараджэньня — з другой. Для беларускага мужычка чым буйнейшы пан, тым ён будзе ставіцца да яго з большым недавер'ем, лукаўствам, тым цяжэй паверыць ён яму, тым далей будзе ад яго трымацца. Што-б ні гаварыў, што-б ні рабіў буйны зямляўласьнік, гэты мужычок будзе глядзець на яго спадылба, будзе лічыць яго паслугі за пастку. Яго паняцьці аб пану склаліся так грунтоўна, пад уражаньнем такіх гістарычных зьяў, што ён ня здолее адрозьніць у сваёй галаве ідэю буйнога зямляўласьніка-расійца ад ідэі польскага пана,— асабліва, калі які-небудзь буйны зямляўласьнік, соцыяльныя ідэі якога разьвіліся пад уражаньнем геральдычных традыцый XVII веку, з пагардай паставіцца да суседзяў, будзе думаць, што для мужычка занадта шмат гонару працаваць на панскай ніве за адно дзякуй ды за чарку гарэлкі, што тутэйшы мужычок толькі на тое, быццам, і здатны, каб поркацца ў гноі ды працаваць на пана»*.

«Эпоха панскай вялікасьці мінула,— і буйны расійскі зямляўласьнік хутка пачуе рэакцыю з боку грамады (мужыцкай). Польская інтэлігенцыя вельмі хутка павядзе з ім знаёмства, хутчэй, чым ён з якім-небудзь мужычком, і зраўняе яго расійскі ўплыў на край з нулём. Зірнеце ў гісторыю заходняй

---

* «В. З. Р.», 1865—1966 г., кн. 8, отд. III: «Крупные и мелкие землевладельцы в западной России», стар. 31. «По поводу газетных толков об этом предмете».

Расіі і вы ўбачыце, каго хутчэй брала на аркан лаціна-польская прапаганда,— ці звычайнага сьмяротнага, ці магната?» — пытаецца Гаворскі.

«Дарма таксама гаварыць аб буйным капітале і абагульняць яго з ідэяй буйнае зямляўласнасьці. Капіталы цяпер наогул ня ў буйных зямляўласьнікаў, а ў сярэдняй клясы. А калі-б нават буйны зямляўласьнік і прывёз з сабой з Расіі гэтыя капіталы, дык дарма думаць, што яны пайшлі-б на павялічэньне фабрычнасці краю, яго гандлю і г. д. Ня гэткія прывычкі і замашкі буйных зямляўласьнікаў,— грошы хутка пойдуць у трубу, да таго яшчэ нерасійскую. Самі паны рэдка бываюць у сваіх маёнтках, праводзяць жыцьцё у сталіцах, за граніцай, гувэрнэры псуюць каля іх розум маладога пакаленьня,— коратка кажучы, буйны зямляўласьнік ніколі ня будзе спрыяць «обрусению западной России» ні сваёй асобай, ні сваімі ўплывамі, ні сваёй інтэлігентнасьцю, ні сваімі капіталамі»[1].

Гэтае палажэньне Гаворскі падкрэсьлівае некалькі разоў. «Нам здаецца дзіўнай,— піша ён у другім месцы,— палеміка аб тым, якія зямляўласьнікі патрэбны ў Паўночна-Заходнім Краі. Пытаньне ня ў тым, якія *патрэбны* зямляўласьнікі,— патрэбны аднолькава і буйныя і дробныя зямляўласьнікі,— але пытаньне ў тым, якія з іх будуць *карысьней* для абрусеньня краю, якія хутчэй і больш русыфікуюць заходнюю Расію,— буйныя ці дробныя. Ці шмат абрусіць, прыкладам, край зямляўласьнік, які набудзе тут 10—20000 дзесяцін, сам будзе жыць у Вэнэцыі або Мадрыдзе, а маёнтак і расійскую справу даручыць мясцовым ягамосьцям»[2].

«Нам сумна і прыкра ўвесь час даводзіць аб патрэбе ў заходнім краі Расіі расійскае зямляўласнасьці. Дарма гавораць, што пры нашай агульнай беднасьці мы ня можам вылучыць патрэбных капіталаў на ўзмацненьне расійскае зямляўласнасьці на захадзе, не паслабіўшы гэтым зямляўласнасьці і дабрабыту цэнтральных губэрань... Наша беднасьць далёка ня так безварункова, як шмат каму здаецца сярод расійскіх зямляўласнікаў. Ёсьць даволі асоб, якія могуць вылучыць частку сваіх вольных капіталаў на вялікую і сьвятую справу тэрыторыяльнага(?) абрусеньня напоўпольскай Заходняй Расіі. Але, апрача гэтых вялікарускіх зямляўласьнікаў, ёсьць яшчэ шмат людзей, якія маюць тыя або іншыя сродкі. Гэтыя людзі — амаль не палова купцоў і некаторая частка чыноўнікаў, якія сабралі пра чорны дзень невялікі капітальчык. Гэтыя апошнія, у большасьці забясьпечаныя пэнсіяй за выслугу гадоў, могуць укласьці ўвесь свой капітал ў зямельную ўласнасьць. Большасць *тутэйшых* чыноўнікаў вельмі добра разумее гэты разрахунак, але да пэўнага часу цісьнецца, як кажуць, «пяе Лазара», думаючы атрымаць такі-сякі кавалачак зямлі на больш льготных умовах. Урад ідзе ім цалкам насустрач у форме ўсялякіх пазык і палёгак у выплаце падаткаў, а польскія памешчыкі прымушаны прадаваць свае маёнткі па цане, часта меншай за ацэначную... Гэткім чынам,— задаволена расказвае Гаворскі,— адзін мой знаёмы ўчора купіў адзін з гэтых маёнткаў за 6000 руб. на выплат, тымчасам, як у гэтым маёнтку 870 дзесяцін зямлі (у тым ліку 440 дзес. лесу), 12 новых на каменным фундаманце будынкаў, сад, рыбная сажалка ды інш.»

Дробна-буржуазная прапаганда «западно-русса» Гаворскага сустрэла рашучы адпор з боку абаронца буйной зямляўласнасьці на Беларусі — рэдактара пецярбурскай газэты «Вести» Скорятіна. Ён формальна *злавіў* Гаворскага на «мужычку, які глядзіць на пана спадылба» і выступленьні супроць магнацтва абвесьціў ні чым іншым, як прапагандай супроць права ўласнасьці наогул, нацкоўваньнем сялянства на зямляўласьнікаў і непашанай да буйной зямляўласнасці, як апірышча царскага прастолу. Для сваёй контр-атакі Скорятін выбраў вельмі трапны момант: акурат у той час — 13 мая 1866 г., пасьля выстралу Каракозава, быў выданы Аляксандрам II знамяніты рэскрыпт аб «решительном прекращении повторяющихся попыток к возбуждению вражды между разными сословиями» і аб стаўцы царызму на вышэйшы стан дваранства, як на клясу найбольш «здаровую, охранительную и благонадежную».

---

[1] Ibid., «Крупные и мелкие землевладельцы», стар. 33—34.
[2] «В. З. Р.», 1856—66, кн. 11, отд. III, стар. 19.

# АБУДЖАЦЬ ДУХОЎНАСЦЬ

**Нядаўні біскуп Мінскі для каталікоў Беларусі, апостальскі адміністратар у Маскве для каталікоў еўрапейскай часткі Расіі архібіскуп Тадэуш КАНДРУСЕВІЧ адказвае на пытанні намесніка галоўнага рэдактара «Спадчыны» Кастуся ТАРАСАВА.**

**Кастусь Тарасаў.**
*Ваша Эксцэленцыя! Пэўны час Вы былі біскупам на Гродзеншчыне і Міншчыне і, наогул, адзіным біскупам на Беларусі, зараз Ваша кампетэнцыя пашырана. У сувязі з Вашым былым і новым вопытам цікава даведацца пра сённяшні стан Касцёла на ўсходнеславянскіх землях і, у прыватнасці, на Беларусі. Якія тут існуюць праблемы ў справе аднаўлення каталіцкіх парафій?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Святы айцец, папа Ян Павел II прызначыў мяне апостальскім адміністратарам для ўсіх каталікоў у Еўрапейскай частцы Расіі. У ракурсе пытання, варта пазначыць, што значную тэрыторыю ўсходніх славян займае Расія, і сітуацыя Касцёла тут значна горшая, чым на Беларусі. Сёння я не магу з дакладнасцю сказаць, колькі там было касцёлаў да рэвалюцыі. Мне ўдалося налічыць у Еўрапейскай частцы Расіі звыш 50 касцёлаў і каля 200 тысяч вернікаў, не лічачы, аднак, рэгіёна пазнейшай рэспублікі немцаў Паволжа. Там жыло каля двух мільёнаў немцаў. Дадзеных аб гэтай рэспубліцы не маем; колькі было касцёлаў, вернікаў, святароў — невядома. Але вядома, што гэта была калісьці саратаўская дыяцэзія, там мелася свая семінарыя і быў, зразумела, біскуп. Але ў трагічныя гады рэпрэсій усё гэта было разбіта і разбурана. На Беларусі сёння Касцёл знаходзіцца ў лепшым становішчы, чым 3—4 гады таму назад. За той час, калі я быў біскупам Гродзенскім і Мінскім, а гэта няпоўныя два гады, адчынена каля 100 касцёлаў. Сёння агульная лічба ўсіх касцёлаў, парафій становіць 226. Адчынена таксама духоўная семінарыя ў Гродне, якая існуе, дарэчы гаворачы, у цяжкіх варунках. Але ўжо год семінарысты правучыліся, і было вельмі прыемна бачыць, як на кансэкрацыі біскупа Мінскага і Магілёўскага Казіміра Свёнтка ў Пінску дапамагалі на ўрачыстасцях уласныя клерыкі, не трэба было «пазычаць» дзесьці — ні ў Рызе, ні ў Каўнасе, ні ў Польшчы.

**Кастусь Тарасаў.**
*Прабачце, што перапыняю, Ваша Эксцэленцыя, але што Вы мелі на ўвазе, гаворачы пра «цяжкія варункі» жыцця семінарыі.*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Цяжкія, па-першае, з-за таго, што пакуль замала памяшканняў. Няма сваёй сталовай, няма кухні. Семінарысты мусяць хадзіць сталавацца ў горад. Гэтага парадак дзённы не можа трываць, бо семінарыя — замкнёная навучальная ўстанова. Ёсць і больш істотныя цяжкасці — не маем дастаткова прафесараў. Бо няма з каго ўзяць, не былі падрыхтаваныя. Таксама будынак патрабуе вялікага рамонту. Што да агульнага стану Касцёла на Беларусі, дык тут існуюць складанасці з аднаўленнем парафій. Найперш, трэба паадчыняць тыя касцёлы, тыя парафіі, якія былі пазамкнёныя ў розныя гады. Іх яшчэ значная колькасць, бо скажу, што раней на Беларусі налічвалася 455 парафій, а сёння толькі 226, гэта значыць, палова. Да таго ж касцёльныя будынкі, якія вяртаюць Касцёлу, знаходзяцца ў вельмі дрэнным стане, так мовіць, тэхнічным, патрабуюць капітальнага аднаўлення. А каштуе гэта сёння вельмі дорага. Ёсць значныя цяжкасці з будаўнічымі матэрыяламі, не маем адпаведных спецыялістаў, як трэба для такой адновы. Бо замала ж патынкаваць ці пабяліць, але трэба і фрэскі аднавіць, і скульптуру, і лепкай аздобіць, і прыгожым амбонам, лавамі. Ну і яшчэ цяжкасць: адкрываецца новая парафія — ксёндз патрэбны, а дзе ж яго зараз возьмем, пакуль што свае толькі рыхтуюцца.

**Кастусь Тарасаў.**
*Хіба Міністэрства культуры рэспублікі няздольнае дапамагчы Касцёлу сваімі рэстаўратарамі? Яны некалькі значных помнікаў ужо паднялі з руінаў.*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Канечне, спецыялісты могуць дапамагчы. Ды цяжка зараз сказаць, як тое будзе. Вопыту спецыяльнай касцёльнай рэстаўрацыі ніхто не мае. Цэны таксама ў іх не танныя. Ну, хто гэта можа аплаціць такія выдаткі. Добра было б, каб дзяржава трохі дапамагала. Міністэрства культуры, праўда, абяцала даць 200 тысяч рублёў у якасці дапамогі. Можа, грошы ўжо і пераведзены на рахункі. Маё пісьмо было адаслана да Міністэрства з падзелам патрэбаў па парафіях...

**Кастусь Тарасаў.**
*Гэта было да павышэння цэн?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Так, да павышэння. Таму цяжка меркаваць, якія маштабы прыме абяцаная дапамога. Тым больш, што і свецкая культура рэспублікі адчувае найвастрэйшы недахоп сродкаў.

**Кастусь Тарасаў.**
*Ваша Вялебнасць, мне пашанцавала прысутнічаць на імшы ў Чырвоным касцёле ў Мінску на свята Хрыстова ўваскрэшання, якую служылі Вы. Пасля імшы адбылася вольная гутарка вернікаў з Вамі, у якой акрэсліліся два, трэба адзначыць, неталерантныя погляды на мову службы — ці выключна па-польску, ці толькі па-беларуску. Як, на Вашу думку, Ваша Эксцэленцыя, павінна вырашацца моўная праблема Касцёла ў такой рэспубліцы, як Беларусь?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Тут, на мой погляд, не існуе вялікай праблемы. Каталіцкі касцёл абдымае людзей рознай нацыянальнасці — і беларусаў, і палякаў, і лі-

тоўцаў, і рускіх. Кожны мусіць трымацца сваёй культуры. Я быў выхаваны пры Вострай Браме, адпрацаваў там пяць гадоў. Напэўна, больш інтэнсіўнага ў рэлігійным значэнні мейсца ва ўсёй нашай краіне няма. Восем імшаў служылі там на нядзелі, з іх чатыры на польскай мове, чатыры на літоўскай — чаргаваліся. І ніхто не крыўдаваў. Таксама, мне здаецца, можа быць і тут. Там, дзе людзі хочуць, каб была імша на беларускай мове, дык мусіць быць на беларускай мове, дзе жадаюць на польскай мове — мусіць быць на польскай, а як у адной парафіі ёсць і тыя, і другія — няхай падзеляць у залежнасці ад таго, колькі людзей будзе прыходзіць. Як іх будзе па палове, дык і імшы па палове. Для гэтага, зразумела, патрэбны дзвюхмоўныя святары. Ды і наогул іх дужа не хапае. Бо як зараз святар абслугоўвае тры парафіі, а такіх сёння шмат, дык па дзве мшы адправіць у парафіі, гэта ўжо будзе шэсць імшаў. Няцяжка падлічыць, колькі гадзін спатрэбіцца ксяндзу на працу. Фізічна не паспее. Немалая праблема, шчыра гаворачы. Але, мяркую, гэта ў блізкай прышласці вырашыцца. Мы ўжо выдалі 100 тысяч асобнікаў «Святой імшы» на дзвюх мовах. Цяпер выдадзена ў Іспаніі 50 тысяч катэхізіса «Наша вера». Таксама друкуецца 20 тысяч кароткага катэхізіса чыста на беларускай мове. Гэтай кнігі будзе каля 90 тысяч асобнікаў. Усім хопіць — і тым, хто жадае маліцца па-беларуску, і тым, хто хоча па-польску.

**Кастусь Тарасаў.**

*Вышэй, айцец Тадэуш, Вы адзначылі дабрачыннасць Міністэрства культуры БССР. А як развіваюцца адносіны Касцёла з грамадскімі культурнымі Таварыствамі рэспублікі? Ці маецца тут абнадзейлівы вопыт?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Цяжка акрэсліць. Канечне, было б выдатна, каб культурныя таварыствы насмеліліся дапамагчы ў выданні кніжак ці хоць бы ў рэдагаванні іх. Пад канец мінулага года быў я запрошаны на пасяджэнне кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы. Уздымалася там і пытанне аб мовах службы. Карыстаючыся зручным выпадкам, я запрасіў дапамогі. Бо, скажам, ёсць запрошаныя святары з Польшчы, якія не могуць размаўляць ці слаба размаўляюць па-беларуску. Дык я прасіў зрабіць для іх невялічкі падручнік беларускай мовы на грунце польскай — з разлікам на такога спецыяльнага чытача. Казаў яшчэ, што падрыхтую па тры казанні на кожную нядзелю, на кожнае свята.Ператлумачце, калі ласка, і можна будзе друкам выдаць. Святар хутчэй навучыцца чытаць і гаварыць па-беларуску, а людзям у касцёле будзе прыемна слухаць казань на роднай мове. Я ўсё склаў і пакінуў, як дамаўляліся, у Чырвоным касцёле ў Мінску, ды, здаецца, усё гэта і па сёння там ляжыць усімі забытае. Ніхто пальцам не рухнуў. А на пасяджэнні былі самыя адказныя асобы Таварыства. На якую мову перакладаць, на які дыялект мовы — гэта ж не мая справа, не справа святароў. Гэта справа акадэмічных інстытутаў, Інстытута мовазнаўства. Мой абавязак прасачыць дагматычны бок. А якое слова трэба ўжыць — гэта спецыялісты-філолагі мусяць глядзець. Бо для саматужнага перакладчыка заўсёды існуе небяспека недакладнасці. Напрыклад, у выданні «Парадку святой імшы» ёсць такое няпростае месца. Напачатку імшы ксёндз звяртаецца: «Кір'е элейсон!» Два словы, але ж як іх перакласці на беларускую мову? На польскай мове гавораць: «Пане, змілуйся!» На расійскай — «Господи, помилуй!» І так ужывалі, і гэтак ужывалі. Нядобра ні так, ні гэтак. Цяпер мяне вінавацяць, што я ўвёў русіцызм.

Дык кажу: прапануйце другі выраз. Я ж яго сам не адшукаю. Гэта праблема моўная, патрабуе глыбокіх лінгвістычных ведаў. У Польшчы — варта параўнаць — 25 тысяч святароў, багата акадэміяў, хапае семінарыстаў і прафесараў, але ж васемнаццаць гадоў свае адэкваты рабілі, над кожным словам думалі. Так што Таварыствы маюць магчымасць добра дапамагчы Касцёлу. Але мусяць працаваць, не толькі заклікаць іншых да працы.

**Кастусь Тарасаў.**
*Першая каталіцкая катэдра на Беларусі з'явілася без малога тысячу гадоў назад — у Тураве. Потым Касцёл агарнуў сваім уплывам шырокія рэгіёны, потым, асабліва пасля паўстання 1863—1864 гадоў і ў сталінскія часы, а таксама ў шасцідзесятыя гады, зведаў ліха. Шмат чаго пайшло ў нябыт. Ці можна лічыць, Ваша Вялебнасць, што сёння адбываецца новае місіянерства Касцёла, ужо не сярод язычнікаў, як было ў даўніну, а сярод абыякавых да любой веры, пазбаўленых рэлігійнага выхавання і пачуццяў?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Напэўна, тое, што мы сёння бачым, і ёсць місіянерства Касцёла. Прадстаўнікі місіяў, напрыклад, наведвалі Гродзеншчыну, і тут маем відочны зрух — многа шлюбаў ужо бяруць праз касцёл, многа хростаў было. Я хацеў бы, каб мы маглі запрасіць больш місіянераў. Можа ім і цяжэй будзе зараз, чым было іхнім папярэднікам сярод язычнікаў. Бо тыя мелі нейкую веру. Ім трэба было даказаць, што хрысціянская вера лепшая за іх шматбожную. З другога боку, мы сёння назіраем, што многія з ранейшых атэістаў самі прыходзяць да касцёла. Нават і тыя, што раней былі настаўнікамі ў школе і забаранялі дзецям хадзіць да ксяндза. Ведаю такіх, хто каецца зараз за тыя свае грахі. Пэўна, такі час быў, тут цяжка людзей асуджаць, гэта справа Бога. Разумеем мы адначасна, што сярод атэістаў ёсць многа адукаваных людзей. Для іх простыя метады хрысціянізацыі не падыходзяць, патрэбны метады, адпаведныя іх інтэлекту. Тут добра было б запрасіць дамініканаў. Яны маюць старыя традыцыі павагі да навукі, і з імі інтэлігенцыя можа знайсці адпаведнае паразуменне...

**Кастусь Тарасаў.**
*У сувязі з гэтым, Ваша Эксцэленцыя, дазвольце запытаць, ці плануецца запрашэнне францысканаў? Раней імі было нямала добрага зроблена на нашых землях. Да таго ж яны трымаюцца запаветаў беднасці, перададзеных ім святым Францыскам.*

**Тадэуш Кандрусевіч.**
Трэба спадзявацца. Сёння, як свет адвернецца, скажам, ад атэізму, а да Бога не звернецца, а звернецца да рэчаў матэрыяльных,— узнікне яшчэ большая небяспека для маральнасці. Неадкладная арыентацыя чалавека са знешняга на духоўнае, як кажуць, у паветры вісіць. Неўзабаве прыедзе да нас, на Беларусь, генерал ордэна францысканаў. Я размаўляў з ім у Рыме, і ён гатовы спаткацца з прадстаўнікамі уладаў, ураду Беларускай рэспублікі, каб пагаварыць аб вяртанні ордэну яго ранейшых кляштараў. У Гродне быў значны кляштар, пад Лідай, у Гальшанах дзейнічаў францішканскі кляштар. Хоць бы некаторыя з іх вярнулі. Яны маглі б стацца карыснымі асяродкамі культуры.

**Кастусь Тарасаў.**
*Ваша Эксцэленцыя, ці плануе Касцёл распачаць вяртанне пазабіраных з касцёлаў матэрыяльных каштоўнасцяў, якія трапілі ў музейныя ці прыватныя зборы? Ці мяркуецца адраджэнне славутых касцёль-*

*ных бібліятэк Беларусі, накшталт бібліятэкі Полацкай калегіі, сляды якіх сёння адшукаліся ў вялікіх кнігасховішчах краіны?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Кляшторнымі і калегіяльнымі бібліятэкамі былі сабраны за стагоддзі вялізныя скарбы. Час і людзі іх не пашкадавалі. Пэўна, адрадзіць усё, што мелі калісь, наўрад ці ўдасца, але патрэбна намагацца, каб хоць нешта вярнуць. Мяркую, Беларускі фонд культуры мог бы ў гэтым добра дапамагчы. Скажам, ён мусіць вышукаць, дзе знаходзяцца забраныя з касцёлаў абразы, хто трымае зараз іншыя касцёльныя рэчы. Шмат што засталося ў рэспубліцы, але нямала прыналежных Касцёлу каштоўнасцяў трапіла за яе межы. Неабходна іх адшукаць. Ёсць такі лацінскі выраз: «Res clamat ad dominum» — «Рэч клікае па гаспадара свайго». Інакш кажучы, мусіць вярнуцца да свайго законнага гаспадара. Гэтым гаспадаром з'яўляецца Касцёл. Трэба думаць, Фонд культуры ўжо мае якіясьці спісы згубленых скарбаў і мае звярнуцца да новых уладальнікаў, растлумачыць абставіны і атрымаць назад наш агульны скарб. Бо і званы ёсць забраныя, і вялікай каштоўнасці абразы, скульптура, дэкаратыўныя вырабы. Не толькі вядомая Полацкая бібліятэка знікла. Няма і вялізнай бібліятэкі Гродзенскага езуіцкага кляштара. Ды і сам старажытны ўнікальны комплекс кляштара ўзяты пад турму. І зараз у цэнтры горада, у выдатным помніку культуры — астрог.

**Кастусь Тарасаў.**

*Ці не ставілася пытанне, каб вярнуць старадаўні кляшторны комплекс Касцёлу?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Вядома, ставілася. Але нам адказваюць, што гораду няма дзе трымаць турму. Будынкі кляштара побач з фарным касцёлам — самае найлепшае для яе мейсца. Недзе ў будучыні маюць перанесці. Ды калі гэта будзе, нікому не вядома.

**Кастусь Тарасаў.**

*Мо прасцей было б Касцёлу пабудаваць новы будынак пад гарадскую турму і абмяняць на кляштар?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

А нашто? Для чаго мы маем будаваць турму? Гэта ніякім чынам не занятак для Касцёла. Кляштар стагоддзямі служыў мэтам духоўным. «Res clamat ad dominum!» Рэч клікае па свайго сапраўднага гаспадара. Будзем спадзявацца, што здаровы сэнс і справядлівасць перамогуць.

**Кастусь Тарасаў.**

*Якія рэлігійныя мясціны на Беларусі Вы, Ваша Вялебнасць, лічыце найбольш значнымі ў духоўных і гістарычных адносінах? Якая мясціна, які касцёл, на Вашу думку, маюць стаць такім прыцягальным сімвалічным цэнтрам для беларускіх каталікоў, як, напрыклад, Чэнстахова ці Лысагура ў Польшчы, Вострая Брама ў Вільні?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Напэўна, вялікае значэнне мае Гродна. Таксама і Пінск. Адраджаюцца зараз касцёлы ў Мінску. Штосьці робіцца ў Магілёве. Зразумела, Навагрудак мусіць набраць былую сілу, бо гэта і значная гістарычная мясціна, і тут старадаўні касцёл, і ёсць цудоўны абраз Маці Божай, прыцягальны для пілігрымкі. Але на першае месца я паставіў бы тую мясціну, той касцёл, пра ранейшую славу якога, на жаль, забыліся,— гэта Будслаў. Будслаўскі касцёл бернардынаў — гонар Касцёла на

Беларусі. Цуд архітэктуры, увасобленая прыгажосць. Мне апавядаў пралат Кучыньскі, рэктар семінарыі, а ён там калісьці працаваў, што раней аграмадныя масы вернікаў прыходзілі на пілігрымку ў Будслаў. Ён шанаваўся беларускімі каталікамі, як прыгаданая вышэй Чэнстахова польскімі. Мусіць трэба прасіць улады, каб хоць бы дарогу прабіць там добрую, пакласці асфальту недзе дзесяць вёрст. Бо зараз здаецца і даехаць туды цяжка, калі дождж. Наогул трэба аднавіць усё, што там ёсць. А галоўнае — духоўна аднавіць. Каб людзі маглі прыходзіць туды да абраза Маці Божай Будслаўскай. Ведаем, да Вострай Брамы шмат людзей прыходзіць. А чаму ж мы маем ехаць далёка? Не, гэта добра, што едзем, вельмі добра, калі пілігрымка, знаёмства са светам. Але ж маем сваё, не горшае. Трэба вярнуць добрае імя беларускай санктуары, Маці Божай Беларускай.

**Кастусь Тарасаў.**

*З гісторыі добра вядома слава навуковых установаў каталіцкага Касцёла — універсітэтаў і калегіяў. Варта прыгадаць, што наш першадрукар Скарына вучыўся ў Ягелонскім універсітэце. На Беларусі мелі аўтарытэт розныя ордэнскія школы, асабліва піяраў. Ці існуе сёння магчымасць адраджэння школы, якую будзе ўтрымліваць Касцёл, дзе здолелі б атрымаць адукацыю ўсе жадаючыя, без розніцы веравызнання?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Так, сучасныя піяры маглі б зрабіць добрую справу для асветы. Яны раней мелі тут болей 20 школ, давалі высокую адукацыю. Ды, на вялікі жаль, традыцыя перапынілася. Зараз піяры прапануюць арганізаваць кібернетычную школу ў Шчучыне. Уся будзе іх апаратура, іх камп'ютэры...

**Кастусь Тарасаў.**

*Чаму ж, цікава даведацца, менавіта ў Шчучыне?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Яны раней мелі ў Шчучыне цэнтр, мелі кляштар. Існуе, так мовіць, гісторыя. Гэтую прапанову піяраў пра школу няблага было б прыняць і з яе скарыстацца. Шчучын, канечне, не Мінск, але ж і там людзі жывуць. Усім хочацца добрай сучаснай адукацыі для сваіх дзетак. Таксама дамініканы адкрылі б школы, бо багата утрымлівалі іх раней. Магчымасці існуюць. Было б жаданне паспрыяць. Напэўна, з цягам часу ўсё рэалізуецца. Павінен быць і нейкі навуковы цэнтр для патрэбаў Касцёла. Ёсць, вядома, навукоўцы за мяжой. Варта і нам сваю старую добрую традыцыю, выпрацаваную Віленскім універсітэтам, прыстасаваць да патрэбаў сённяшняга жыцця. Магчыма, мы яшчэ дзесяткі гадоў не будзем мець уласных вялікіх тэолагаў. Але ж мусім стварыць умовы, каб яны з'явіліся. А зараз, не маючы адпаведнай навуковай установы, мусім пасылаць вучыцца за мяжу, як у часы Скарыны.

**Кастусь Тарасаў.**

*Усе ведаюць пра шырокі ўдзел Касцёла ў міласэрнай праграме дапамогі дзецям — ахвярам Чарнобыля. Нашым чытачам, Ваша Вялебнасць, будзе карысна даведацца, куды Касцёл вывозіць дзяцей на аздараўленне? Якія тут акрэсліваюцца перспектывы і якія, дарэчы, існуюць цяжкасці?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Многа дзяцей ездзіць да Польшчы. Усё на польскай тэрыторыі фінансуе польскі бок, а дакладней, Касцёл у Польшчы, сакратарыят епіскапату Польшчы. На нашым баку хапае пакуль што цяжкасцяў

з афармленнем дакументаў. Зашмат бюракратыі. Ніхто не ведае, як «правільна» запаўняць неабходныя паперы, і па сто разоў трэба іх перапісваць. А гэта ж — на сотні людзей. Тут добрую акцыю дапамогі вядзе арганізацыя «Водгук», якая ёсць у Мінску. Ну, і яшчэ застаюцца праблемы з транспартам. Зараз адпраўляем 300 дзяцей на адпачынак у Рыміні. Усё фінансуе італьянскі бок. Але трэба фінансаваць авіятранспарт. Вазіць цягнікам — дзеці змучацца. Спадзяемся, што ваенная авіяцыя адгукнецца. Група дзяцей паедзе таксама да Германіі. Гэтую паездку немцы фінансуюць. Трэба падкрэсліць, што ў гэтых групах не адны толькі дзеці-каталікі. Гэта міласэрныя акцыі, і не мае значэння, з якіх сем'яў дзеці — з каталіцкіх, праваслаўных ці індыферэнтных да рэлігіі. Дзеці ўсе роўныя, усіх параўняў Чарнобыль.

**Кастусь Тарасаў.**

*Раней каталіцкі Касцёл на Беларусі садзейнічаў людзям, якія імкнуліся атрымаць паглыбленыя веды ці праводзіць даследчыцкую працу ва ўніверсітэтах і іншых навучальных і навуковых установах за мяжой. Ці будзе адраджацца гэтая традыцыя?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Зрухі ёсць. Некалькі асоб паедуць у кастрычніку на навуковы кангрэс у Рым. Ён будзе датычыць стану Касцёла ў Еўропе, яго традыцый і перспектываў. Фінансуе запрошаных Касцёл. Яшчэ паслалі чалавека вучыцца на журналістыку ў Швейцарыю. Трэба было дзве мовы ведаць для гэтай вучобы — англійскую і французскую. Такая ўмова. І яшчэ адзін чалавек папрасіўся. Журналістыка, вядома, касцёльная, але людзі намі пасланы свецкія. І яшчэ, пра свецкіх гаворачы, трэба дадаць, што гэтым годам дзевяць дзяўчат накіраваны ў Люблінскі універсітэт. Прошлым годам паслалі аднаго здольнага чалавека музыцы вучыцца ў тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. А яшчэ дзяўчына ўжо трэці курс на музыкалёгіі вучыцца ў каталіцкім Люблінскім універсітэце. Тут, мушу адзначыць, хапае праблемаў, нават чыста арганізацыйных. Каб весці такія справы, патрэбны епіскапат. Варта прыгадаць, што яшчэ тры гады назад ніводнага біскупа ў нас не мелася. Зараз на Беларусі ўжо ёсць два біскупствы, і ўсялякая арганізацыйная праца пойдзе прасцей і хутчэй. У тым ліку і паездкі за мяжу на вучобу. Захад для гэтага адкрыты. Так што, думаю, усталюецца традыцыя.

**Кастусь Тарасаў.**

*І апошняе пытанне, айцец Тадэуш. Што б Вы хацелі пажадаць чытачам «Спадчыны» і наогул усім людзям, каго хвалююць духоўныя пошукі ў нашым няпростым зямным жыцці?*

**Тадэуш Кандрусевіч.**

Радасці прасвятлення. Духоўны пошук — гэта напружаная штодзённая праца, змага з уласнай інэртнасцю, разняволенне творчага пачатку. Асабліва жадаю тут поспехаў маладым людзям, якія былі індыферэнтныя да культуры. Ад таго, якой будзе моладзь, як яна будзе выхаваная, на якіх шляхах здзейсніць сябе, залежыць нашае заўтра, будучыня ўсяго беларускага народа.

Спадзяюся, што часопіс прычыніцца да духоўнага аднаўлення Беларусі, і жадаю духоўнага здароўя, духоўнай моцы усім прыхільнікам культуры, усім, хто намагаецца дзеля перавагі дабра над злом.

**ЛЯВОН СЛУЧАНІН**



Лявон Случанін. Варкута. Пачатак 50-х гг.

Хоць час ліхі,
Хоць час
Надзвычай цяжкі,
Аднак
Нядолю
Трэба пакарыць!
Ідзеце горда,
Стройныя юна́чкі,
Да сонца светлага,
Да яснае зары!

Цяжка табе, галава,
Не на плячах,
Блага табе, цела,
Без галавы!

*«Слова аб палку Ігараве»*

# РАГНЕДА

## Уступ

Гэй!
Крывіцкі народ —
Беларусі сыны,
У Мінуўшчыны
Слаўным кургане
Несупынна гудуць
Вечавыя званы,
На вялікае
Клічуць змаганне.
Годзе
Крыўду цярпець!
Прэч
Пакуты і здзек!
Веру —
Збудуцца
Нашыя мары!
Памятай, беларус,
Што і ты чалавек,
Які можа
Сабой гаспадарыць!
Нашы скарбы
Вякамі
Цягалі ад нас,
Нашу радасць
У гразь утапталі.
У вялікі паход
Кліча праўда і час,
Клічуць слаўнай
Мінуўшчыны далі.
Вось таму
Із забытых
Курганаў — вякоў,
Ідучы
Зацярушаным следам,
Заклікае нашчадкі
Пазбыцца акоў
Маладая князёўна
РАГНЕДА.



1

Дзе Палота-Рака
Упадае ў Дзвіну,
Дзе драмала сасна
На кургане,
Горад Полацак там
(Помніць хто старыну)
Узвялі
Крывічы — палачане.
Ад Палоты-ракі
Да сівога Дняпра
Ад Бярозы
Да Сіняга мора
Горад Полацак наш,
Быццам тая зара,
Зіхацеў
Над крывіцкім
Прасторам.

2

На шляху вадзяным,
Што прарэзаў зямлю
Із халодных Варагаў
У Грэкі,
Карыстаў беларус
І благую раллю,
І гнілыя балоты,
І рэкі.
Векавыя лясы
У люстэрка вазёр
Заглядалі
Няголеным тварам.
І, здавалася,
Гэты
Бязмежны прастор
Быў ахоплен
Зялёным пажарам.

3

Часта войны былі.
Слаўны Полацак наш
Штурмавалі
Ліхія паляне.
Яны землі яго
Рабавалі усцяж
І багацці
Знішчалі дазвання.
Кіеў — прагны сусед,
Што свае капцюры
Працягаў
На яго непрыстойна,
Не дабіўся навек
Палачан пакарыць —
Палачане
Жылі самастойна.

4

Слаўны Рогвалад князь
Із сталіцы свае
Мудра княствам
Адноўленым княжыў.
Ён учынкі людзей,
Іх патрэбы усе
На вазе

Справядлівасці
Важыў.
Жыў свабодна тады
Беларускі народ.
Бараніў ён радзіму
Зацята.
І ні Захад яго,
І ні дзікі Усход
Не саджалі
За цёмныя краты.
На званіцах гулі
Вечавыя званы.
І ад страху
Нямелі чужынцы
І не йшлі
Кожны год
Беларусі сыны
У Сібір
Па шырокім
Гасцінцы.

5

Із харомаў сваіх,
Што былі у сяле
Недалёка
Ад Полацку-граду,
Князь
На белым кані,
Ў злататканым сядле
У сталіцу
Спяшаў на параду.
Прыкрываў валасы
Пазалочаны шлём,
Яркім сонцам
Зіяла кальчуга.
Вочы князя
Свяціліся
Дзіўным агнём...
А за князем —
Дружына і слугі.
На шырокім пляцы
Князь каня супыніў,
Ля тае
Вечавое званіцы.
І сказаў ён слузе
У той звон зазваніць,
Каб аж рэха
Ішло па зямліцы.

6

Звон магутны, густы
Знакам збору служыў.
Разагнуўшы
Шырокія плечы,
Бег каваль і купец,
Бег ганчар і мужык —
Сабіралася
Шумнае веча.



Гоман, жарты і смех
Размывалі натоўп,
На вялікую справу
Прызваны.
Толькі там не было
Тураўчанаў — братоў,
Ланцугамі няволі
Скаваных.

7

І прамовіў тады
Сонца яснае — князь
Да народнага
Мудрага сходу:
Вораг нашых братоў
Кінуў тварам ў гразь,
П'е шаломамі
З Прыпяці воду.
Святаслава сыны
Разбіваюць ілбы,
Тураў туга
Сціскаюць аковы.
Там,
Дзе спрэчку вядуць
Маладыя дубы,
Будзе нашым
Апошняе слова!
Зашумеў, быццам лес,
Беларускі народ —
Трэба стала

Падумаць народу.
Потым крыкнулі ўсе:
— На вялікі паход
Мы даём
Непарушную згоду!

8

Славу ткалі гады.
На крывіцкай зямлі
Панавалі
І шчасце і згода...
У харомах сваіх
На пацеху усім
Вырастала
Дачка Рагвалода.
Залацістыя косы
Ёй сонца дало,
Дало неба ёй
Сінія вочы;
На квяцістым лугу
За вішнёвым сялом
Дала лілія
Стан ёй дзявочы.
Навучыла жыццё
Волю светлую піць
І ніколі
Ня знацца з прымусам.
Навучыла зямля,
Як радзіму любіць,
Як любіць
Крывічан-беларусаў.

9

У маленстве
Бабулька
Расказвала ёй,
Як над краем
Кружылі віхуры,
Як быў бацькам яе
І мячом і крывёй
Да радзімы
Далучаны Тураў:
— Грознай хмарай
Князёва
Дружына плыла,
І ляцелі
Агністыя стрэлы.
Вораг зломаны
Трупамі поле услаў
І у стэпы
Уцёк азвярэлы.
Князя-сонца назад
На руках прыняслі,
Яго справы
Пакрылі хвалою.
Звон збавення звінеў
На крывіцкай зямлі,
Вораг нема
Стагнаў за Сулою.
Многа розных легенд,
Многа казак жыцця
Расказала
Бабуля князёўне.
І Рагнеда плыла
У жыццёвы прасцяг,
На жыццём
Зачарованым чоўне.

10

У юнацтве яна
На улонні дуброў
Назірала
Забавы народу.
Разгаралася сонцам
Дзявочая кроў,
Калі моладзь
Вяла карагоды.
Смех і песні
Звінелі
За ціхім сялом,
Адганялі
Нячыстую сілу.
Мітусілася вогнішча
Бурным агнём,
Асвятляючы
Бога Ярылу.



**11**

А дзяўчаты
На рэчцы
Пускалі вянкі
(Можа мілы
Да сэрца прытуліць),
Іх адносілі хвалі
Бурлівай ракі,
А Рагнеды вянкі
Затанулі.
— Цяжка будзе табе
Віць кахання вянкі,—
Гаварылі дзяўчаты
Гурбою.
А Рагнеда
Глядзела
На хвалі ракі,
І сціскалася
Сэрца тугою.

**12**

— Дзе ты, наша шчасце,
Дзе ты, наша доля?
Ты растала, мабыць,
Як крупінка солі.
Ты растала, мабыць,
У слязах дзявочых,
Што начамі роняць
Маладыя вочы...

Так спявалі
Сяброўкі.
І песня плыла,
Быццам цень,
У прасторы маўклівыя.
Кветка шчасця
Рагнеды,
Як сон, адцвіла,
У душы —
Прадчуванні жахлівыя.
Стала пуста
У сэрцы,
Прапаў супакой,
Сумавалі у лесе
Бярозкі.
І застыла Рагнеда
Над цёмнай ракой,
Абрываючы
З красак пялёсткі.

**13**

Златаверхі харом
Сярод Кіева быў.
Ён раўняўся
З гарамі крутымі.
Злом праслаўлены князь
У тым хораме жыў —
Святаславіч там жыў
Уладзімер.

А яго два браты —
Ярапалк і Алег —
Тыя самыя
Песцілі мары:
Кожны прагна жадаў
Стаць усім на чале
І самому
Жыццём гаспадарыць.

Не маглі падзяліць
Маладыя князі
Свайго бацькі
Багацце і славу.
І адзін аднаму
Не маглі дагадзіць
Тры пыхлівых
Сыны Святаслава.
І шукалі сабе
Дапамогі яны
Праз жанімства
З дачкой Рагвалода,
Каб сваяцтва сваё
Скарыстаць для вайны
І мячом
Дамагчыся згоды.

**14**

Сын рабыні —
Ўладзімер
І князь Ярапалк
Шлюць сваты
Да цудоўнай Рагнеды.
Іх гасцінна саджаюць
За князевы стол
Для вялікай
І важнай бяседы...
Апусціла Рагнеда
Сваю галаву,
Ціхім смуткам
Зардзеліся вочы...

І здавалася ёй,
Маладую траву
Вырваць з поля
Радзімага хочуць.

Прыгадала яна
І купальскі вянок,
І бурлівыя цёмныя хвалі,
А на шыі
Чарнеўся
Вузенькі шнурок,
На шнурочку —
З брыльянтаў каралі.

І Рагнеда,
Душою не крывячы,

Адказала
Усім на бяду:

— Не жадаю
Разуці рабыніча,
З Яраполкам
Я шчасце знайду!

**15**

Маладое князёўны
Рашучы адказ
На Уладзімера
Громам зваліўся.
А дружыннік,
Што выканаў
Княжы наказ,
Безгаловым
На дол
Паваліўся...
На залітым
Крывёю ганку
Князя чорныя
Думы грызуць:

— Я прымушу цябе,
Палачанку,
Мае стройныя
Ногі разуць!



**16**

І мячамі
Пакрылася поле.
Злосна пікі
На сонцы гарачь.
Застагналі
Густыя таполі,
Прапускаючы
Грозную рачь.

А раз'юшаны князь
Уладзімер
На сваім
Белагрывым кані
Страмянамі
Звінеў залатымі,
Помсты дзікай
Распальваў агні.
Быць крывавым
Дажджом-навальніцам,
Немым голасам
Выць пяруном,
І заплакаць
Лазінкам ніцым,
І ламацца
Магутным дубом.

**17**

А насустрач яму
Светлы
Рогвалад-князь
Ехаў разам
З сваімі сынамі.

Пад нагамі у коней
Гудзела зямля,
Чырванелася поле
Шчытамі...
Стрэлы пырснулі

Буйным,
Смяротным
Дажджом,
Узвіліся
Сталёвыя пікі.

Свішча
Рогвалад князь
Харалужным мячом,
Заглушаючы
Енкі і крыкі.

**18**

Памагаюць яму
Маладыя сыны —
Колюць пікамі,
Крышаць мячамі.

Толькі долі свае
Не дагналі яны,
Бо засада
Была за плячамі.
Нечаканым віхром
Задымелі палі,
Сонца хмары
Закрылі густыя...
І ляжалі
Снапамі
На роднай зямлі
Рагвалод
І сыны удалыя.

**19**

Доўга біўся тады
Беларускі народ,
Кроў славянская
Бегла руччамі.
Толькі вораг закончыў
Крывавы паход —
Стаў на горла
Нагой
Палачанам.
Горад Полацак наш
Зруйнавалі яны.
Горкім смуткам
Дымяцца руіны.
Палачанскае мяса
Клююць груганы
На прасторах
Няшчаснай краіны.
Застагнала зямля,
Роняць слёзы лясы,
Люд крывіцкі
Нязмерна гаруе.
За Дзвіною замоўклі
Дзяўчат галасы.
Валадзімер
З дружынай піруе.

**20**

А князёўна мая
На высокай сцяне,
Што надзейна
Вартуе палацы,
Белай зданню стаіць,
Злога князя кляне,
Кліча з ворагам
Лютым змагацца:

— Падымайся, народ!
Клічуць сурмы цябе,
На вялікае
Клічуць змаганне.
Кроў і здзекі нясе
Вораг люты табе,
Твая радасць
У горы растане.
Не пушчай ты чужых
На святую зямлю,
Што заліта
Крывёю і потам.
У цябе адбяруць
Яны волю тваю
І растопчуць
Крывавым ботам.
Закуюць яны нас
У свае кайданы,
Нашы слаўныя дні
Абяздоляць.
Будуць гора цярпець
Крывічанаў сыны
У пакутнай
Варожай
Няволі!

На высокі палац
Месяц глянуў ярчэй,
Захісталіся
Ніцыя лозы.
У князёўны мае
З васількoвых вачэй
Пакаціліся
Цёплыя слёзы.



21

Гэй!
Разбоем
Праслаўлены
Князь!
Слухай мову
Крывіцкай
Князёўны.
Не удасца табе
Кінуць тварам
У гразь
Беларускі
Народ непакорны.
Прыдуць зноў
Навальнічныя дні,
Будуць зноў
Баявыя паходы.
У вялікім
Змагарным
Агні
Беларус
Заваюе
Свабоду!

22

Дымнай раніцай
Вораг плячом
Падапёр
Залатыя палацы.
Сярод вояў
Стаяла
Рагнеда з мячом,
Заклікала
Да смерці змагацца...
Толькі сілы
Няроўныя
Ў байцы былі,
І ў гарачым
Змаганні расталі...
Маладую Рагнеду
Ў палон узялі
І вяроўкай
К сядлу
Прывязалі.

23

Прагны кіеўскі князь,
Што дабіўся свайго,
Пераможна
Глядзеў на Рагнеду.
У душы разгараўся
Кахання агонь,
Не пакінуўшы помсты
І следу.
Толькі вочы князёўны
Адплатай гарац,
Поле косы
Мятуць залатыя...
Павязла яе
Князева раць
У вайною
Праслаўлены Кіеў.

24

Пасадзілі за краты
Князёўну маю,
У нямілы ёй
Кіеўскі хорам.
За вакном
Кіяўлянкі
Вяселле пяюць,
Сэрца пеніцца
Крыўдай і горам.
Лебядзінымі хмаркамі
Думкі плылі,
Аплывалі
Святую радзіму;
Развітальнаю песняю
Вішні цвілі,
Бор лісткамі
Шумеў маладымі.
І здавалася сонца
Свяціла ярчэй
На шляху
Заварожаным думам.
І пакрыліся вейкі
Дзявочых вачэй
Несуцешным
Слязінкавым
Сумам.

25

Выплыў бацька
На белым
Гарачым кані,
Два браты,
Пазалочаны хорам...
Пакаціліся зорамі
Светлыя дні
І згарэлі
У сінім прасторы.
Як марудна,
Як нудна
Хвіліны плывуць,
Дарагая мая
Непаседа...
Палажыўшы
На рукі
Сваю галаву,
Доўга плакала
Горка Рагнеда.

26

Адазваўся рыпліва
Сталёвы замок.

Волі князевай
Ён пакарыўся.
І праслаўлены злом
Святаслава сынок
У Рагнеду
Вачыма
Упіўся.

Уладзімер:

Птушка, мабыць,
Шчаслiва
У клетцы жыве
І не дбае
Аб сонцы і волі.
Песціць
Горды адказ
У сваёй галаве
І не будзе
Рабыняй
Ніколі...
Не да твару,
Рагнеда,
Табе жартаваць.
Я згараю
У мроях кахання.
Дай руку мне сваю,
Пойдзем дні каратаць,
Нават крыўда
У шчасці растане.

Рагнеда:

Паглядзі на сябе:
Твае рукі ў крыві,
Твае справы
Заліты крывёю...
Я не жонка табе,
Лютым катам слыві
Над няшчаснай
Крывіцкай
Зямлёю!

Вочы князя палалі
Намерам благім.
Нават слугі яго
Анямелі.
Загадаў ён Рагнеду
Ваякам сваім
Пасадзіць
У сырым
Падзямеллі.

**27**

І над лёсам сваім
У скляпенні сырым
Доўга думала
Наша князёўна:
Горка плакаў народ,
Сумавалі бары
І дзялілася
Шчасце
Няроўна.
І хацела яна
На сябе налажыць
Беласнежныя
Тонкія рукі.
Толькі мусіць народ
Не загінуць,
А жыць
І пазбыцца
Варожае мукі.
І сказала яна:

— У ахвяру сябе
Я прыношу
Крывіцкаму люду.
Сцяўшы сэрца сваё,
Я разую цябе,
Але крыўды людской
Не забуду!

**28**

Ужо вярнуліся буслы,
Відаць, вясна
Не за гарамі...
І князь
Дубовыя сталы
Заслаў
Старанна
Абрусамі.
Харомы
Пеняцца святлом,
Палаюць кубкі
Дзіўным хмелем.
Сядзіць Ўладзімер
За сталом,
Спраўляе
Гучнае вяселле.
А на пасадзе,
Быццам ноч,
Сядзіць
Задумная Рагнеда.
З яе
Не зводзіць
Хмельных воч
Уся
Шумлівая бяседа.
Іх вочы
Радасцю гараць,
Звiняць
Успененыя шклянкі.
Сышліся
Плакаць і спяваць
З усіх ваколіц

Кіяўлянкі.
Бадзёра музыка
Грыміць.
І песні
Коцяцца на мілі.
Такое шумнае
Гульні
Яшчэ не бачылі,
Не снілі.

**29**

Падняў руку
Вясёлы князь,
Стрымаў
Шумлівую бяседу,
Сказаўшы ўсім:
— Яна мая! —
Ён кубак выпіў
За Рагнеду.
Рагнеды твар
Агнём палаў,
І сэрца
Помстай бушавала:
О, колькі крыўды,
Колькі зла
Прынесла
Князева навала!..
Аж цэлы тыдзень
Там пілі,
Крычалі соладка
І горка...
У твар
Варожае зямлі
Глядзела сумна
Наша зорка.

**30**

І дні,
Як рэкі, паплылі.
Яна рабыніча
Разула.
Ляцелі
З крыкам жураўлі,
І лета яснае
Заснула.
Калі жыццё
Пайшло на глум,
Як адспявана
Песень крышку,
Агорне сэрца
Дзікі сум,
І пальцы
Мкнуцца да кілішку.
Жыцця ня мае
Камышыт.
Ці можа сітнік
Гэта ведаць?
Расціла
Помсту у душы
Мая чароўная
Рагнеда.
Яе не цешыў
Белы свет,
І сонца цёплае
Не грэла.
І асыпаўся
Макаў цвет
З яе
Замучанага цела.
Агонь зямны
Даўно патух,
І свет здаваўся
Апусцелым.
І толькі моцны
Вольны дух
Лунаў у сэрцы
Скамянелым.

**31**

А бывалі часы,
Неадпомшчаны муж
Заварожваў
Рагнеду каханнем.
І дарыла яна
Нават ласкі яму
У палацы,
Распешчаным
Раннем.
Толькі хутка ізноў
Астывала душа,
Усплывала
Балючае гора.
І звінелі
Забытыя словы
Ў вушах
Нейкім вострым,
Калючым дакорам.
Страшнай помсты
Нязгасным агнём
Разгаралася
Шчырае сэрца:

— Той,
Хто плаціць
Няволяй і злом,
Ад рукі мае
Мусіць памерці!

**32**

Так казала Рагнеда,
І помсты агонь
У пакрыўджаным
Сэрцы насіла.
Часта меч яна брала
Ў святую далонь —
Кроў у жылах

Адплатай бурліла.
Выплывалі
Далёкія дні:
Кроў, знішчэнне,
Пажары, руіны,
У раз'юшаным
Зыркім агні
Спапялелае

Сэрца краіны.
Заняволены
Хілы народ,
Дзікім мохам
Парослыя сёлы,
І купальскі
Жывы карагод,
І расцвілыя
Кветкамі долы.

— Не!
Не будзе
Краіна мая
У нявольніцкім
Горы тапіцца.
Покуль цела
Трымае зямля,
Трэба шчасця
Уволю напіцца!

**33**

Нечым новым
Рагнеда жыве.
Залатое юнацтва
Мінула...
І адчула яна,
Што пад сэрцам яе
Нешта сонную
Ціш скалыхнула.
Невядомым,
Суцешным цяплом
Залілося
Жаночае цела.
Нейкім новым,
Нябачным агнём
У Рагнеды
Душа палымнела.
Раптам гора
І смутак уцёк.
Песцяць мары
Жаданае шчасце.
У душы
Найцяплейшы куток
Захавала
Рагнеда дзіцяці.

**34**

І вось тады,
Калі прышла вясна,
Зазелянелі
Шоўкавыя травы,
Радзіла сына
Першага яна,
Якога потым
Звалі Ізяславам.
І гэты любенькі,
Здаровенькі сынок,
Што у жыццё сабе
Адчыніць дзверцы,
І быў той цёпленькі
Жывенькі камячок,
Што ціха жыў
У мацеры
Пад сэрцам.
А на улонні
Светлае вясны
Цвілі сады
Цяплом
І шчасцем белым.
Рагнеда сніла
Залатыя сны
І на сынка
З надзеяю глядзела.



## 35

Уладзімер,
Стомлены
І славай і вайной,
Малога позіркам
Расчуленым акінуў.
Палалі вочы
Свежаю вясной,
І ён сказаў
Народжанаму сыну:

— Расці,
Мой сын,
У розуме і сіле.
У войнах жорсткіх
Скора я згару.
Ты дай зарок
На бацькавай магіле
Вясці да сонца
Кіеўскую Русь...

Наказваў князь
Маленькаму герою
Надзеі бацькавы
Дапрасці і ссукаць.
А губы тонкія
Свяціліся крывёю,
У мяккі лоб
Цалуючы сынка.

## 36

Міналі дні.
Самотная Рагнеда,
Як воды бурныя
Шырокая рака,
Вяла сваім
Непераможным следам
Свайго маленькага,
Бадзёрага сынка.
Яна у сэрца сына
Распаліла
Святою помстаю
Палаючы агонь.
Яе душы
Разгневаная сіла
Дарогай роднаю
Вяла яго.
Начамі доўгімі
Над сынавай калыскай
Спявала песні
Сумныя яна...
Хадзілі хмары
Над зямлёю нізка,
А за вакном
Скуголіла зіма.

## 37

Амаль штодня
Зімоваю парою
Яна з сынком
Гуляла у мячы.
Чарнявы хлопчык
Моцнаю рукою
Вучыўся ворага
Бязлітасна сячы.
Падняўшы меч,
Ён грозна
Хмарыў бровы,
Назад адкінуўшы
Крутую галаву.
Яму здавалася,
Што падаюць галовы
Падгнілым яблыкам
У мяккую траву.

## 38

Рагнеда сыну
Падарыла ласкі.
Каханне мацеры
Не ведала мяжы.
Яна яму сама
Складала казкі,
Сама імкнулася
Жыццём заваражыць:

— За высокімі гарамі,
За глыбокімі марамі,
Дзе цяпер лютуюць зімы,—
Землі нашае радзімы.
Там гібеюць палачане,
Бацька твой у іх мячамі
Адабраў зямлю і волю,
Абняславіў нашу долю.
Плачуць цёмнымі начамі
У няволі крывічане.
Дні жыцця на пальцах лічаць,
Да сябе яны нас клічуць.
Падрастай, сынок любімы,
Будзь збавіцелем радзімы.
Хай загіне стан варожы!
Хай цвіце наш край
прыгожы!

І бачыў сын
У гэтыя часінкі
Заліты крыўдаю
І здзекамі абшар.
А мацеры
Гарачыя слязінкі
Павольна капалі
На сынаў твар.

## 39

З благім намерам
Шостыя радзіны
Спраўляе сёння
Вераломны князь.

Над галавою
Сумнае княгіні
Ён кубак пеністы
Зняважліва узняў.
Высокі хорам
У маўчанні стыне.
І князь сказаў
У злосці і віне:

— Я п'ю
За гордую
Крывіцкую рабыню,
Дачку якая
Нарадзіла мне!

40

Смяяўся князь,
Смяялася бяседа,
У вокны хораму
Глядзела грозна ноч.
Рукой дрыжачаю
Самотная Рагнеда
Схапіла доўгі
Залацісты нож.



Гарэлі вочы
Крыўдай ракавою,
Між імі вырасла
Варожая скала.
На мужа лютага
Жаночаю рукою
Рагнеда нож
Рашуча падняла.

41

Ахутаў страх
Разгульную бяседу,
Як быццам галавы
Ляцелі з плеч.
А грозны князь
На гнеўную Рагнеду
Занёс са свістам
Харалужны меч.
І вось тады
З сумежнага пакою,
Як з-пад зямлі,
З'явіўся Ізяслаў
І лёгкі меч
Дзіцячаю рукою
На бацьку роднага
Караюча падняў...
Дзівіўся князь,
Дзівілася дружына.
Павісла ноч
На выбітым акне.
І князь сказаў:

— Бяры, Рагнеда,
Сына
І не паказвайся
На вочы мне!

42

## ЭПІЛОГ

З тае пары
Ля нашае сталіцы
Маленькі горад
Князь пабудаваў.
І горад быў
(Хаця-б не памыліцца)
Названы
Імем сына —
Ізяслаўль.
У гэтым горадзе,
Пад нашым
Небам сінім,
Святой манашкаю
Трынаццаць год
Жыла няшчасная
Крывіцкая княгіня,
Жыццё аддаўшая

За волю
І народ.
А сын яе,
Унучак Рагвалода,
Народны збаўца,
Слаўны Ізяслаў —
Прынёс людзям
Жаданую свабоду
І княствам Полацкім
Да смерці кіраваў.

Не зарасці
Пракладзенаму следу!
І сёння
Ў грозную
Крывавую пару
Я слаўлю гордую
Крывіцкую Рагнеду,
Я слаўлю любую
Радзіму —
Беларусь!

*Лявон Раманавіч Шпакоўскі (псеўданім Лявон Случанін) нарадзіўся 15 кастрычніка 1914 года ў вёсцы Лучнікі Слуцкага павету. Вучыўся ў Слуцкім педтэхнікуме, на літфаку Менскага вышэйшага педінстытута, які скончыў у 1936 годзе. Працаваў у г. Чэрыкаве, дзе ў 1937 годзе падпаў пад рэпрэсіі і быў асуджаны на 10 год лагераў, паспеўшы дагэтуль надрукаваць некалькі вершаў і перакладаў у перыёдыцы.*

*Мабыць, і не ўведалі б мы Лявона Случаніна, калі б не шчаслівая выпадковасць. Па 2 гадах і 2 месяцах зняволення на Волгабудзе Шпакоўскага амністуюць, і ён вяртаецца ў Слуцак, робіць настаўнікам у педвучэльні. Пад час вайны Случанін працуе на беларускую культуру — у беларускім школьніцтве. У 1943 годзе ствараецца ягоная славутая паэма «Рагнеда».*

*У 1944 годзе з сям'ёю ён выязджае ў Нямеччыну, дзе працуе на цукровым заводзе, дробіць камяні, даглядае гарод пры шпіталі. Увосень 1945 году, баючыся за лёс моцна захварэлае жонкі, з амерыканскае зоны Нямеччыны вяртаецца на Случчыну, фактычна ахвяруючы сабою дзеля родных. Атрымаў 15 год катаржнае працы і 5 год пазбаўлення правоў.*

*Працаваў у варкуцінскіх шахтах, быў адным з арганізатараў беларускага зямляцтва. Увесь гэты час пісаў вершы для сябе, для сяброў, для жонкі з дачкою, што чакалі яго на Беларусі.*

*Па дзесяцёх гадох лагероў Лявон Случанін быў амніставаны другі раз. Забраў сям'ю, застаўся працаваць настаўнікам на Поўначы, не перастаючы тварыць. У сямідзесятых гадах, пасля ўсіх выпрабаванняў, Лявон Случанін вяртаецца на Случчыну, у Салігорск, дзе працягвае пісаць аж да сённяшняга дня.*

*75-я ўгодкі Лявона Раманавіча Шпакоўскага адзначалі толькі родныя.*

*Найбольш вядомая з невялікае часткі надрукаваных твораў Лявона Случаніна — паэма «Рагнеда», якая вытрымала ўжо 3 выданні на Беларусі (апошняе — у «Калийщике Солигорска» ў 1991 годзе), а таксама выходзіла ў Нямеччыне і Аўстраліі.*

*Пра гісторыю паэмы Лявон Раманавіч распавядае так: у 1943 годзе ён жыў у Слуцку і працаваў раённым школьным інспектарам. Цікавіўся, безумоўна, беларускім друкам, чытаў беларускія газеты, якія выдаваліся ў той час. Прачытаў вялікі артыкул пра Рагнеду. Гэтая асоба вельмі захапіла паэта. І ён спрабуе напісаць твор, прысвечаны беларускай княгіні.*

*Працаваў галоўным чынам ноччу. Прачытаў паэму знаёмым настаўнікам, якія працавалі ў гарадской управе. Паэма ім спадабалася. Яны параілі выслаць паэму ў «Менскую газэту», дзе яна і была надрукаваная часткамі. Затым нейкім чынам паэма трапіла ў Вільню, адкуль у паэта спыталі дазволу на выданне «Рагнеды» асобнаю кніжкаю.*

*У 1944 годзе ў Вільні «Рагнеда» ўбачыла свет.*

*Кніжка паступіла ў продаж літаральна за некалькі дзён да прыходу Чырвонай Арміі. Ён паспеў узяць некалькі асобнікаў, адзін з якіх, аж да выхаду яго з лагеру, перахоўваў бацька. Кніжка ляжала ў кнігарнях, калі мала хто ўжо цікавіўся паэзіяй.*

*Застаецца дадаць, што ўдалае і запамінальнае мастацкае афармленне віленскага выдання «Рагнеды», выкарыстанае ў гэтай публікацыі, зрабіў мастак Уладас Дрэма, які пад той час працаваў у Віленскім Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча.*

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

З. ЖЫЛУНОВІЧ

# НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫ ЗА «ПРАЦАЙ»

**(1920—1928 гг.)**

Шырока разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва, якое пасьпяхова вядзе рабочая кляса Савецкага Саюзу на чале з сваім правадыром, Ленінскай комуністычнай партыяй, хутка набліжае краіну Саветаў да соцыялізму.

Разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту на рэшткі капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі выклікае шалёнае супраціўленне клясавага ворага. Кулак у вёсцы, нэпман у горадзе, яўны і скрыты контррэволюцыянэр-шкоднік цесна зьядналіся ў адзіны контррэволюцыйны фронт і вядуць жорсткае супраціўленьне пераможнаму прадвіжэньню да соцыялізму.

Непасрэдныя агенты фашызму, беларускія нацыянал-дэмократы, ставячы стаўку на інтэрвэнцыю, уключаюць сваю працу ў адзіны контррэволюцыйны фронт.

Актывізацыя нацыянал-дэмократызму разьвівалася поруч з разьвіццём посьпехаў і дасягненьняў заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі. Згубіўшы надзею на перамогу белагвардзейшчыны над дыктатурай пролетарыяту ў адчыненым змаганьні, беларуская нацыянал-дэмократыя разам з рэшткамі контррэволюцыі перайшла да скрытай, падрыўной работы. У гэтай сваёй «рабоце» яна галоўную ўвагу накіравала на культурны вучастак соцыялістычнага будаўніцтва. На працягу дзесяцігадовага існаваньня савецкае ўлады ў БССР нацыянал-дэмократы сыстэматычна і ўпарта змагаліся супроць рабочае клясы, супроць комуністычнае партыі.

Вось як выглядае іх шкодніцкая праца ў аспэкце гісторычнага дзесяцігодзьдзя пераможнай барацьбы рабочае клясы на чале з сваёй комуністычнай партыяй за соцыялізм.

Абвешчаная маніфэстам часовага ўраду БССР па-за законам беларуская белагвардзейшчына часткаю эмігравала за межы Савецкае Беларусі, часткаю захавалася па кутках і шчылінах унутры краіны. Наступ белапалякаў і часовае астаўленьне савецкаю ўладаю Менску абнадзеілі нацыянал-дэмократаў: яны ізноў вярнуліся да свае контррэволюцыйнае працы, перарванае прыходам савецкае ўлады ў канцы 1918 году. Разагнаная прадажніцкая Рада аднавіла сваю дзейнасьць пад выглядам беларускага нацыянальнага комітэту. Гэта ўстанова стала асяродкам, штабам беларускай контррэволюцыі. Белапольскія окупанты ласкава падгарнулі нацыянальны комітэт пад сваё крыло, дырыгуючы комітэцкай дзейнасьцю. Для большага плёну ў гэтай дзейнасьці нацыянальны комітэт быў увязаны з дэфэнзывай і надараны ґрашыма. Хутка дзейнасьць комітэту разгарнулася даволі шырока. Яна ахапляла палітычную, вайсковую і школьную галіны. Комітэт компэнсаваў імем беларускага народу ўсе тыя зьверствы і расправы окупантаў над рабочымі і сялянамі БССР, якія залілі окупаваную краіну крывёю расстрэленых рабочых і сялян і полымем пажараў. Ад імя нацыянальнага комітэту, на чале якога пасталі памешчык Скірмунт, памешчык Вярнікоў-

скі і іх заўсёдашнія папіхачы Лёсік, Смоліч, бандыт Аляксюк і інш., орган комітэту, газэтка «Звон», вітаў прыход окупантаў у наступных словах: «Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампана. Стары друг — лепшы новых двух. Няўжо ж дзеля таго, што Беларусь так заняпала, абяднела і не без гісторычнай віны з боку Польшчы,— дык яна ня мае права на братэрскую помач ад свайго вінавайцы ў гэты рашучы і адпаведны момант?» І далей: «Польшча павінна дапамагчы Беларусі. Яна павінна пасунуць сваё войска яшчэ на ўсход, каб адваяваць ад бальшавікоў усходнюю Беларусь».

Захапіўшы Вільню 22 красавіка, Пілсудзкі падаў сыгнал беларускай белагвардзейшчыне ў наступных словах свае адозвы: «Польскае войска, прышоўшае на Беларусь, нясе ўсім вам свабоду... Хачу вам даць магчымасьць разьвязаць унутраныя і нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі захочаце, без якого-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы». Побач з гэтым окупанты падкінулі радаўцам агрызак у выглядзе права карыстаньня беларускаю моваю для зносін з урадам.

Пры захопе Менску окупантамі Пілсудзкі яшчэ раз палашчыў сваіх верных сабак-радаўцаў гэткімі лісьлівымі абяцанкамі: «Я хацеў бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі»,— піша ён у сваёй адозьве. Беларусь можа гаварыць з Польшчаю, «як роўны з роўным і вольны з вольным». Але і без гэтага гладжаньня па галоўцы беларуская контррэволюцыя аддала-б сябе ў распараджэньне драпежнага окупанта. Выбаўлёная ад сваячаснай кары, заслужанай ранейшаю барацьбою з савецкай уладай, беларуская контррэволюцыя абудзіла сваю клясавую помсту і ўліла яе ў адну пасудзіну з бела-панскай фашыстаўскай контррэвалюцыяй. Апошняя стала тым сродкам, за які ўхапіліся беларускія белагвардзейцы для працягу свае барацьбы з рабочымі і сялянамі БССР, з іх правадыром, комуністычнай партыяй Беларусі.

Перад прыездам Пілсудзкага ў Менск у верасьні 1919 году комітэцкая газэта беларускіх контррэволюцыянераў захлёбвалася ў сабачай вернасьці галаве фашыстаўскага панства Пілсудзкаму. Яна пісала: «Гэтымі днямі прыяжджае да Менску начальнік польскай дзяржавы Язэп Пілсудзскі. Гэта дзякуючы яму наш змучаны, абяздолены край збаўляецца ад крывавага панаваньня маскоўцаў. Гэта ён зьвяртаўся да насяленьня Беларусі з адозваю, у якой абвяшчаў, што нясе нам волю і збаўленьне ад векавой крыўды і няволі. Прывет табе, начальнік польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы Беларусі».

Гэта прадажніцкая дэклярацыя беларускай контррэвалюцыйнай белагвардзейшчыны, набіўшай рукі ў справе праданьня краіны рабочых, гэтым не абмяжоўвалася. Яна была ўрачыста паўторана на прыёме ў Пілсудзкага перад сотнямі абшарнікаў-магнатаў, прышоўшых на Беларусь пад штыхамі Пілсудзкага варочаць савецкай краіне крывавы прыгон. Гэту місію ўсклаў нацыянальны комітэт на свайго сябра, старшыню вайсковай комісіі, заядлага ворага працоўных мас Беларусі поэту А. Гаруна. Гэты пясьняр контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і окупанцкай інтэрвэнцыі выступіў з наступным прывітаньнем «Пану начальніку дзяржавы польскай», стаўшаму на яго «роднай зямельцы Беларусі». «Ужо шосты тыдзень, як мы жывем спакойным жыцьцём. Разьвеяўся чырвоны туман, разьвеялася відмо галоднай сьмерці. Гэты цуд ёсьць дзелам гэроічнага польскага войска, якога вы ёсьць начальнікам. Вітаю вас ад імя нашых беларускіх дэлегацыяў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленьне, выслаўляю гарачую падзяку за звальненьне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, які на гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкую вопратку. Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць, бо забаронен, хаўтурны голас зьімшэлых званіцаў Смаленску. Мы верым і спадзяемся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівой Гародняй, вольнымі і шчасьлівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай рэспубліцы нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы — Віцебск, Магілеў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяемся, у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, якога слаўнаму прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне

ня толькі нашае сягоньняшняе «дзякуй», але і заўсёды: здароў будзь, прыходзь да нас, наш госьцю мілы, суседзе дарагі».

Гэта абяцаньне, дадзенае беларускай контррэволюцыяй окупанту Пілсудзкаму, добраахвотна і з адданасьцю выпаўнялася радаю ў час окупацыі і пазьней — праз усё апошняе дзесяцігодзьдзе.

Ужо пасьля вітаньня Пілсудзкага ў залі быўшага дваранскага сабраньня пачалася старанная праца па організацыі беларускай белай гвардыі для дапамогі окупантам у іх барацьбе з савецкаю ўладаю. Прывітальнік адзеў зялёную форму з бела-чырвона-белымі значкамі ды з пагоняй і пачаў гуртаваць пад аховаю дэфэнзывы беларускае войска. Прахадзімцы, авантурнікі і беспрацоўныя радныя, у обдым з беларускаю партыяй эсэраў складалі першыя кадры радаўскіх ваякаў. На старонках газэт запярэсьціліся прызыўныя аншлагі запісвацца ў войска для «абароны айчыны». Дзесь на Барысаўшчыне арудавалі ўжо банды нейкага Семянюка, па Случчыне організоўваліся кулацкія атрады Балаховіча. Нітка ад іх цягнуліся ў Менск, у вайсковую комісію, дзе арудавалі палкоўнік Якубецкі, пісьменьнік Гарун, рэдактар Лёсік, авантурнік Аляксюк і іншыя.

А побач з гэтым разгортвалася нацыянал-дэмократычная незалежніцкая праца ў школьнай радзе. Выдаваліся адпаведныя падручнікі, раз'яжджалі па вёсках інструктары. Запаведзі контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму распаўсюджваліся па ўсіх кутках забранай Савецкай Беларусі. Окупанты спадзяваліся засесьці на доўгія часы на абшарах праданай ім радаю краіны. Ня думала і беларуская контррэволюцыя аб хуткім канцы свае раз'юшанае дзейнасьці. Яна грунтоўна асядала пад бела-панскім крылом, з асалодаю смакуючы шэлест польскіх марак і аддзякваючы окупантам старанною працаю па выхаваньню ў працоўных гушчах захопленай БССР вернападданьніцкіх пачуцьцяў да «збавіцеля ад бальшавікоў Пілсудзкага». Пашла на распаўсюджаньне загатаваная яшчэ пры нямецкай окупацыі і зараз пашыраная контррэволюцыйная літаратура. Сялянскія дзеці ў школах павінны былі завучваць акафіст беларускае белагвардзейшчыны «Што трэба ведаць кожнаму беларусу?», выданы пад рэдакцыяй Лёсіка яшчэ ў 1918 годзе. Бач і ад Вільгельма і ад яго ўраду аўтары акафісту спадзяваліся «збаўеньня на доўгія гады». Народны Сэкратарыят,— казаў радаўскі мэморандум да «пана імпэрскага канцлера», паданы ў красавіку 1918 г.,— як прадстаўнік незалежнай рэспублікі, зьвяртаецца да ўраду Германскай імпэрыі з просьбаю аб прызнаньні акту незалежнасьці БНР, выданага 25 сакавіка. Народны сэкратарыят спадзяецца, што ў даны час гэтым прызнаньнем інтарэсы Вялікарасеі зачэплены ня могуць быць, бо сувэрэнная воля народу, прызнаваная Вялікарасійскім урадам, вуснамі рады беларускай народнай рэспублікі праз абвяшчэньне незалежнасьці парвала старыя дзяржаўныя сувязі з Вялікарасеяй. Пакладаючыся таксама на тое, што Берасьцейскі дагавор, заключаны, паміж іншым, і ад імя Беларусі, якая тады зьяўлялася часткаю Расейскай фэдэрацыі, і ратыфікаван урадам, дзейнічаўшым без упаўнаважнасьцяй з боку Беларусі, павінен быць перагледжаны,— народны сэкратарыят бел. нар. рэсп. выказвае сваю ўпэўненасьць, што ў гэтым напрамку ён сустрэне спачуваньне нямецкага ўраду і дзякуючы гэтаму дасягне свае галоўнейшай мэты — дзяржаўнага аб'яднаньня беларускага народу». У Вільгэльма яны прасілі, становячыся на калені: «Рада беларускай народнай рэспублікі, як выбраная прадстаўніца беларускага народу, зьвяртаецца да вашай імпэратарскай вялікасьці са словамі глыбачайшай падзякі за асвабаджэньне Беларусі нямецкімі вайскамі з цяжкага ўціску чужога пануючага зьдзеку і анархіі. Рада беларускай народнай рэспублікі дэкляравала незалежнасьць цэльнае і незалежнае Беларусі і просіць вашую імпэратарскую вялікасьць аб абароне ў яе кіраваньнях дзеля ўмацаваньня гасударственай незалежнасьці і недзялімасьці краю ў зьвязі з Германскай імпэрыяй. Толькі пад абаронай Германскай імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыне». Яшчэ раней А. Цьвікевіч вазіў пропозыцыю прыгарнуць Беларусь да сябе, ў Бярэсьце да генэрала Гофмана, А Луцкевіч аддаваў яе на міласьць Скарападзкага. Нямецкая рэволюцыя паперашкодзіла гэтым гнусным намерам радаўцаў і Вільгельмаўскага ўраду. Але Пілсудзкі ізноў акрыліў надзеі прадажнае радаўшчыны:



«Нацыянал-дэмакраты за «працай». Інбелкульт, навуковая камісія, Менск, 1922 г. Сядзяць злева направа: Я. Купала, А. Круталевіч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, У. Чаржынскі, В. Шэмпель, М. Байкоў. Стаяць злева направа: 1. ?, 2. ?, 3. Ч. Родзевіч, 4. Я. Колас, 5. Цвірка, 6. Я. Дыла (са слоў М. Улашчыка). Здымак з музею І. Луцкевіча. Захоўваецца ў Акадэмічнай бібліятэцы Літвы.

ці ня ўсё ж роўна, каму служыць — Вільгельму ці Пілсудзкаму — абы была вернута ўлада фабрыкантаў і памешчыкаў, абы падлягнуць працоўныя гушчы БССР пакоры і эксплёатацыі. Вартавою сабакаю прыгону — беларуская контррэволюцыйная белагвардзейшчына мoжа служыць заўжды верна і аддана.

Пясьняр-белагвардзеец ад імя нацыянальнага комітэту дзякаваў Пілсудзкаму за збавеньне «ад бальшавікоў», а школьная рада карміла ў школах дзяцей наступнаю нацыянал-дэмократычнаю атрутаю: «Як называецца той, хто выракаецца свайго народу?»

— Той, хто выракаецца свайго народу, здраднік, душапрадаўца. Шчыры беларус, праўдзівы сын свайго народу, заўсёды будзе тэй думкі: «Няхай лепш загіну, чымся адракуся ад свайго народу беларускага».

«Пачым лягчэй спазнаць, што мы беларусы?

— Найлягчэй гэта спазнаць па нашай мове. Мова злучае людзей у адзін народ. І нашая беларуская мова злучае звыш дзесяці мільёнаў беларусаў у адзін народ».

«Якая вера беларуса?

— Беларусы ўсе хрысьціянскай веры; часткаю каталікі, а часткаю праваслаўныя».

«Якія адзнакі беларускай дзяржавы?

— Адзнака беларускае дзяржавы — гэта гэрб даўнейшага вялікага княства беларуска-літоўскага: віцязь на белым кані ў чырвоным полі».

«Як павінен трымацца беларус на чужыне?

— Няхай памятае, што чужынцы, углядаючыся на яго, будуць судзіць аб усім народзе. Дык няхай беларус на чужыне годна і паважна прадстаўляе сваю нацыю».

Пішучы гэтыя маралы, старшыні рады і рады міністраў — Лёсікі і Ластоў-

скія гатовілі імі контррэволюцыйныя кадры для белапольскай фашыстаўшчыны. Сваю буржуазна-нацыяналістычную «незалежніцкую» сыстэму выхаваньня і агітацыі яны цесна ўвязвалі з вернападданьніцкім пачуцьцём польскаму імпэрыялізму. На словах незалежнік — на справе падхалім белапольскіх інтэрвентаў. Пагоня — гэта сымболь радаўскае княжёўшчыны, адначасна і верны саюзьнік белапольскага арла. Пад яго-ж крыло, склаўшы рукі на грудзях, працягалі свае галовы беларускія контррэвалюцыянэры. У рукі-ж Пілсудзкаму дарылі гэтыя прадаўнікі краіну рабочых і сялян, акупаваную «гаспадаром дзяржавы польскай». На яго самааддана працавалі і Беларускі нацыянальны комітэт, і школьная рада, і вайсковая комісія, і банды Балаховіча. Адна суцэльная сямейка.

Пад бела-чырвона-белым сьцягам сядзеў белапольскі драпежны арол, ласкава пазіраючы і на тых, хто па-за сьценамі пералічаных установ знаходзіўся ў польскіх окупанцкіх інстытуцыях. Ці ня ўсёроўна, па сутнасьці, ці быць маршалкам рады і стаяць на каленях перад Вільгельмам (Серада), ці выконваць загады ваяводаў Рачкевічаў ў сьценах окупанцкіх упраў? Выхвальваць у вершах (Паўловіч) панскую хітрасьць і панскі розум, насьміхаючыся з мужыцкае дурасьці, не дастаткова для поэты-шляхціча і клерыкала, сваю адданасьць паном трэба замацаваць непасрэднай працай у тых жа окупанцкіх установах.

У гэткім цесным суладзьдзі між беларускай белагвардзейшчынай і белапольскай окупацыяй ішла контррэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмократаў на працягу гадовае окупацыі БССР.

Але хутка рабочыя і бядняцка-серадняцкае сялянства БССР з дапамогаю мужнае Чырвонае арміі вызвалілі Савецкую Беларусь з-пад окупацыйнага прыгону і далучылі яе да цеснае сям'і Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. 11 ліпеня 1920 года Чырвоная армія забрала Менск. Белапольскае окупанцкае войска ў паніцы, у разбродзе кінулася наўцёкі, руйнуючы ўсё, што ні пападалася на яго шляху. Дарога бягучага адступленьня белапалякаў выяўляла сабою вобраз пасьля прайшоўшай гунаўскай навалы.

Наперадзе, пад прыкрыцьцём ababітых ударам Чырвонае арміі штыкоў окупанцкага войска, разьляталася напалоханым вараньнём беларуская контррэволюцыйная радаўшчына. Яна накіроўвалася ў Варшаву. Ізноў-жа пад белае крыло белапольскага арла. Але Пілсудзкаму ўжо было не да беларускіх белагвардзейцаў. Яму трэба было як мага бараніцца самому.

Гэтыя абставіны разьбілі беларускіх контррэволюцыянэраў на часткі.

Вышэйшыя політыкі і кіраўнікі белагвардзейскіх установ, дыплёматы і ідэолёгі контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму (А. Цьвікевіч, А. Смоліч і інш.) кінуліся абіваць парогі ўрадаў буржуазных краін. Надзея на дапамогу з боку імпэрыялістычнай буржуазіі не пакідала іх. Бач, яшчэ на поўдні ліпеў Урангель; пад Ленінградам дабіваліся банды Юдзеніча. Разьбітыя бела-паны паднімалі гонар на паседжаньнях мірнае нарады. Пагромшчыкі Савінкаў і Балаховіч грабілі беларускія вёскі і грамілі беларускія мястэчкі.

У штабах гэтых бандытаў прыладзілася другая частка беларускай белагвардзейшчыны ў асобах Аляксюка, Адамовіча і інш. Іхная мэта заключалася ў тым, каб разбоямі і грабествамі даць падмацунак «дыплёматычным» манэўрам авантурніцкай радаўскай політыкі. Але больш нахабныя і ёмкія з радаўцаў — нацыянал-дэмократы засталіся агентураю ў Беларусі для сувязі і коордынацыі падрыўнай працы з дыплёматамі заграніцай і з зялёнадубскімі бандамі ў прымежных частках БССР. Патуліўшыся, прыкінуўшыся сіротамі, гэтыя ўнутраныя эмігранты пачалі концэнтраваць свае сілы па савецкіх навуковых і навучальных установах. Паперадзе ўсяго для іх адчыніліся дзьверы ў Наркомасьветы.

Вызваліўшы Савецкую Беларусь з-пад белапольскай акупацыі, рабочыя і бядняцка-серадняцкае сялянства, на чале з комуністычнай партыяй і савецкай уладай, прыняліся за адбудову разбуранай краіны. Закіпела напружаная творчая праца ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры. Адначасна ішла ліквідацыя дывэрсійных бандыцкіх налётаў, якімі польская фашыстаўшчына, толькі што падпісаўшы рыскую ўмову, старался перашкодзіць нашаму мірнаму будаўніцтву.

У гэтых налётах цягнула сьвяціцца надзея беларускіх белагвардзейцаў на жаданае а можа: а можа ды сарвецца замірэньне і ўдасца ізноў Пілсудзкага вітаць на яго «роднай зямельцы Беларусі». Як-ніяк, а гатавацца да гэтага не пакідалі беларускія контррэвалюцыянэры-актывісты.

У ролі «культурных працаўнікоў» яны асталяваліся ў створаным пры Наркомасьвеце акадэмічным цэнтры. На чале гэтай нявыразнай установы, як і належала быць, стаў нядаўні адэскі дыплёмат, упрошваўшы францускіх генэралаў аб дапамозе радзе ў змаганьні з бальшавікамі — Некрашэвіч; ён заўчэсьне прарабіў маршрут ад Адэсы да Менску. Нават яшчэ засьпеў нейкі час папрацаваць і ў нацыянальным комітэце.

Практыка ў працы гэтых устаноў роўнымі крокамі перайшла ў акадэмічны цэнтр. Ужо з верасьня месяца ў ім пачынае выдавацца часопіс «Вольны Сьцяг». Нядаўна перад гэтым, за белапалякамі, выдавалася «Рунь». «Вольны Сьцяг» быў яе працягам. «Ад восені 1920 г. пры б. літаратурным аддзеле комісарыяту асьветы ў Менску выдаваўся журнал «Вольны Сьцяг» — «літаратурнамастацкі і навуковы штомесячны часопіс»,— пісаў Лёсік у сваім часопісе «Адраджэньне». Раней, да «Вольнага Сьцягу», выходзіў у Менску тыднёвік «Рунь» з такім жа самым зьместам. Трэба думаць, што «Вольны Сьцяг» — гэта тая самая «Рунь».

Як бачым, перад намі аўторытэтнае засьведчаньне непасрэднасьці ў працы паміж нацыянальным комітэтам і акадэмічным цэнтрам Наркомасьветы. Але, калі ў «Руні» друкаваліся пераважна вершы і апавяданьні (для програмных артыкулаў беларускія нацыянал-дэмократы мелі газэты «Звон» і «Беларусь»), то «Вольны Сьцяг» стаў програмным часопісам «прыміраных» контррэвалюцыйных радаўцаў.

Ужо ў другім нумары «Вольнага Сьцягу» пярэдні артыкул прысьвечаны А. Гаруну, які так жаласьліва віўся перад Пілсудзкім і гэтак заядла змагаўся з савецкаю ўладаю. У тэксьце артыкулу «красуецца» здымак гэтага белагвардзейца разам з Лёсікам — старшынёю нацыянальнага комітэту і главаром белагвардзейскай радаўшчыны. Абое — у стане мучальнікаў, якія «пацярпелі» калісьці ад царскага ўраду і папалі ў Сыбір. Вядомая подбіўка-ілюстрацыя для ўмацаваньня нацыянал-дэмократычнай тэорыі аб «дэмократычнасьці» беларускага руху. Пазьней гэта тэорыя пойдзе гуляць ва ўсю, падтрыманая і нацыянал-опортуністамі. А пакуль — яе першыя легальныя крокі адзначаны ў няпрыметным часопісе.

«Вольны Сьцяг» гэтак плакаўся аб А. Гаруне: «І вось няшчасны беларускі поэт памёр на чужыне ўвосень 1920 г. Гэтак скончылася сумная аповесьць аднаго з найлепшых беларускіх поэтаў, які змагаўся ўсё сваё жыцьцё за лепшую долю, за волю роднай зямелькі». Для тых, хто ня ведаў гэтага змаганьня, стваралася хлусьлівае ўражаньне аб поэтавай гэроічнасьці. Але тыя, хто ведаў пра Гарунаву гэроічнасьць, умысна маўчалі, бо не ў рашчоце было гаварыць перадлюдна, раскрываючы нацыянал-дэмократычнае пакрывала над одыёзнай фігурай вітаньніка Пілсудзкага.

«Вольны Сьцяг» меў све акрэсьленыя заданьні, ускладзеныя на яго пераемсьцьвенасьцю радаўскіх «ідэй». Носьбіты іх, да-рэчы, непасрэдна вярцеліся ў пакоях рэдакцыі, прасуваючы гэтыя «ідэі» на старонкі часопісаў, а часопіс — па БССР. Нумар трэці «Вольнага Сьцягу» агалашаў вершы будучага доктара Каравайчыка, дайшоўшага ў сваіх мэдыцынскіх досьледах да абгрунтаваньня антысэмітызму на зьвілінах мозгу. Яшчэ ў якасьці няпрыкметнага супрацоўніка акадэмічнага цэнтру гэты зацяты контррэволюцыянэр спрабаваў выкладаць свае вар'яцка-шовіністычныя думкі ў вершах. «Вольны Сьцяг» іх друкаваў — свае, вядома. У адным з іх з назваю «Memento mori» гэты «поэта» агалашаў:

Беларусы, беларусы,
Жыцьця помніце закон:
Што бяз руху, то ўмірае,
Рвецца жыцьця ніць жывая —
Сьцеражэцеся спакусы,
Духаў зла ганеце вон.—

Ўскалыхнецеся магутна,—
Згіне чараў ўражных сьлед,
Заблішчыць тады яскрава
Прамень шчасьця вялічавы.
Доля прыдзе к нам ня чутна,
Ўсьцеражэ ад дальшых бед.

Савецкая ўлада, даўшы магчымасць скончыць вышэйшую навуку і набыць годнасьць доктара, была бядою для гэтага нацыянал-дэмократа-антысэміта. Ён чакаў долі, якая-б «усьцерагла яго ад дальшых бед». Але чакаў ня склаўшы рукі, а ў актыўнай падрыўнай дзейнасьці. Доля абманула контррэволюцыянэра. Ну, тады-ж... Тады-ж яго верш зьліваўся ў адну нацыянал-дэмократычную ноту, што гучэла з старонак «Вольнага Сьцягу».

Будучы доктар дапаўняў рыфмамі тое, што неўспакоены прозаік, апусьціўшыся з п'едэсталу старшыні нацыянальнага комітэту да скромнага супрацоўніка няпрыкметнага з першага ўзроку часопісу, выказваў у прозе. У сваім артыкуле «Беларуская Энэіда навыварат», расьцягам на два нумары, гэты прозаік Лёсік павучаў: «І мы ані на момант не павінны забываць, што пасьля нашых гісторычных традыцый, пасьля багатай гісторыі прошласьці й гордай думкі аб вялікай, дужай і культурнай Беларусі часоў яе незалежнасьці,— цяпер нас злучае ў адзіны, непадзельны беларускі народ толькі нашая беларуская мова».

Гэты махровы нацыянал-дэмократ, прайшоўшы багатую школу адкрытага змаганьня супроць дыктатуры пролетарыяту, узяў цьвёрдую стаўку на правядзеньне свае контррэволюцыйнае дзейнасьці праз мову. Пры садзейнічаньні нацыянал-опортуністаў Лёсік лёгка набыў сабе годнасьць незаменнага мовазнаўцы. Уся справа з аформленьнем правапісу, з тэрмінолёгічнымі слоўнікамі, з «навуковымі» абгрунтаваньнямі была аддана гэтаму нацыянал-дэмократычнаму саматужніку. Але, саматужнічаючы ў навуцы, ён быў вучоным у контррэволюцыйнай працы. І мовазнаўства стала падставаю, праваднікóм гэтае яго працы. На старонках «Вольнага Сьцягу» пачыналіся першыя яе спробы ў савецкіх умовах. Спробы абяцалі многае. «Мовазнаўца» пісаў у ўспамінаным артыкуле: «І вось, выяўляючы духоўную істоту свайго народу, нашае пісьменства павінна бараніць сваю народнасьць ад захватнічаскіх імкненьняў (сьвядомых і несьвядомых) дужэйшых за нас суседзяў». Чаму? Таму, што «народ беларускі цяпер стаў цёмным і бедным. Няма яму прастору, каб выявіліся яго здатнасьці. Багатая зямля яго родзіць не яму, як не яму служаць здабыткіновачаснай культуры. Ён як стаў, так яшчэ і досі астаецца толькі гноем, каб на ім маглі вырастаць пышныя кветкі чужое культуры, выпіваючы з яго ўласнага грунту ўсе сокі жывыя».

Гэты «гной», згодна вернага служкі контррэволюцыі, мусіў быць аддадзены на поўнае распараджэньне белапольскаму фашызму. Бач, чужынцы — гэта «маскалі-бальшавікі», якіх ён ня зваў, а свае — гэта Вільгельм і Пілсудзкі, якіх ён, стоячы на каленях, упрашваў прыйсьці «валадаць Беларусьсю». Пад выглядам гэткай досі простай на выгляд «незалежнасьці» падносіў галава контррэволюцыйнай рады белапольскую інтэрвэнцыю.

Мары аб ёй не пакідалі Лёсіка і яго сяброў ня толькі ў хвіліны заняткаў літаратурнаю працаю ў якасьці «дасьледчыка» «беларусінскага» пісьменства. Больш выразна і дзейна яны абымалі яго ў практычнай лекторскай працы. На гэтым попрышчы Лёсік, з міласьці нацыянал-опортуністаў, зрабіўся незаменным чалавекам. Мовазнаўства цалкам было аддана ў яго монополію. Але ніхто не супярэчыў яму рабіць экскурсы і ў гісторыю ды нацыянальнае пытаньне. На гэты бок болей усяго Лёсік зьвяртаў увагу ў сваёй выкладніцкай працы ў 1921, 1922 і 1923 гадох. Пазьней ён пачаў аддаваць перавагу мовазнаўству, якім ямчэй, думаў ён, можна прыхаваць сваю контррэволюцыйную дзейнасьць. А покуль ніхто з тых, хто павінен быў стрымаць абнаглеўшага радаўца (кіраўніцтва НКА), гэтым ня цікавіўся. І Лёсік даваў прастор сваім контррэволюцыйным здольнасьцям.

Выкладаючы на лекторска-інструкторскіх курсах вясною 1921 г., Лёсік задаваў курсантам наступную тэму: «Як я сябе пазнаў беларусінам?» Гэта было зондыраваньне нацыянал-дэмократычнай глебы сярод настаўніцтва. Лёсік называе гэта споведзьдзю, пішучы: «На курсах было 80 чалавек. Некаторыя работы не зрабілі і такім спосабам ад споведзі ўхіліліся». Частку споведзяў Лёсік прапусьціў друкам у тым-жа-ж часопісе «Вольны Сьцяг». Гэту сваю тактыку вылоўліваньня сваіх кадраў Лёсік ужываў і надалей. Яна праводзілася адкрыта і не без пагоджаньня з іншымі мэтодамі, якія мелі ў сваім распараджэньні нацыянал-дэмократы ў сваёй контррэволюцыйнай працы на культурным фронце.

У той час, калі Лёсік вышукваў «беларусінаў», Некрашэвіч тварыў для іх асяродкі прыстанішча. Акадэмічны цэнтр не здавальняў гэтаму сваёю неакрэсьленасьцю; ён, па разуменьню нацыянал-дэмакратаў, не ў дастатковай меры адказваў іхным заданьням; ён быў вузкім дзеля таго, каб нацыянал-дэмократы маглі ўлажыць у яго свае намеры. І Некрашэвіч яшчэ ў студзені 1921 г. наладжвае пры Наркомасьвеце нараду наконт «організацыі адпаведнай лябораторыі» для беларускага адраджэньня. Гэту лябораторыю ён бачыць у Інстытуце Беларускай Культуры». Гэтая ўстанова,— даводзіў на памянёнай нарадзе Некрашэвіч,— пры самай шырокай дапамозе нашае соцыялістычнае ўлады, павінна згуртаваць вакол сябе ўсе беларускія сілы, дзе-б яны не знаходзіліся, выкарыстаць іх па простаму назначэньню і быць адказнай за культурную справу на Беларусі».

На месца інстытуту культуры была заложана «Навукова-тэрмінолёгічная комісія» у лютым таго-ж году. Гэта ўстанова была скарыстана нацыянал-дэмократамі. А разам з ёю ў іх веданьне адышла і ўся навука па мовазнаўству. «Яна мела сваім абавязкам заняцца найбольш пякучай і найбольш важнай справай, складаўшай адзін з першых момантаў беларускага адраджэньня»,— пісаў пазьней А. Цьвікевіч.

Тэрмінолёгічная комісія чульліва аб'яднала ў сваіх сьценах нацыянал-дэмократа-радаўца Лёсіка і расейскага чарнасотніка проф. Карскага. Чуючы контррэволюцыйны пах у працы комісіі, гэты зубр рэакцыі лагодна аддаў свае паслугі беларускім сваім сябрам. Надворныя непрыяцелі ў сутнасьці былі шчыльнымі таварышамі на антысавецкім фронце. Гэта засьведчылася гісторыяй контррэволюцыі не адзін раз.

Такім чынам, тэрмінолёгічная комісія была ўстаўлена новым зьвяном у ланцуг нацыянал-дэмократычнай контррэволюцыі. Ахвяраю яе стала беларуская мова. Шляхам архаічных выкапняў з літоўскае мэтрыкі, са слоўніка Берынды, з розных сярэдневяковых дакумэнтаў, шляхам новатворства і грубое полёнізацыі, рашучым адкіданьнем советызмаў беларуская мова адрывалася ад жыцьця, замыкалася ў цеснае кола цьвілой самабытнасьці. Нацыянал-дэмократы ставілі мэтай праз ускладненьне беларускае мовы адчужыць беларускія працоўныя гушчы ад пролетарскае культуры, будаванай рабочай клясай пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, ад працоўных гушчаў суседніх братніх савецкіх рэспублік. З гэтай мэтаю яны бралі за аснову карэньні беларускае мовы менш пашыранага дыялекту, з заходніх частак Беларусі, і ігноравалі мову Віцебшчыны і Магілёўшчыны, як «русіфікаваную». Зроблены найбольшым спэцам у галіне мовазнаўства, Лёсік чысьцейшаю беларускаю моваю лічыў мову кулацка-шляхецкіх раёнаў б. Менскага павету. У сваім артыкуле «Культурны стан Беларусі к моманту лютаўскае рэволюцыі» — у зборніку «Беларусь» ён проста і бессаромна кажа: «Шляхціц больш захаваў культурна-нацыянальных традыцый тыповай беларушчыны, як хто-небудзь іншы».

Гэту «беларускую» мову ён тут-жа, з дзьвярэй тэрмінолёгічнай комісіі, нёс на лекцыі і ў літаратуру. Яна на ходу станавілася аксыёмай, гасьцінна прынятай і Наркомасьветы. Да яе прымусна падганяліся ўсе дыялекты, па ёй пашлі пісацца ўсе слоўнікі.

Нацыянал-дэмократы, такім чынам, аўладалі арудзьдзем мовазнаўства ў барацьбе супроць савецкае ўлады. З гэтым арудзьдзем яны наступалі далей. Бач, навукова-тэрмінолёгічная комісія ахапляла толькі адзін вучастак культурнага фронту, а нацыянал-дэмократы закідалі рукі на ўсю беларускую культуру. «Усе адчувалі,— піша А. Цьвікевіч,— што ў форме комісіі, абмежаванай у сваіх заданьнях толькі тэрмінолёгіяй, гэткая важная справа, як разьвіцьцё беларускае культуры, ня можа адбывацца нормальна. Патрэбы жыцьця і энэргія нацыянальнага адраджэньня Беларусі вымагалі стварэньня ўстановы значна большага маштабу». «Апэтыт прыходзіць у час яды». Контррэволюцыйная пражэрлівасць нацыянал-дэмократаў, пры наяўным прымірэнстве да іх з боку працуючых на культурным фронце комуністаў, хутка павялічвалася. «Установа большага маштабу» аформлялася па ўсіх плянах нацыянал-дэмократычных архітэктораў. Побач з гэтым зьбіраліся «жывыя сілы» для працы ў гэтай установе. Знарочныя вагоны ў справоджаньні пасыльных каталіся з Менску ва ўсе канцы за «беларускімі працаўніка-

мі», звозячы іх у Менск. Стараньнямі Наркомасьветы быў праведзены загад праз Наркомасьветы РСФСР для бяссупрэчнага водпуску тых беларускіх работнікаў, якія хочуць ехаць на Беларусь. Нацыянал-дэмакраты, расьсеяныя па розных мясцох, поўнасьцю выкарысталі гэта.

Заснаваны ў 1922 годзе Інстытут Беларускае Культуры сабраў у сабе пышны букет махрастых нацыянал-дэмакратаў з старшынёю Некрашэвічам і сэкратаром Чаржынскім. Замест аднае тэрмінолёгіі, яны ўжо прыгарнулі да сябе слоўнікавую і літаратурна-дасьледчую справу. Літаратурна-дасьледчая праца служыла ўлоньнем, праз якое нацыянал-дэмакратычныя ўстаноўкі ў мовазнаўстве ператвараліся ў правілы мовы.

Для практыкі ў гэтым напрамку ў тым жа 1922 годзе намесьнік Наркомасьветы Баліцкі залажыў выдавецтва «Адраджэньне». Яно зразу пашырыла базу для контррэволюцыйнае чынасьці нацыянал-дэмакратаў на культурным фронце. Старшыня Інбелкульту стаў адначасна і загадчыкам выдавецтва, а супрацоўнікі — сябры Інбелкульту — галоўнымі пастаўшчыкамі матар'ялу да друку. Спынены «Вольны Сьцяг» замяніўся новым часопісам — «Адраджэньне».

Нацыянал-дэмократы разумелі добра, што іхняя «праца» і ў галіне мовазнаўства, і ў галіне літаратурна-дасьледчай дзейнасьці ня можа замыкацца ў сьценах тае ці іншае ўстановы. Ня ў гэтым была іхняя мэта. Усе ручайкі павінны зьлівацца ў адно контррэволюцыйнае русло, якое-б абмывала як мага большыя прасторы.

Першым дэбютам гэтага выдавецтва было выданьне часопісу «Адраджэньне» і граматыкі Лёсіка. Аўтор граматыкі быў і рэдакторам часопісу. «Адраджэньне» бессаромна і нагла агаліла свой контррэвалюцыйны нацыянал-дэмократычны твар. Помеж з іншымі яго супрацоўнікамі расьперазаўся ва ўсю і рэдактар. Ён улучыў сабе досыць месца, каб вылажыць свае рэакцыйныя погляды, першым чынам, у галіне мовазнаўства. Бяручы об'ектам крытыкі мову савецкіх выданьняў (газэта «Савецкая Беларусь»), Лёсік кажа: «З самага пачатку савецкае ўлады на Беларусі выходзіць штодзённая газэта «Савецкая Беларусь». Выходзіла яшчэ насьценная «Савецкая Беларусь» (?), але хутка зачынілася, як зусім непатрэбная, бо друкаваць газэту ў беларускай мове дзеля таго толькі, каб потым наклеіць на сьцяне ці на плоце поплеч з газэтамі і абвесткамі ў расейскай мове — гэта рэч была адмысловая (?), патрэбная хіба для таго, каб яшчэ горш пэцкаць і без таго запэцканыя платы і сьцены ў горадзе».

У гэтым вульгарызаваным нацыянал-дэмократычным словаблудзе галее непрыхаваная клясавая варожасьць да савецкага друку. Адыграўшая агромністую ролю ў мобілізацыі рэволюцыйнага настрою працоўных гушчаў, насьценная газэта ў вуснах заядлага радаўца прызываецца «пэцканінай платоў». З сьлінявым шумам на губах ён захлёбваецца ў нянавісьці да савецкага друку, нападаючы на яго праз мову: «Савецкая Беларусь» неміласэрна калечыла мову, выклікала жаль і абурэньне ў кругох сьвядомага беларускага грамадзтва, а для ворагаў беларускага слова давала багатую страву для кпін і для выскаляньня». Гэтае абурэньне зацятага нацыянал-дэмократа на мову газэты «Савецкая Беларусь» фактычна прыхоўвала сабою выступленьне супроць газэты, як савецкай. «Савецкая Беларусь» бязьлітасна на працягу 1920 і 1921 гг. выкрывала белагвардзейскую дзейнасць контррэволюцыйнае рады і яе агентаў. Газэта не давала спуску ніводнай праяве радаўскай прадажнасьці. Лёсік, як і належыла, прымаў удары газэты на сябе і, знашоўшы магчымасць іх адбіваць, ня траціў часу. Ён спрытна выкарыстоўваў ускладзеную на яго Наркомасьветы місію рэдактара для організацыі контррэволюцыйных выступленьняў.

Аднэю рукою пішучы пасквілі на «Савецкую Беларусь», другою ён выводзіў тэзісы контррэволюцыйных прамоў. У тым-жа сваім часопісе «Адраджэньне» Лёсік надрукаваў адну з іх, сказаную ім на выпуску слухачоў дзевяцімесячных курсаў. Гаворачы яе, Лёсік адчуваў сябе ня іначай, як у белым доме, на трыбуне беларускае рады. Вось гэтыя «пэрлы» контррэволюцыйнае агітацыі з балонак Наркомасьветаўскага часопісу: «Вы ўжо ня тыя, што былі,— зьвяртаецца радавец да слухачоў,— бо пакаштавалі пладоў з таго дрэва, што называецца

беларускай справай (падкрэсьлена ў тэксьце,— З. Ж.), беларускім адраджэньнем. Вы былі ўведзены ва сьвятое сьвятых беларускае справы, і адчыніліся вам вочы вашы, і пазналі вы таямніцы ўваскрасеньня айчыны нашай, маці Беларусі». І далей у тым-жа вітыяватым стылі: «Вашы сьвечкі запалены, і вы становіцеся апосталамі беларускае справы. Цяпер, як ясныя зоркі, разыдзецеся вы па Беларусі, каб панясьці з сабою вялікую радасьць аб уваскрасеньні Беларусі. Вы скажаце народу беларускаму, што айчына яго ўваскросла, што ўжо разьбіта дамавіна яго і далёка адкінут камень ад гробу яго. Вы скажаце яму, што Беларусь жыла, жыве і жыць будзе, і што недалёка ўжо «Абяцаная Зямля» яе. А калі знойдзецца Хама няверны, што ўсумніцца ў праўдзе слоў вашых, дык скажэце яму, што вы самі бачылі яе, сваю маці-Беларусь, і ўкладалі пальцы свае ў раны яе. А калі і гэта не паможа, то адыйдзецеся ад яго прэч, а пасьпяшайце туды, дзе ждуць вас, дзе слова ваша ня будзе голасам, гукаючым у пустэчы. Але бойцеся каб не пагасла сьвечка ваша, бо ня раз бура захопіць вас у дарозе, і не адну навальніцу давядзецца перажыць вам у часе свае падарожы. Пільнуйце і бойцеся, каб не пагасла сьвечка замілаваньня вашага да свае многапакутнае маці-Беларусі. Пільна сачэце за сабою і не забывайце падліваць алею ў сьвяцільні вашы, каб было з чым сустрэць яе, сваю Белую Русь, калі яна прыдзе судзіць нас ва ўсёй славе сваёй».

Гэта пропаведзь на мотыў прытчы аб дзесяці евангельскіх дзяўчынах, выказаная апостолам контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмократызму, ясна высьвятляе перад намі ўсю расьперазанасьць зарваўшыхся нацыянал-дэмократаў. Тут ўжо зьняты фігавыя лісткі і адкінута ўсякая завуальнасьць. Перад намі баявы прызыў, спадарожнае слова для акрэсьленых актыўных паводзін. Тут програмная ўстаноўка, як накіравальнік да контррэволюцыйнае нацыянал-дэмократычнае дзейнасьці. І характэрней усяго тое, што над гэтай дзейнасьцю, як вока Саваофа, спакойна глядзела Наркомасьветаўскае кіраўніцтва. Болей таго, пропаведзі радаўскага евангеліста выклікалі ўдаволеньне і захапленьне імі шэрагу комуністых.

Новы дэбют Лёсіка, на гэты раз на магіле А. Бурбіса, доўга расхвальваўся і ставіўся ў прыклад дасканаласьці «беларускай прамовы» шэрагам прысутнічаўшых на пахаваньні комуністаў.

У чым жа хавалася гэта «дасканаласьць». Лёсікаўскае звычайна востранацыяналістычнае, з душком антысавецкасьці, прамовы?

А вось у чым: «Нябожчык разумеў,— казаў Лёсік,— што без нацыянальнага вызваленьня ня можа быць і соцыяльнага вызваленьня. А нацыянальнае вызваленьне ён мысьліў, як поўную непадзельную дзяржаўную незалежнасьць для свайго беларускага народу. Але не дажыў да гэтага шчасьця. Ён пакінуў свой народ, сваю маці-Беларусь яшчэ ў муках вызваленьня, падзельную на часьці. Адну ён меў нагароду за сваю цяжкую працу беларусіна-рэволюцыянэра. Перад сьмерцю ён ужо мог узыйсьці на тую высокую гару, адкуль, як Майсей, азіраў абяцаную зямлю беларускага народу. Ён ужо бачыў тыя шырокія сьветлыя прасторы, над якімі запануе многапакутны беларускі народ, дзе ён будзе гэтаксама працаваць, жыць і бароцца за новае і яшчэ лепшае жыцьцё, але барацьба яго асалодзіцца нявымоўнаю радасьцю свае ўласнай нацыянальнай творчасьці, каторай не адчуваюць і не разумеюць усе нацыянальна сытыя народы. Сьпі-ж спакойна, беларускі прароча! Ты не дайшоў яшчэ да абяцанае зямлі, ня дойдзе яшчэ і шмат хто з нас, бо ўсе мы ў няволі радзіліся і мусім памерці, як тое яўрэйства, што вадзіў Майсей па пустыні».

Як бачым, у гэтага Дыогена ад нацыянал-дэмократаў адна выразная і цьвёрдая ўстаноўка выпукляецца ў кожным выступленьні. Гэта ўстаноўка махровага белагвардзейскага нацыянал-дэмократызму.

Беларускія рабочыя і бядняцкае сялянства, на чале з комуністычнай партыяй, пераможна зьнішчылі окупацыю, замацавалі савецкую ўладу і перайшлі да творчай аднаўленчай працы. Але для нацыянал-дэмократаў гэта праца чужая. Яны «галодныя нацыянальна», абяскроўлены на разьбітым саюзе з буржуазіяй, з панамі, памешчыкамі і окупантамі. Абапіраючыся на савецкі грунт, яны паглядалі туды, «дзе будзе яшчэ лепшае жыцьцё», гэта

ёсьць жыцьцё ў шчыльным абдыме з капіталістамі і фашыстаўскай буржуазіяй, жыцьцё на фундаманце жорсткае эксплёатацыі і прыгнечаньня працоўных мас. Гэта жыцьцё — нацыянал-дэмократычная абяцаная зямля, якую ідэолёг нацыянал-дэмократызму Лёсік клікаў шукаць са сьвечкамі, шукаць навакола сябе, г. зн. у перакладзе на звычайную мову — узрываць савецкае будаўніцтва, організоўваць контррэволюцыйныя сілы і гатовіць глебу для інтэрвэнтаў. Абазваны ў Савецкай Беларусі «соцыялістам-дэмократам» Лёсік выкладаў у прамове сваю програму, як програму радаўшчыны, програму нацыянал-дэмократызму з асноўным прынцыпам: без нацыянальнага вызваленьня ня можа быць вызваленьня соцыяльнага. Гэта адзначала — прэч Кастрычнік, няхай жыве рада, вайна дыктатуры пролетарыяту, а панаваньне — для нацыялістычнай буржуазіі. Пад гэтым сьцягам, разгорнутым ва ўсю, вялі сваю контррэволюцыйную чыннасьць нацыянал-дэмократы ўпарта і настойна. А дзяржаньне іхняга сьцягу об'ектыўна апіралася і на нацыянал-опортуністычныя плечы.

Прамова Лёсіка займае тры чвэрткі страніцы ў газэце «Савецкая Беларусь». Яна надрукавана поўнасьцю, на відным месьце, у той час як з прамовы сакратара Цэнтральнага Бюро КП(б) т. Кнорына ўзята толькі невялічкая частка. Рэдактар, зразумела, яе чытаў перад тым, як зьмяшчаць, але ў яго не знайшлося муства адкінуць гэтыя нацыянал-дэмократычныя заклікі з страніц савецкае газэты.

Нічога не рабілася супроць праяў нацыянал-дэмократычнай дзейнасьці і ў выдавецтве «Адраджэньне». Фактычна гэта выдавецтва пры папушчэньні Наркомасьветы цалкам папала ў рукі нацыянал-дэмократаў. У ўправе яго старшынёю быў намесьнік наркома асьветы, які лагодна назначыў загадчыкам выдавецтва Некрашэвіча, а рэдактарам нацыянал-дэмократычнага часопісу «Адраджэньне» — Лёсіка. Пры адабрэньні праўленьня выдаваліся гэткія падручнікі, як «Практычная граматыка» Я. Лёсіка. Гэта кніжка набыла сумную славу рэакцыйнага падручніка. У газэце «Зьвязда» ад 15.IX.1922 году была зьмешчана на гэту кніжку рэцэнзыя т. Пікеля. У сваёй рэцэнзыі т. Пікель між іншым кажа: «Так пад маркай коопэрацыйнага выдавецтва і нявінным названьнем «Практычная граматыка» вядзецца контррэволюцыйная пропаганда». Аднак гэты сыгнал ня ўплыў на кіраўнікоў выдавецтва. Замест таго, каб рашуча стукнуць па руках аўтараў гэткіх прац, граматыка Лёсіка была шырока распаўсюджана Наркомасьветы па школах БССР. А для адводу ад яе ўвагі з боку савецкае грамадзкасьці Наркомасьветы былі організованы рэцэнзыі на яўрэйскія і польскія падручнікі. Падобная опэрацыя была зроблена і з часопісам «Адраджэньне». У ім выкінулі ўсяго верш Купалы, а пісаніну Лёсіка, Каравайчыка, Бадуновай і інш., гэтаксама прасычаную контррэволюцыйнай ідэолёгіяй нацыянал-дэмократызму, пакінулі нечапанай, і часопіс прадавалі да поўнага яго распродажу.

Для распаўсюджаньня нацыянал-дэмократычных думак праз выданьні твораў нацыянал-дэмократаў адыграла благую ролю і кіраўніцтва друкаваньнем кніжак за рубяжом. На чале гэтага кіраўніцтва стаяў аўтар гэтага артыкулу. Дзякуючы яго недаравальнай папушчальнасьці была надрукавана нацыянал-дэмократычная кніжка-чытанка для школ таго-ж Лёсіка. Наркомасьветы часткаю распаўсюдзіў яе па школах, часткаю зьнішчыў.

Знаходзячы для сябе паказанае об'ектыўнае падтрыманьне з боку паасобных адказных кіраўнікоў устаноў, комуністаў, нацыянал-дэмократы акрыляліся для далейшай сваей чыннасьці. Раскідаючыся паасобнымі разгаліненьнямі ў бок лектарскай «працы» і «працы» па складаньню і друкаваньню падручнікаў, асяродкам сваім гэта чыннасьць мела той жа Інбелкульт.

«Інстытут Беларускае Культуры прыступіў да працы з той-жа самай энэргіяй, як і ранейшая навукова-тэрмінолёгічная комісія»,— пісаў пазьней А. Цьвікевіч. Нацыянал-дэмократы разумелі, у што ім упірацца, і рабілі ўпор на навукова-дасьледчую працу. Але побач з гэтым, з ласкі Наркомасьветы, Інбелкульту прадстаўляўся для разгляду і апрацоўкі рад галін наркомасьветаўскае працы, апрацаваньне і крытычны разгляд програм школ БССР, рэкомэндацыя кандыдатаў у лектары ВНУ, апрацоўка навучальных плянаў і г. д.

Паказаныя ўмовы як найлепш спрыялі разгортваньню нацыянал-дэмакратычнай шкодніцкай працы. Адначасова гэтыя ўмовы дазвалялі эмігранцкай белагвардзейшчыне пераносіць пляцдарм для зьбіраньня контррэвалюцыйных сіл да Менску.

Пасьпяховае разьвіцьцё савецкага будаўніцтва (аднаўленчы пэрыод) і ўмацаваньне савецкае ўлады няшчадна разьбівалі надзеі і намеры міжнароднае імпэрыялістычнае буржуазіі нізрынуць дыктатуру пролетарыяту з дапамогаю рэшткаў разьбітай контррэвалюцыі. У той жа час унутраныя супярэчкі капіталістычнай гаспадаркі ў кожнай дзяржаве і паміж асобнымі краінамі, справоджваныя інфляцыяй, ростам рэволюцыйнага і соцыялістычнага руху, прыкоўвалі ўвагу і клопаты буржуазіі да сваіх спраў. Болей таго, пад напорам рабочае клясы і дзелавых колаў буржуазнага грамадзтва, урады капіталістычных дзяржаў мусілі ўваходзіць з Савецкім Саюзам у дыплёматычныя і гандлёвыя зносіны. Рапальскі дагавор з Нямеччынай моцна ўдарыў па расійскай эмігранцкай белагвардзейшчыне. Засталася пры разьбітым карыце і беларуская нацыянал-дэмократыя. Аббіваньне парогаў у Лігі Нацыяў і фашысцкіх урадаў лімітрофных рэспублік ды Чэха-Славаччыны канчалася пустымі абяцанкамі і мізэрнымі падачкамі. Гэтыя падачкі таксама не маглі быць аплачаны цалком тэю службаю, на якую мелі магчымасьць беларускія контррэволюцыянэры-радаўцы. Увогуле, праз два-тры гады, ім даводзілася нясьці заданьні паслугачоў пры літоўскай кулацкай уладзе ды дзякаваць чэхаславацкім фашыстам за падтрыманьне іх валацужнага існаваньня. У гэткім стане, зразумела, не маглі доўга заставацца беларускія нацыянал-дэмократы. Сядзець і бязвольна сачыць за ўзростам моцы і посьпехаў савецкае краіны з непатухлай унутры клясавай варожасьцю супроць справы рабочых і іх правадыра, Комуністычнай Партыі, яны не маглі. Пры гэтым, дапамогі нацыянал-дэмократаў чакалі тыя, што сумелі ўсякімі хітрыкамі застацца ў Савецкай Беларусі, распачаўшы ў ёй сваю шкодніцкую працу.

У скутку гэтага пачалася іміграцыя ў БССР уцёклых два-тры годы назад контррэволюцыянэраў-радаўцаў. Ужо ў 1922 г. вярнуўся ў Менск Тарэшчанка, які застаўся на службе ў Наркомземе. За ім у 1923 г. прыехаў Смоліч. Ён спрытна ўцёрся ў цэлы рад ўстаноў і стаў там незаменным спэцам. Гэта сваё радаўскае спэцтва ён прыкладаў і ў Наркомземе, і ў Статбюро, і ў Інбелкульце. Адначасова да яго была зьвернута просьба Наркомасьветы аб напісанні падручніка «Географія Беларусі». Як бачым, для Смоліча зразу знашлося шырокае поле для севу сваіх нацыянал-дэмократычных думак. За Смолічам цягнулася чарада яго бліжэйшых сяброў.

Для беларускай контррэволюцыі заставалася мяняць вехі, пераапратацца ў відзімых прыхільнікаў савецкае ўлады, каб гэтым уцірацца ў яе давер'е, зманэўраваць і, апынуўшыся ў Менску, вярнуцца да працягу барацьбы з рабочаю клясай і яе справай. Процэс «зьмены вех» адбыўся хутка і організавана. Ён меў сабе падставаю створаную эмігрантамі — нацыянал-дэмократамі тэорыю адзінага культурнага цэнтру — Менску. Гаворачы аб гэтым цэнтры, яны абмяжоўваліся ліцамернымі павярхоўнымі сказамі, умела хаваючы пад імі контррэвалюцыйныя намеры.

З 1924 года ў справе ажыцьцяўленьня гэтых намераў беларуская белагвардзейшчына стала прыступаць да конкрэтных захадаў.

1930, 26.XI.

**Працяг будзе.**

## ПРЫСУД

*У 1929 г. на беларускую інтэлігенцыю абрынуўся новы ўдар. Абвінавачанне было сур'ёзнае — стварэнне апазіцыйнай партыі. І назоў ёй прыдуманы быў гучны — нацыянал-дэмакратычная, і «сяброў» яе назвалі хлёсткім*

*словам — «нацдэм». «Палітычнае чуццё» сталінскай інквізіцыі згуртавала ў шэрагах неіснуючай партыі лепшыя нацыянальныя сілы.*

*1930 год. Ідуць масавыя арышты і падрыхтоўка працэсу над нацдэмамі. Партыя набывае гучную «рабочую назву» у дакументах АДПУ — «Саюз вызвалення Беларусі». 86 чалавек знаходзіцца пад следствам. Гэта вучоныя, літаратары, настаўнікі, кіраўнікі розных беларускіх установ. Абвінавачанне грунтуецца на тым, што, займаючы розныя адказныя пасады ў БАН, Навукова-тэрміналагічнай камісіі, Наркамасветы, Наркамземе, Белдзяржвыдавецтве ды іншых установах, яны пачалі групаваць вакол сябе «няўстойлівыя элементы», распаўсюджваць сярод іх свае нацыяналістычныя погляды. Збіраючыся на кватэрах, на сваіх рабочых месцах, яны вялі размовы аб шляхах развіцця гаспадаркі і культуры Беларусі. На падставе гэтага рабілася выснова аб існаванні глыбока заканспіраванай арганізацыі, якая мае на мэце «звяржэнне савецкай улады ў БССР» (гл. справу КДБ № 14617 у 29 тамах).*

*Неабходна было зрабіць «варожую дзейнасць» нацдэмаў шырокавядомай, арганізаваць кампанію нянавісці. Найлепшым пачаткам быў бы публічны выступ пажадана шырокавядомага, папулярнага ў народзе і блізкага да «нацдэмаўскага» асяроддзя чалавека. Выбар паў на Цішку Гартнага...*

*«Нацыянал-дэмакраты...» З. Жылуновіча былі апублікаваны з працягам у 11 і 12 нумарах «Маладняка» за 1930 г. А ўжо 10 красавіка 1931 г. пастановай АДПУ на падставе артыкула 76 КК БССР усім, хто быў пад следствам, абвешчана высылка на 5 гадоў у розныя гарады Расіі.*

*Не выключана, што ўсё гэта пісалася пад прымусам, пяром «вадзіла чужая рука».*

*«Праца» Жылуновіча ўяўляе сабой настолькі грунтоўны агляд дзейнасці нацдэмаў з 1920 па 1928 г., што з'яўляецца вельмі каштоўнай крыніцай інфармацыі, да нядаўняга часу амаль адзінай, бо ўсё «нацдэмаўскае» было добра прыхавана ў «спецфондах».*

*Такая грунтоўнасць міжволі наводзіць на думку, што ўсё гэта пісалася з разлікам пакінуць праўдзівую інфармацыю гісторыі. Чытаць можна і між радкоў, замяняючы некаторыя эпітэты на супрацьлеглыя (надта іх тут багата). Але падобная аргументацыя добрая сёння. Аўтар тады не мог ведаць, што будзе заўтра з краінай, ім, гэтымі людзьмі (зрэшты, няпроста арыентавацца і зараз). Гэтую «працу» можна разглядаць толькі як прысуд.*

**Алесь ЖЫНКІН**

# «ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ»

## «Пахвала вялікаму князю Вітаўту».

Таямніцу цара захоўваць пахвальна, а пра справы вялікага гаспадара паведамляць пахвальна. Хачу вам расказаць пра вялікага князя Аляксандра, гэтак званага Вітаўта, літоўскіх і рускіх і шмат іншых земляў гаспадара. Але спачатку па пісанаму: «Братва, бога бойцеся, а князя шануйце». Гэтак і я хачу вам расказаць пра гэтага слаўнага гаспадара. Але немагчыма ні расказаць, ні апісаць справы вялікага князя Вітаўта. Калі б было магчыма спасцігнуць вышыню неба і глыбіню мора, то можна б было б выказаць сілу і храбрасць гэтага слаўнага гаспадара.



Князь Вітаўт. Фрагмент з карціны Яна Матэйкі «Грунвальдская бітва».

Вялікі князь Вітаўт валодаў Вялікім княствам Літоўскім і Рускім і шмат якімі іншымі землямі, проста кажучы, усёю Рускаю зямлёю. Ды не толькі ўся Руская зямля [была яму падуладная]. Яшчэ і гаспадар Вянгерскай зямлі, гэтак званы цэзар рымскі, у вялікай любові жыў з ім. Аднойчы быў гэты слаўны гаспадар у сваім горадзе Вялікі Луцк і паслаў сваіх паслоў да вянгерскага караля, гэтак званага цэзара рымскага, і загадаў яму прыбыць да яго. Ён жа паслухмяна неўзабаве прыехаў да яго са сваёю каралеваю і пашану вялікую выказваў, і падарункі шматлікія падносіў яму. І з таго часу вялікая любоў умацавалася паміж імі.

Як не дзівіцца славе вялікага гаспадара [Вітаўта]. Няма земляў ні на ўсходзе, ні на захадзе, адкуль не прыходзілі б пакланіцца гэтаму слаўнаму гаспадару. Калі нават ёсць цар над усёю зямлёю, і той, прыйшоўшы, кланяўся слаўнаму гас-

---

Працяг. Пачатак публікацыі і прадмова В. Чамярыцкага ў № 1—3 за 1991 г.

падару, вялікаму князю Аляксандру, гэтак званаму Вітаўту. Яшчэ і турэцкі цар пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў [гэтаму] слаўнаму гаспадару. У вялікай любові жыў з ім і прававерны, і хрысталюбны цар царградскі. Таксама і Чэскае каралеўства з вялікаю пашанаю ставілася да [нашага] слаўнага гаспадара. А яшчэ дацкі кароль пашану вялікую выказваў і падарункі шматлікія падносіў слаўнаму гаспадару, вялікаму князю Вітаўту.

У тыя ж гады брат яго Ягайла, па-ляшску званы Уладзіславам, валодаў Кракаўскім каралеўствам, і ён з ім [таксама] у вялікай любові жыў. Калі слаўны гаспадар Вітаўт на якую зямлю гневаўся і хацеў пакараць, кароль Уладзіслаў заўсёды даваў яму дапамогу. Служылі яшчэ яму і ўсходнія цары.

Таксама вялікі князь маскоўскі ў вялікай любові жыў з ім. Служылі яму яшчэ і іншыя: вялікія князі нямецкія з усімі сваімі гарадамі і землямі, па-нямецку называныя магістрамі; гаспадар зямлі Малдаўскай і Бесарабскай, па-валашску называны ваяводаю; таксама і гаспадар зямлі Балгарскай, па-балгарску называны дэспатам. Яшчэ і іншыя вялікія князі [служылі вялікаму князю Вітаўту]: вялікі князь цверскі, вялікі князь разанскі, вялікі князь адоеўскі, і Вялікі Ноўгарад, і Вялікі Пскоў. Проста кажучы, не знойдзецца ва ўсім памор'і ні горад, ні край, якія б не слухаліся гэтага слаўнага гаспадара Вітаўта.

Гэтыя вялікія гаспадары, вялікія князі, вялікія землі, пра якія мы тут пісалі, адны ў вялікай любові жылі з ім, а іншыя моцна служылі яму, слаўнаму гаспадару, пашану вялікую і падарункі шматлікія прыносілі яму не толькі кожны год, але і кожны дзень.

Калі слаўны гаспадар, вялікі князь Аляксандар, званы Вітаўт, на якую зямлю гневаўся і хацеў яе сам пакараць або куды хацеў сваіх моцных ваяводаў паслаць і каму ад тых земляў загадваў да сябе прыбыць, яны неўзабаве паслухмяна са сваёй зямлі да яго прыходзілі. Калі ж якому гаспадару з-за якой-небудзь патрэбы немагчыма было прыбыць [да Вітаўта], ён сваё войска пасылаў яму (Вітаўту — В. Ч.) на дапамагу і на службу.

Гэты вялікі князь Аляксандар, званы Вітаўт, у вялікай пашане і славе прабываў. [Аднойчы] быў ён у адным са сваіх гарадоў — вялікім горадзе Кіеве, і прыслалі да яго [сваіх пасланцоў] вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства, бо шмат вялікіх ардынскіх цароў служыла пры яго двары. І даў ён ім цара па імені Салтан. Той жа цар, які быў у Ардзе, учуўшы, што слаўны гаспадар [Вітаўт] паслаў свайго слугу на царства, не пасмеў працівіцца яму, пакінуў царства і ўцёк. Салтан жа, прыйшоўшы ў Арду, сеў на царства паводле волі вялікага гаспадара Вітаўта і вельмі паслухмяна служыў яму, і неўзабаве памёр. Старэйшыны ж ардынскія паслалі сваіх паслоў з вялікімі дарамі да слаўнага гаспадара [Вітаўта] і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Салтан Малы. Гэты Салтан, сеўшы на царства, ніяк не смеў не слухацца слаўнага гаспадара: дзе і калі [вялікі князь Вітаўт] яму загадае, ён тады і туды качуе. Прайшло мала часу, і вялікія князі ардынскія, не смеючы нічым разгневаць слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, каб без яго волі не садзіць на трон цара, прыслалі да яго з вялікаю пашанаю і прасілі іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Даўлад-Бярды.

Як рака, праплываючы ўсе землі, людзей і жывёлу поіць, а сама не змяншаецца, так і слаўны гаспадар [Вітаўт] шмат цароў адпускаў у Арду, а ў яго большала цароў. Мы ж на папярэдняе вернемся. Гэты цар Даўлат-Бярды мала часу цараваў і таму тыя ж старэйшыны ардынскія, калі ішлі ля вышэй згаданага горада Кіева і ўчулі, што ў гэтым горадзе знаходзіцца слаўны гаспадар, вялікі князь Вітаўт, прыйшлі і пакланіліся яму, і шматлікія падарункі прынеслі, і прасілі ў яго іншага цара. Ён жа даў ім іншага цара па імені Махмет. Як ад мора шмат вады выходзіць, так і ад гэтага слаўнага гаспадара, вялікага князя Вітаўта, мудрасць сыходзіць.

**Заканчэнне будзе.**

## КАМЕНТАРЫІ

«Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» завяршаецца арыгінальным помнікам беларускага пісьменства XV ст.— «Пахвалой вялікаму князю Вітаўту». Гэты твор, верагодней за ўсё, быў напісаны ў 1430 г. у Смаленску, дзе складаўся і першы беларуска-літоўскі летапісны звод. Урачыста-узнёслы, панегірычны стыль «Пахвалы» добра стасуецца як з велічнасцю самой асобы гэтага князя, так і са значнасцю той гістарычнай падзеі, з нагоды якой яна стваралася — рыхтуемай каранацыі Вітаўта.

«Пахвала Вітаўту», пэўна, задумвалася як своеасаблівае ідэйна-мастацкае і гістарычнае абгрунтаванне гэтага дзяржаўнага акта, як пацверджанне выдатнай палітычнай ролі Літоўска-Беларускай дзяржавы і яе кіраўніка на міжнароднай арэне, іх палітычнай магутнасці і высокага міжнароднага аўтарытэту. Больш таго, у гэтым творы вельмі выразна і ёміста выказана і агульная гістарычная канцэпцыя ўсяго беларуска-літоўскага летапіснага зводу, у склад якога ўвайшоў «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх» з «Пахвалой Вітаўту» — погляд на Вялікае княства Літоўска-Беларускае як на вядучы цэнтр палітычнага аб'яднання ўсіх усходнеславянскіх земляў. Нездарма ў «Пахвале» падкрэсліваецца, што Вітаўт «валодаў... усёю Рускаю зямлёю».

Сапраўды, як пераканаўча сведчаць дакладныя гістарычныя факты і пісьмовыя крыніцы таго часу, гэты літоўска-беларускі князь у 20-я гг. XV ст. фактычна быў палітычным лідэрам усяе Усходняе Еўропы. Так, калі ў 1423 г. маскоўскі князь Васіль Дзімітравіч пісаў духоўную грамату (свой запавет), то яе змест узгадняўся з Вітаўтам і пацвярджаўся яго пячаткаю з Пагоняй. І менавіта пад апеку Вітаўта аддаваў Васіль Дзімітравіч свайго малалетняга сына Васіля і жонку Соф'ю. Прысягу на вернасць гэтаму літоўска-беларускаму князю складалі тады цверскі, разанскі і іншыя рускія князі, называючы яго сваім «господином... и многих руских земель господарем». Таму і не выпадкова, што ў канцы 20-х гг. XV ст. з Расіі ў Беларусь перамясціўся цэнтр усходнеславянскага летапісання і тут, у Смаленску, быў складзены агульнарускі па характары летапісны звод, так званы летапіс Фоція-Вітаўта, што часткова захаваўся ў Беларуска-літоўскім летапісу 1446 г.

У цэлым адпавядаюць гістарычнай сапраўднасці і тыя звесткі, якія падаюцца ў «Пахвале Вітаўту» пра ўзаемаадносіны гэтага князя з татарамі. Нягледзячы на паражэнне на Ворскле ў 1399 г., яго палітычны ўплыў у Ардзе пасля Грунвальдскай перамогі ў 1410 г. зноў настолькі ўзмацнеў, што ён часта саджаў на залатаардынскі трон сваіх стаўленікаў. Тыя татарскія ханы, якія згадваюцца ў «Пахвале Вітаўту», валадарылі ў Ардзе ў другім і трэцім дзесяцігоддзях XV ст. Апошні з названых — Махмет — гэта Улуг-Мухамед, які цараваў у 20-я гг. У 1423 г. ён быў пераможаны ханам Баракам, але праз год пры падтрымцы Вітаўта зноў вярнуўся на залатаардынскі трон.

«Той, хто кіруе Ардою, той валадарыць і на Русі»,— казалі тады. Агульны змест «Пахвалы Вітаўту», нягледзячы на зразумелую тэндэнцыйнасць, у цэлым праўдзіва раскрывае гістарычную ролю гэтага літоўска-беларускага князя на Русі і ва ўсёй Еўропе ў момант яго найвышэйшай магутнасці, у зеніце яго міжнароднай славы, якая ўвасабляла высокае палітычнае становішча Літоўска-Беларускай дзяржавы ў тагачасным свеце.

**Пераклад са старабеларускай і каментарыі**
**Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА**

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ ЛУКІ СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

## Раздзел 12

### АБВЯШЧАЮЧЫ, НЕ БОЙЦЕСЯ!

**1 Тым часам, калі сабраліся процьмы народу, так што тапталі адзін аднаго, Ён пачаў казаць спярша Сваім вучням: «Беражыце сябе ад закісі, гэта значыць крывадушнасці, фарысеяў.**

Мацв. 16, 6; Мар. 8, 15

**2 Няма ж нічога схаванага, што не адкрыецца, і таемнага, што не выявіцца.**

Мацв. 10, 26; Мар. 4, 22; Лук. 8, 17

**3 Таму, што казалі вы ў цемры, пры святле будзе ўчута, і што вы прамовілі на вуха ў каморах, будзе абвешчана на дахах.**

**4 Кажу ж вам, Сваім сябрам: не бойцеся тых, што забіваюць цела, і пасля гэтага больш нічога не могуць зрабіць.**

Іс. 8, 12; 51, 7; Іер. 1, 8; Мацв. 10, 28

**5 Але пакажу вам, каго баяцца. Бойцеся таго, хто, забіўшы, мае ўладу ўкінуць у геену. Так, кажу вам: гэтага бойцеся.**

**6 Ці не пяць вераб'ёў прадаюць за два асарыі? І ніводзін з іх не забыты перад Богам.**

Мацв. 10, 29

**7 А ў вас і валасы на галаве ўсе палічаны. Не бойцеся: вы за шмат вераб'ёў даражэйшыя.**

Лук. 21, 18

**8 Кажу ж вам: кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, і Чалавечы Сын вызнае перад Божымі анёламі;**

Мацв. 10, 32; Мар. 8, 38; Лук. 9, 26; 2 Цім. 2, 12.

**9 а хто адцураецца Мяне перад людзьмі, таго адцураюцца перад Божымі анёламі.**

**10 І кожнаму, хто скажа слова на Чалавечага Сына, яму даруецца; а таму, хто зняважыць Святога Духа,— не даруецца.**

Мацв. 12, 31; Мар. 3, 28; 1 Іаан. 5, 16.

**11 А калі будуць прыводзіць вас у сінагогі і да начальства і да ўлад, не турбуйцеся, як або чым апраўдацца, ці што сказаць;**

Мацв. 10, 19; Мар. 13, 11.

**12 бо Святы Дух навучыць вас у тую гадзіну, што трэба сказаць».**

### ЗАСЦЯРОГА АД ХЦІВАСЦІ

**13 І сказаў Яму нехта з натоўпу: «Настаўніку, скажы майму брату, каб ён падзяліўся са мною спадчынаю».**

**14 Ён жа сказаў яму: «Чалавеча, хто Мяне паставіў суддзёю або дзяльльшчыкам між вас?»**

**15 І сказаў Ён ім: «Глядзіце, асцерагайцеся ўсялякай хцівасці, бо калі хто і ў багацці купаецца, жыццё яго не залежыць ад яго дастаткаў».**

Мар. 4, 19; І Цім. 6, 9.

**16 І сказаў ім упадабненне, мовячы: «У аднаго багатага чалавека добра ўрадзіла зямля.**

**17 І ён разважаў сам сабе, кажу-**

---

Працяг. Пачатак гл.: «Спадчына» 1989, № 2; 1990, №№ 1, 1, 3, 4; 1991, № 1, 2, 3.

**чы: «Што мне рабіць, бо не маю куды скласці свае плады!»**
**18 І сказаў: «Вось што зраблю, разбяру свае гумны і прасторнейшыя пастаўлю і збяру туды ўсё збожжа і ўсё сваё дабро,**
**19 і скажу сваёй душы: «Душа, маеш шмат дабра, на шмат гадоў складзенага. Спачывай, еш, пі, вяселіся».**

І Кар. 15, 32.

**20 Ды сказаў яму Бог: «Неразумны, гэтай начы тваю душу спагоняць ад цябе; а тое, што ты нарыхтаваў, каму дастанецца?»**

Іоў. 20, 22; Іс. 38, 7; Іяр. 17, 11.

**21 «Так бывае з тым, хто збірае для сябе, а не багацце ў Бога».**

Мацв. 6, 20; І Цім. 6, 19.

## УСКЛАДЗІЦЕ НА БОГА СВАЮ НАДЗЕЮ

**22 І сказаў Ён Сваім вучням: «Дзеля таго кажу вам: не турбуйцеся пра жыццё, што вы будзеце есці, ані пра цела, у што вы будзеце адзявацца.**

Пс. 54, 23; Мацв. 6, 25; І Пят. 5, 7.

**23 Бо жыццё важнейшае за яду і цела — за адзенне.**
**24 Паглядзіце на крумкачоў, што не сеюць, ані жнуць, няма ў іх ні кладоўкі, ані гумна, а Бог жывіць іх; наколькі больш вы даражэйшыя за птушак.**
**25 Хто ж з вас, турбуючыся, можа дадаць да свайго веку[1] хоць на локаць?**

Пс. 103, 27—28.

**26 Калі ж вы і найменшага не можаце, чаго турбуецеся пра астатняе?**
**27 Паглядзіце на лілеі, як яны растуць: не працуюць цяжка, ані прадуць; але кажу вам, што і Саламон ува ўсёй славе не адзяваўся, як кожная з іх.**
**28 Калі ж траву, якая сёння ёсць у полі, а заўтра ў печ будзе ўкінута, Бог так убірае, тым больш вас, малаверы!**
**29 І вы не шукайце, што будзеце есці і што будзеце піць, і не трывожцеся.**
**30 Бо ўсяго гэтага шукаюць народы свету, Бацька ж ваш ведае, што вы маеце патрэбу ў гэтым.**
**31 Толькі шукайце Яго Царства і гэта дадасца вам.**

Мацв. 6, 33; Мар. 10, 30.

## ЗБІРАЙЦЕ СКАРБЫ САБЕ НА НЕБЕ

**32 Не бойцеся, малая чародка, бо ўпадабалася вашаму Бацьку даць вам Царства.**
**33 Прадавайце вашы дастаткі і раздайце міласцінаю; рабіце сабе мяшкі, якія не старэюць, надзейны скарб у нябёсах, куды злодзей не прыблізіцца і дзе моль не псуе.**

Мацв. 6, 20.

**34 Бо дзе ваш скарб, там і ваша сэрца будзе.**
**35 Няхай будуць вашы паясніцы падпяразаныя і каганцы запалены;**

І Пят. 1, 13; Еф. 3, 16.

**36 а вы падобнымі да людзей, што чакаюць свайго пана, калі ён вернецца з вяселля, каб, як прыйдзе і пастукае, тут жа адчыніць яму.**
**37 Шчаслівыя тыя рабы, якіх, прыйшоўшы, пан знойдзе на нагах. Папраўдзе кажу вам: падпяразджацца ён і дасць ім месца ўзлегчы і, падышоўшы, будзе слугаваць ім.**
**38 І калі ў другую, і калі ў трэцюю варту прыйдзе і знойдзе іх гэтак, шчаслівыя тыя!**
**39 Разумейце ж гэта, што калі б гаспадар дома ведаў, у якую гадзіну прыйдзе злодзей, не дапусціў бы ён падкапаць свайго дому.**

Мацв. 24, 43; 2 Пят. 3, 10; 1 Фес. 5, 2; Адкр. 16, 15.

**40 І вы будзьце гатовы, бо ў гадзіну, у якую не думаеце, прыйдзе Чалавечы Сын.»**
**41 Сказаў тады Пятро: «Госпадзе, ці нам кажаш гэтае ўпадабненне, ці і ўсім?»**
**42 І сказаў Госпад: «Хто ж верны эканом, разумны, якога пан паставіць над сваёю чэляддзю, каб да-**

[1] Мажлівы і такі пераклад: росту.

**ваць у свой час адмераную долю
збожжа?**

Мацв. 24, 45.

**43 Шчасліві той раб, якога яго
пан, прыйшоўшы, знойдзе, што ён
робіць гэтак.**

**44 Праўдзіва кажу вам, што над
усім сваім маёнткам паставіць яго.**

**45 А калі той раб скажа ў сэрцы
сваім: «Марудзіць мой пан прыйсці»,
і пачне біць слуг і служанак, і есці,
і піць, і напівацца,**

**46 прыйдзе пан раба таго ў дзень,
у які той не спадзяваецца, і ў га-
дзіну, якой той не ведае, і адлучыць
яго і вызначыць яму месца з нявер-
нымі.**

**47 Той жа раб, што ведаў волю
свайго пана, а не падрыхтаваў або
не зрабіў згодна з воляй яго, будзе
многа біты.**

Іаан. 15, 22

**48 А той, што не ведаў, але зрабіў
нешта вартае біцця, будзе мала бі-
ты. Кожнаму, каму шмат дадзена,
з таго шмат спагоніцца, і каму шмат
даручана, з таго і больш запатрабу-
ецца.**

**49 Агонь Я прыйшоў кінуць на
зямлю, і як Я хачу, каб ён ужо за-
палаў!**

**50 Хрышчэннем Я павінен хрысціц-
ца, і як Я мучуся пакуль гэта спраў-
дзіцца.**

Мацв. 20, 22.

**51 Ці вы думаеце, што Я прыйшоў
даць спакой на зямлі? Не, кажу вам,
а падзел!**

Мацв. 10, 34.

**52 Бо ад гэтага часу пяцёра ў ад-
ным доме будуць падзелены: тры
супроць двух і два супроць трох.**

**53 Падзеляцца: бацька супроць
сына, і сын супроць бацькі, маці
супроць дачкі і дачка супроць маці;
свякроў супроць свае нявесткі і ня-
вестка супроць свекрыві».**

Міх. 7, 6.

**54 Казаў жа і натоўпу: «Калі ба-
чыце, што хмара падымаецца з заха-
ду, вы тут жа кажаце: «Надыходзіць
лівень», і бывае так.**

Мацв. 16, 2.

**55 А калі вее паўднёвы вецер,
то кажаце: «Будзе спёка», і бывае.**

**56 Двурушнікі, твар зямлі і неба
распазнаваць вы ўмееце, як жа ча-
су гэтага не можаце распазнаць?**

**57 Што ж вы і самі з сябе не
судзіце, што справядлівае?**

**58 Бо калі ты ідзеш са сваім пра-
ціўнікам да начальства, то ў дарозе
зрабі ўсё, каб прыйсці з ім да згоды,
каб не пацягнуў ён цябе да суддзі,
а суддзя не аддаў цябе выканаўцу,
а выканаўца не кінуў цябе ў цямні-
цу.**

Мацв. 5, 25.

**59 Кажу табе, не выйдзеш ты
адтуль пакуль не аддасі апошняга
медзяка».**

## Раздзел 13

## КАЛІ НЕ ПАКАЕЦЕСЯ, ЗАГІНЕЦЕ

**1 І ў гэты самы час прыйшлі не-
каторыя і паведамілі Яму пра галі-
леян, кроў якіх Пілат змяшаў з іх
ахвярамі.**

**2 І ў адказ Ён сказаў ім: «Ці
думаеце вы, што гэтыя галілеяне
былі больш грэшныя за ўсіх галі-
леян, калі яны гэтак пацярпелі?**

**3 Не, кажу вам, але калі вы не
пакаецеся, усе такім жа чынам за-
гінеце.**

**4 Або тыя васемнаццаць, на якіх
упала вежа ў Сілааме і забіла іх,—
ці думаеце вы, што яны большыя
вінаваўцы за ўсіх людзей, што жы-
вуць у Ерусаліме?**

**5 Не, кажу вам, але калі вы не
пакаецеся, усе гэтак жа загінеце».**

**6 І казаў Ён гэтае ўпадабненне:
«Было ў чалавека фігавае дрэва,
пасаджанае ў вінаградніку, і прый-
шоў ён шукаць на ім плоду, і не
знайшоў.**

Іс. 5, 2.

**7 І сказаў вінаградару: «Вось тры
гады, як я прыходжу шукаць плоду
на гэтым фігавым дрэве і не зна-
ходжу; ссячы яго, навошта яно і зям-
лю дарэмна займае?»**

Мацв. 21, 19.

**8 Але той у адказ яму сказаў:
«Пане, пакінь яго яшчэ на гэты год,**

**пакуль я не абкапаю яго і абкладу гноем,**
**9 Ці не дасць плоду на наступны год? Калі ж не, ссячэш яго».**

## ХРЫСТОС РАТУЕ І Ў СУБОТУ

**10 І навучаў Ён у адной з сінагог у суботу.**
**11 І вось жанчына, што васемнаццаць гадоў мела духа немачы, і была яна скурчаная і ані не магла выпрастацца.**
**12 Убачыўшы ж яе, Ісус паклікаў да Сябе і сказаў ёй: «Жанчына, ты вызваленая ад свае немачы».**
**13 І Ён усклаў на яе рукі, і яна зараз ж выпрасталася і славіла Бога.**
**14 У адказ жа на гэта старшыня сінагогі, абурыўшыся, што Ісус вылечыў у суботу, сказаў да натоўпу: «Ёсць шэсць дзён, у якія належыць працаваць; у гэтыя дні прыходзьце і вылечвайцеся, а не ў суботні дзень».**

Зых. 20, 9.

**15 Адказаў тут яму Госпад і сказаў: «Крывадушнікі, ці ж не кожны з вас у суботу адвязвае свайго вала ці асла ад ясляў і вядзе паіць?**
**16 А гэтую — Аўраамаву дачку, якую звязаў сатана вось ужо васемнаццаць гадоў, ці не трэба было вызваліць ад гэтых путаў у дзень суботні?»**
**17 І калі Ён казаў гэта, засароміліся ўсе Яго супраціўнікі, а ўвесь натоўп цешыўся з усіх слаўных учынкаў, зробленых Ім.**

## ПРЫПАДАБНЕННЕ ГАРЧЫЧНАМУ ЗЯРНЯЦІ

**18 І вось Ён казаў: «Да чаго падобнае Божае Царства і з чым яго параўнаю?**

Мацв. 13, 31; Мар. 4, 30.

**19 Падобнае яно да гарчычнага зярняці, якое чалавек, узяўшы, кінуў у сваім садзе, і вырасла яно і стала дрэвам і нябесныя птушкі гняздзіліся ў голлі яго».**
**20 І зноў сказаў Ён: «З чым параўнаю Божае Царства?**

Мацв. 13, 33.

**21 Падобнае яно да рошчыны, якую ўзяла жанчына і паклала ў тры саты [1] мукі аж пакуль не ўкісла ўсё».**

## АДЧЫНІЦЕ ВУЗКІЯ ДЗВЕРЫ

**22 І праходзіў Ён па гарадах і сёлах, навучаючы і кіруючыся ў Ерусалім.**

Мацв. 9, 35; Мар. 6, 6.

**23 І сказаў Яму нехта: «Ці нямногія будуць збавёныя?» А Ён адказаў ім:**
**24 «Дамагайцеся ўвайсці праз вузкія дзверы бо многія, кажу вам, будуць старацца ўвайсці і не змогуць.**

Мацв. 7, 13.

**25 Калі ўстане гаспадар дома і зачыніць дзверы, і вы, стоячы знадворку, пачнеце стукаць у дзверы і казаць: «Госпадзе, адчыні нам», а Ён у адказ скажа вам: «Не ведаю вас, адкуль вы».**

Мацв. 7, 23; 25, 10; Лук. 6, 46.

**26 Тады вы пачнеце казаць: «Мы елі перад Табою і пілі, і на нашых вуліцах навучаў Ты».**
**27 А Ён скажа, мовячы вам: «Не ведаю [вас], адкуль вы, адыдзіце ад Мяне ўсе, што няпраўду чыніце».**

Пс. 6, 9; Мацв. 25, 41; 1 Кар. 8, 3; 2 Цім, 2, 19.

**28 Там будзе плач і скрыгат зубоў, калі ўбачыце Аўраама і Ісаака і Якава і ўсіх пракокаў у Божым Царстве, а сябе выгнаных адтуль.**
**29 І прыйдуць з усходу і захаду, і з поўначы і поўдня, і ўзлягуць у Божым Царстве.**

Быц. 28, 14; Іс, 2, 3; 49, 6; 60, 3; Мал. 1, 11.

**30 І вось ёсць апошнія, якія будуць першымі, і ёсць першыя, якія будуць апошнімі».**

Мацв. 19, 30; Мар. 10, 31; Дзеян. 10, 45; 28, 28.

---

[1] сат—мера сыпкіх рэчываў, каля 13 літраў.

### «ЕРУСАЛІМЕ, ЕРУСАЛІМЕ...»

**31 У гэтую самую гадзіну пады-
шлі некаторыя з фарысеяў, кажучы
Яму: «Выйдзі і ідзі адсюль, бо
Ірад хоча Цябе забіць».
32 І Ён сказаў ім: «Пайдзіце і
скажыце гэтаму лісу: вось Я выганяю
дэманаў і вылечваю сёння і заўтра,
і ў трэці дзень — скончу.
33 Але мне трэба хадзіць сёння і
заўтра і ў наступны [дзень], бо не-
мажліва, каб прарок загінуў па-за
Ерусалімам.
34 Ерусаліме, Ерусаліме, што за-
біваеш прарокаў і каменнем закід-
ваеш пасланых да цябе! Колькі ра-
зоў Я хацеў сабраць тваіх дзяцей,
як куровадка сваіх куранят пад
крылле, ды вы не захацелі.**

Мацв. 23, 38.

**35 Вось пакідаецца вам дом ваш
пусты. Кажу [ж] вам: Вы не ўбачыце
Мяне, аж пакуль не [прыйдзе, што]
скажаце: «Благаславёны, Хто ідзе ў імя
Госпада!»**

## Раздзел 14

### НОВАЕ ВЫЛЕЧВАННЕ Ў СУБОТУ

**1 І было: калі Ён прыйшоў у су-
боту ў дом аднаго з фарысейскіх
начальнікаў з'есці хлеба, дык яны
сачылі за Ім.
2 І вось перад Ім быў адзін ча-
лавек, хворы на вадзянку.
3 І, азваўшыся, Ісус сказаў закон-
нікам і фарысеям, мовячы: «Ці
выпадае вылечваць у суботу ці не?»
4 Яны ж змаўчалі. І, дакрануўшы-
ся, Ён вылечыў яго і адпусціў.
5 А ім Ён сказаў: «Хіба хто з
вас, у каго асёл або вол уваліц-
ца ў студню, не зараз жа выцягне
яго ў суботні дзень?»
6 І яны не маглі адказаць на
гэта.
7 І казаў Ён запрошаным упа-
дабненне (заўважаючы, як яны выбі-
ралі сабе першыя месцы), кажучы
да іх:
8 «Калі хто пакліча цябе на
вяселле, не ўзлягай на першае мес-
ца; каб часам хто важнейшы за
цябе не быў запрошаны ім**

Прып. 25, 6.

**9 і не прыйшоў бы той, хто па-
клікаў цябе і яго, і не сказаў табе:
«Дай гэтаму месца», і тады ты з сора-
мам пачаў бы займаць апошняе
месца.
10 Але калі паклічуць, пайдзі і
ўзляж на апошняе месца, каб той, хто
паклікаў цябе, прыйшоўшы, сказаў
табе: «Дружа, узыдзі вышэй»: тады
будзе гонар табе перад усімі, хто з
табою ўзлягае.
11 Бо кожны, хто ўзвышае сябе,
будзе паніжаны, а хто паніжае сябе,
будзе ўзвышаны».**

Мацв. 23, 12; Лук. 18, 14.

**12 Казаў жа і таму, хто Яго за-
прасіў: «Калі ты спраўляеш абед ці
вячэру, не кліч сваіх сяброў, ані
сваіх братоў, ані сваіх сваякоў, ані
багатых суседзяў, каб і яны часам
не паклікалі ў адказ цябе і не бы-
ла табе аддзяка.**

Прып. 3, 27—28.

**13 Але калі спраўляеш гасціну,
кліч убогіх, калекіх, кульгавых, сля-
пых;
14 і будзеш шчаслівы, бо яны не
маюць чым аддзячыць табе, бо ад-
дзячыцца табе ў васкрашэнні спра-
вядлівых».
15 Пачуўшы ж гэта адзін з тых,
што ўзлягалі, сказаў Яму: «Шчаслівы,
хто будзе есці хлеб у Божым Царст-
ве».**

### ЗАПРОСІНЫ НА ВЯЛІКУЮ ВЯЧЭРУ

**16 Ён жа сказаў яму: «Адзін ча-
лавек справіў вялікую вячэру і па-
клікаў многіх**

Прып. 9, 2; Мацв. 22, 2; Адкр. 19, 9.

**17 і паслаў свайго раба ў час вя-
чэры сказаць запрошаным: «Ідзіце,
бо ўжо гатова».
18 І пачалі ўсе да аднаго пра-
сіць прабачэння. Першы сказаў яму:
«Я купіў поля і павінен пайсці па-
глядзець яго; прашу цябе, выбач
мне».
19 І другі сказаў: «Я купіў пяць**

пар валоў і іду выпрабоўваць іх; прашу цябе, выбач мне».
20 І яшчэ іншы сказаў: «Ажаніўся вось і таму не магу прыйсці».
21 І, прыйшоўшы, раб расказаў пра гэта свайму пану. Тады, разгневаўшыся, сказаў гаспадар дома свайму рабу: «Выйдзі хутка на вуліцы і завулкі горада і прывядзі сюды ўбогіх, і калекіх, і сляпых, і кульгавых».

Мацв. 5, 3; 1 Кар. 27—28.

22 І сказаў раб: «Пане, зроблена, як загадаў, і яшчэ ёсць месца».
23 І сказаў пан рабу: «Выйдзі на дарогі і на загароды, і ўгавары ўвайсці, каб напоўніўся мой дом;
24 бо кажу я вам, бо ніводзін з тых запрошаных мужоў не пакаштуе маёй вячэры. [Бо шмат пакліканых, ды выбраных мала]».

Мацв. 22, 8.

## ХТО МОЖА БЫЦЬ ІСУСАВЫМ ВУЧНЕМ

25 Ішлі ж з Ім вялікія натоўпы, і, абярнуўшыся, Ён сказаў ім:
26 «Калі хто прыходзіць да Мяне і не зненавідзіць свайго бацьку і маці, і жонку, і дзяцей, і братоў, і сясцёр, а яшчэ і жыццё свайго, не можа быць Маім вучнем.

Мацв. 10, 37.

27 Хто не нясе свайго крыжа, а ідзе за Мною, не можа быць Маім вучнем.

Мацв. 10, 38; 16, 24; Мар. 8, 34.
Лук. 9, 23; 2 Цім. 3, 12.

28 Бо хто з вас, хочучы пабудаваць вежу, не сядзе спярша і вылічыць выдаткі: ці мае на завяршэнне?
29 Каб калі ён пакладзе падмурак, але не здолее дакончыць, усе, што пабачаць, не пачалі смяяцца з яго,
30 кажучы: «Гэты чалавек пачаў будаваць, а не здолеў дакончыць».
31 Або які цар, ідучы на вайну супроць другога цара, не сядзе і не параіцца спярша, ці зможа ён з дзесяццю тысячамі заступіць таму, хто з дваццаццю тысячамі ідзе на яго?
32 Калі ж не, то пакуль той яшчэ далёка, ён, паслаўшы пасольства, просіць аб умовах міру.
33 Гэтак і кожны з вас, калі не зрачэцца ўсяго, што мае, не можа быць Маім вучнем.
34 Дык вось: добрая соль; але калі і соль страціць моц, чым яе прыправіць?

Мацв. 5, 13; Мар. 9, 50.

35 Ані ў зямлю, ані ў гной яна непрыдатная, вон яе выкінуць. Хто мае вушы, каб слухаць, няхай слухае!»

## Раздзел 15

## ПРА ЗГУБЛЕНУЮ АВЕЧКУ І ЗГУБЛЕНУЮ ДРАХМУ

1 Прыбліжаліся ж да Яго ўсе мытнікі і грэшнікі, каб слухаць Яго.
2 І наракалі фарысеі і кніжнікі, кажучы: «Гэты прымае грэшнікаў і есць з імі».
3 А Ён сказаў гэтакае ўпадабненне, кажучы:
4 «Хто з вас, маючы сто авечак і згубіўшы адну з іх, не пакідае дзевяноста дзевяці ў пустэльні і не ідзе за загубленаю, аж пакуль не знойдзе яе?

Мацв. 18, 12.

5 І, знайшоўшы, кладзе на свае плечы, радуючыся,
6 і, прыйшоўшы дадому, склікае сяброў і суседзяў, кажучы ім: «Парадуйцеся са мною, бо я знайшоў сваю згубленую авечку».
7 Кажу вам, што гэтак радасць на небе будзе большая з аднаго грэшніка, які каецца, чым з дзевяноста дзевяці справядлівых, што не маюць патрэбы ў пакаянні.
8 Або якая жанчына, маючы дзесяць драхмаў, калі згубіць адну драхму, ці не запальвае каганец і не мяце дом, і не шукае рупна, аж пакуль не знойдзе?
9 І, знайшоўшы, склікае сяброўак і суседак, кажучы: «Парадуйцеся са мною, бо знайшла драхму, якую згубіла».
10 Гэтаксама, кажу вам, бывае ра-

дасць перад Божымі анёламі з аднаго грэшніка, што каецца».

## ПРА БЛУДНАГА СЫНА

11 І Ён сказаў: «У аднаго чалавека было два сыны.

12 І сказаў малодшы з іх бацьку: «Бацька, дай мне належную частку маемасці». І той падзяліў паміж імі дабро.

13 І як мінула трохі дзён, малодшы сын, сабраўшы ўсё, ад'ехаў у далёкі край і там спусціў сваю маёмасць, жывучы марнатраўна.

14 А калі ўсё прагойшыў, настаў моцны голад у тым краі, і ён пачаў цярпець нястачу.

15 І, пайшоўшы, прыстаў да аднаго з грамадзян таго краю, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свіней,

16 і ён рад быў бы напоўніць свой жывот стручкамі, якія елі свінні, ды ніхто не даваў яму.

17 І, адумаўшыся, ён сказаў: «Колькі наймітаў у майго бацькі маюць хлеба аж надта, а я гіну тут з голаду.

18 Устану, пайду да свайго бацькі і скажу яму: «Бацька, саграшыў я супроць неба і перад табою,

19 больш я не годны звацца тваім сынам; вазьмі мяне як аднаго свайго наймітa».

20 І, устаўшы, пайшоў да свайго бацькі. І калі яшчэ далёка ён быў, яго ўбачыў бацька яго і злітаваўся і, пабегшы, упаў на шыю яму і пацалаваў яго.

21 І сказаў сын яму: «Бацька, саграшыў я супроць неба і перад табою, больш я не годны звацца тваім сынам».

22 І сказаў бацька сваім рабам: «Хутка прынясіце найлепшыя шаты і ўбярыце яго і дайце пярсцёнак яму на руку і сандалі на ногі,

23 і прывядзіце адкормленае цяля, закаліце, будзем есці і весяліцца,

24 бо гэты мой сын быў мёртвы і ажыў, прападаў і знайшоўся». І пачалі яны весяліцца.

Еф. 2, 1; 5, 14; Кал. 2, 13; Адкр. 3, 1.

25 А яго старэйшы сын быў на полі; і калі, ідучы, наблізіўся да дому, пачуў ён музыку і скокі,

26 і, паклікаўшы аднаго са слуг, пытаўся, што магло б гэта значыць.

27 І той сказаў яму: «Твой брат прыйшоў, і закалоў твой бацька адкормленае цяля, бо здаровым яго зноў сустрэў».

28 І разгневаўся той і ўвайсці не хацеў, і яго бацька, выйшаўшы, пачаў прасіць яго.

29 І ў адказ ён сказаў свайму бацьку: «Вось гэтулькі гадоў я служу табе і ніколі ж твайго загаду не пераступіў, а мне ты ніколі не даў казляняці, каб я са сваімі сябрамі павесяліўся;

30 а калі гэты твой сын, што з блудніцамі праеў тваё дабро, прыйшоў, ты закалоў яму адкормленае цяля».

31 Ён жа сказаў яму: «Сыне, ты заўсёды са мною і ўсё маё — тваё;

32 але трэба было весяліцца і ўзрадавацца, бо гэты твой брат мёртвы быў і ажыў, прападаў і знайшоўся».

## Раздзел 16

## ПРА НЕСПРАВЯДЛІВАГА ЭКАНОМА

1 Казаў жа Ён і вучням: «Быў адзін багаты чалавек, меў эканома, і на яго даказалі яму, нібыта той спускае маёнтак.

2 І, паклікаўшы яго, ён сказаў яму: «Што гэта я чую пра цябе? Дай рахунак з твайго эканомства, бо ты не можаш больш кіраваць».

3 Эканом жа сказаў сам сабе: «Што мне рабіць, бо мой пан адымае ў мяне эканомства? Капаць не здужаю, жабраваць саромеюся.

4 Ведаю, што зраблю, каб мяне, калі знімуць з эканомства, прынялі ў свае дамы».

5 І, паклікаўшы кожнага паасобку даўжбітоў свайго пана, казаў першаму: «Колькі ты вінен майму пану?»

6 А той сказаў: «Сто бат[1] алі-

[1] Бат — тры амфары

**вы». Ён жа сказаў яму: «Вазьмі сваю распіску і, сеўшы, хуценька напішы: пяцьдзесят».**

**7 Пасля другому сказаў: «А ты колькі вінен?» А той сказаў: «Сто кор пшаніцы». Кажа яму: «Вазьмі сваю распіску і напішы: восемдзесят».**

**8 І пахваліў пан несправядлівага эканома, што ён мудра зрабіў; бо сыны гэтага свету мудрэйшыя за сыноў святла ў сваім родзе.**

**9 І Я вам кажу: «Рабіце сабе сяброў багаццем несправядлівым, каб калі яго не стане, яны прынялі вас у вечныя сялібы.**

Мацв. 6, 19; 19, 21.

**10 Хто верны ў найменшым, і ў многім верны, а хто несправядлівы ў найменшым, і ў многім несправядлівы.**

Мацв. 25, 21.

**11 Дык калі вы ў несправядлівым багацці[1] не былі верныя, хто вам праўдзівае даверыць?**

**12 І калі вы ў чужым не былі верныя, хто вам дасць ваша?**

**Не можна служыць Богу і мамоне.**

**13 Ніводзін слуга не можа служыць двум панам: або аднаго ўзненавідзіць, а другога будзе любіць, або аднаго будзе пільнавацца, а другім пагарджаць. Не можаце Богу служыць і мамоне».**

Мацв. 6, 24.

**14 І чулі ўсё гэта фарысеі, што былі срэбралюбцы, і насміхаліся з Яго.**

1 Цім. 6, 10.

**15 І Ён сказаў ім: «Вы выдаеце сябе справядлівымі перад людзьмі, але Бог ведае вашы сэрцы; бо высокае ў людзей — брыдота перад Богам.**

1 Цар. 16, 7; Іяр. 11, 20.

**16 Закон і Прарокі — да Іаана: з таго часу Божае Царства дабравесціцца, і кожны прабіваецца ў яго.**

Мацв. 11, 12.

**17 Ды лягчэй небу і зямлі мінуцца, чым знікнуць адной рысцы ў Законе.**

Іс. 40, 8.

**18 Кожны, хто адпускае сваю жонку і бярэ іншую, чыніць пералюб».**

Друг. 24, 1; Мацв. 19, 9.

## ПРА БАГАЦЕЯ І ЎБОГАГА ЛАЗАРА

**19 Адзін чалавек быў багаты і апранаўся ў парфіру і вісон і штодня раскошна банкетаваў.**

**20 І адзін убогі, на імя Лазар, ляжаў каля яго варотаў, увесь у скуллі**

**21 і хацеў карміцца тым, што падала са стала багацея; зрэшты і сабакі прыходзілі і лізалі скулле яго.**

**22 І здарылася, што ўбогі памёр, і яго аднеслі анёлы на Аўраамава ўлонне; памёр жа і багаты, і яго пахавалі.**

**23 І ў пекле, зносячы мукі, узняў ён свае вочы і бачыць здалёку Аўраама і Лазара на яго ўлонні.**

**24 І ён, усклікнуўшы, сказаў: «Бацька Аўрааме, злітуйся нада мною і пашлі Лазара, каб абмакнуў ён канец свайго пальца ў вадзе і асвяжыў мой язык, бо я мучуся ў гэтым полымі».**

**25 Аўраам жа сказаў: «Сыне, успомні, што як ты прыняў сваё добрае ў сваім жыцці, так і Лазар ліхое; цяпер жа ён тут цешыцца, а ты мучышся.**

Іоў. 21, 7, 13.

**26 І да ўсяго гэтага між намі і вамі сцверджана вялікая прорва, каб тыя, што хочуць перайсці адсюль да вас, не маглі, ані адтуль да нас не пераходзілі б».**

**27 Ён жа сказаў: «Тады прашу цябе, бацька, паслаць яго ў дом майго бацькі,**

**28 бо пяць братоў маю: хай засведчыць ім, каб і яны не прыйшлі ў гэтае месца мучэння».**

**29 І кажа Аўраам: «Яны маюць Майсея і Пракокаў: хай слухаюць іх».**

Іаан. 5, 39, 45.

**30 А ён сказаў: «Не, бацька Аўра-**

[1] У арыгінале ўжыта арамейскае слова «мамона».

**аме, але калі хто з мёртвых прыйдзе да іх, пакаюцца».**

**31 Ды ён сказаў яму: «Калі Майсея і Прарокаў не слухаюць, то калі б і хто з мёртвых уваскрос, не пераканаюцца».**

Раздзел 17

МАЙЦЕ ВЕРУ

**1 І сказаў Ён сваім вучням: «Немажліва, каб не прыйшлі спакусы, але бяда таму, праз каго яны прыходзяць.**

Мацв. 18, 6; Мар. 9, 42.

**2 Лепш было б яму, калі б млынавы жарон павесілі яму на шыю і ўкінулі яго ў мора, чым каб ён спакусіў аднаго з гэтых малых.**

**3 Зважайце на сябе!**

**Калі саграшыць твой брат, выгавары яму; і, калі пакаецца, даруй яму.**

Ляв. 19, 17; Мацв. 18, 15; Іаак. 5, 19.

**4 І калі сем разоў у дзень саграшыць супроць цябе і сем разоў звернецца да цябе, кажучы: «Каюся»,— даруй яму».**

**5 І сказалі апосталы Госпаду: «Дадай нам веры!»**

**6 А Госпад сказаў: «Калі б вы мелі веру з гарчычнае зерне, то сказалі б вы [гэтай] шаўкавіцы: «Вырвіся з коранем і перасадзіся ў мора» і яна паслухалася б вас.**

Мацв. 17, 20; 21, 21; Мар. 11, 23.

**7 Хто з вас, маючы раба, што арэ ці пасе, пасля вяртання яго з поля скажа яму: «Зараз жа ідзі і ўзляж (за сталом)»?**

**8 Але ці не скажа яму: «Падрыхтуй мне што павячэраць і, падперазаўшыся, паслужы мне пакуль ем і п'ю, а пасля гэтага будзеш ты есці і піць?»**

**9 Ці ён дзякуе рабу за тое, што зрабіў загаданае яму?**

**10 Гэтак і вы, калі зробіце ўсё, што вам загадалі, кажыце: «Мы ні на што не здатныя рабы; зрабілі тое, што павінны былі зрабіць».**

Іоў 22, 3; 35, 7; 1 Кар. 9, 16.

ВЫЛЕЧВАННЕ ДЗЕСЯЦІ ПРАКАЖОНЫХ

**11 І было: па дарозе ў Ерусалім, ішоў Ён уздоўж граніцы Самарыі і Галілеі.**

Іаан. 4, 4.

**12 І калі ўваходзіў Ён у адно сяло, перастрэлі Яго дзесяць пракажоных, што сталі здалёку.**

Ляв. 13, 46.

**13 І, узняўшы голас, яны казалі: «Ісусе, Заступніку, злітуйся над намі!»**

**14 І, убачыўшы, Ён сказаў ім: «Пайдзіце і пакажыцеся святарам». І было: пакуль яны ішлі, ачысціліся.**

Ляв. 14, 2; Мацв. 8, 4; Мар. 1, 44; Лук. 5, 14.

**15 Адзін жа з іх, убачыўшы, што вылечаны, вярнуўся, моцным галасам славячы Бога.**

**16 І ўпаў ніцма да Яго ног, дзякуючы Яму; а быў ён самаранін.**

**17 У адказ жа Ісус сказаў: «Ці не дзесяць ачысціліся? дзе ж дзевяць?**

**18 Не знайшлося нікога, хто б вярнуўся аддаць хвалу Богу, толькі гэты чужынец?»**

**19 І сказаў яму: «Устань і ідзі; твая вера ўратавала цябе».**

ДЗЕ БОЖАЕ ЦАРСТВА?

**20 Спытаны ж фарысеямі, калі прыйдзе Божае Царства, Ён у адказ ім сказаў «Божае Царства не прыходзіць прыкметна,**

**21 і не скажуць: «Вось тут» або: «Там», бо вось Божае Царства ўсярэдзіне вас [1]».**

**22 І сказаў Ён вучням: «Прыйдуць дні, калі захочаце ўбачыць адзін з дзён Чалавечага Сына і не ўбачыце.**

**23 І скажуць вам: «Вось там [ці] вось тут»,— не хадзіце і не ганяйцеся.**

Мацв. 24, 23; Мар. 13, 21.

[1] Побач з варыянтам: «Усярэдзіне вас (у вашых сэрцах)», мажлівы яшчэ пераклад «Сярод вас».

**24** **Бо як бліскавіца, бліскаючы,**
**свеціць ад аднаго края неба да дру-**
**гога, так будзе Чалавечы Сын [у**
**Свой дзень].**
**25** **Але спярша належыць Яму**
**шмат перацярпець і быць адкінутым**
**гэтым родам.**

Мацв. 16, 21; 17, 22; 20, 18;
Мар. 8, 31.

**26** **І як было ў Ноевы дні, так**
**будзе і ў дні Чалавечага Сына:**

Быц. 7, 7; Мацв. 24, 37;
1 Пят. 3, 20.

**27** **елі, пілі, жаніліся, выходзілі**
**замуж аж да дня, калі Ной увайшоў**
**у каўчэг і прыйшоў патоп і загубіў**
**усіх.**
**28** **Гэтак жа, як было ў Лотавы**
**дні: елі, пілі, куплялі, прадавалі,**
**саджалі, будавалі,**

Быц. 19, 14, 24.

**29** **а ў дзень, калі Лот выйшаў**
**з Садома, лінулі дажджом агонь і**
**серка з неба і загубілі ўсіх.**
**30** **Так будзе і ў той дзень, калі**
**з'явіцца Чалавечы Сын.**
**31** **У той дзень хто будзе на даху,**
**а яго рэчы ў доме, няхай не схо-**
**дзіць узяць іх; таксама і той, хто**
**ў полі, хай не вяртаецца назад.**
**32** **Помніце пра Лотаву жонку.**

Быц. 19, 26.

**33** **Хто будзе старацца захаваць**
**сваю душу, той загубіць яе, і хто**
**загубіць, той захавае яе ў жывых.**

Мацв. 10, 39; Мар. 8, 35;
Лук. 9, 24; Іаан. 12, 25.

**34** **Кажу вам: у гэтую ноч будуць**
**два на адной пасцелі: адзін будзе**
**ўзяты, а другі пакінуты.**
**35** **Дзве будуць разам маліцца: ад-**
**на будзе ўзята, а другая пакінута**[1]**.**

Мацв. 24, 41.

**37** **І ў адказ яны яму кажуць:**
**«Дзе, Госпадзе?» Ён жа сказаў ім:**
**«Дзе цела, там і арлы збяруцца».**

---

[1] Верша 36 ранейшых перакладаў: «Два на полі: адзін будзе ўзяты, а другі пакінуты», які амаль супадае Мацв. 24, 40; няма ў найстаражытнейшых рукапісах Лук.

**Працяг будзе.**

12, 13. У тыя часы рабіны адначасова былі і суддзямі ў спадчынных спрэчках. Гэтым, відаць, і тлумачыцца, чаму адзін з пакрыўджаных звярнуўся да Ісуса.

12, 35. У Палесціне насілі доўгую вопратку і, каб яна не замінала пры рабоце, падпяразваліся. Таму падрыхтаванасць да сустрэчы з Госпадам і вызначаецца «падпяразанасцю» (калі вопратка ўжо не будзе стрымліваць рухаў цела).

12, 36. Вяселле звычайна пачыналася ўвечары і цягнулася далёка за поўнач.

12, 46. Гэта значыць, асудзіць яго на вечныя пакуты.

12, 49. Агнём сваёй любові і самаахвярнасці Ісус прыйшоў запаліць людскія душы прагаю дабрадзейства.

12, 57. Гэта значыць, чаму вы звяртаецеся да судоў, а не самі ўладжваеце ўсё паводле справядлівасці.

13, 1. Пратэстуючы супроць рымскага чужаўладдзя, іудзеі часам усчыналі калатнечу пры складанні ахвяр. Тут маецца на ўвазе выпадак, калі Пілат загадаў рымскім воінам ужыць зброю супроць узбунтаваных галілеян, і такім чынам, іх кроў змяшалася з крывёю ахвярнай жывёлы.

13, 5. Гэта значыць, без пакаяння. Таму Ісус навучае, што кожны павінен ачышчаць сябе, каб быць гатовым да Суда.

13, 7. Фігавае дрэва дае ўраджай ужо на трэці год, вось чаму пан хацеў яго цяпер высекчы.

13, 19. Гл. Мацв. 13, 32. Гарчыца ў Палесціне вырастае да чатырох метраў.

14, 17 Такое паўторнае запрашэнне было ў звычаі старажытных яўрэяў, як і цяпер яшчэ сярод арабаў. І адмовіцца ад такога запрашэння было вялікаю знявагаю.

14, 26. Тут ідзе гаворка не пра звычайную бытавую нянавісць, а пра тое, што любасць да Бога і Хрыста стаяць вышэй за ўсё, нават за самых блізкіх сваякоў.

14, 28. Даўней апрача абаронча ўзводзіліся і вежы на вінаградніках, каб упільнаваць ураджай ад злодзеяў.

15, 7. Вядома, адзін пакаяны грэшнік не лепшы за 99 справядлівых, радасць тут з-за таго, што яшчэ адзін чалавек прыйшоў да Бога, што не загінула яго душа.

**Пераклад і каментарыі Анатоля КЛЫШКІ**

# З ГІСТОРЫІ ЗАСЛАЎСКАЙ КАФЛІ

Заяц Ю. А. **Заслаўская кафля.** Мінск. «Навука і тэхніка». 1990 г.

За апошнія дзесяць гадоў беларускія археолагі прысвяцілі шмат даследаванняў пячной кафлі XIV—XVIII стст. Значна пашырае нашы веды па гэтаму віду архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі Беларусі брашура Ю. А. Зайца «Заслаўская кафля», якая выдадзена ў 1990 г. выдавецтвам «Навука і тэхніка». У аснову працы пакладзены матэрыялы, выяўленыя пераважна аўтарам, а таксама Г. В. Штыхавым, У. А. Гілепам. Да гэтага часу вучоным былі надрукаваны толькі асобныя вынікі археалагічных даследаванняў па кафлі Заслаўя. Таму мы з цікавасцю чакалі публікацыі асноўных матэрыялаў.

У працэсе падрыхтоўкі брашуры аўтарам праяўлены прафесійны падыход да праблемы. Пра гэта сведчыць багатая калекцыя кафлі, дэталёвае апісанне яе арнаментальных матываў і кампазіцый, памераў, тэхналогіі вытворчасці. Заслаўская кафля разглядаецца на фоне шырокага кола аналогій з раскопак беларускіх гарадоў, замкаў, мястэчак, а таксама Украіны, Прыбалтыкі, Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. Гэта разам з вялікай колькасцю выкарыстанай літаратуры дапамагло аўтару зрабіць аб'ектыўную гісторыка-мастацкую характарыстыку разглядаемага матэрыялу. Прапанаваныя датыроўкі кафлі не выклікаюць сумненняў. Тэкст праілюстраваны 30 фота і графічнымі малюнкамі, якія добра пракаменціраваны.

Адкрываецца праца ўводзінамі, дзе лаканічна паказана, што Заслаўе адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі. Яго археалагічнае вывучэнне пачалося яшчэ ў 20-я гады нашага стагоддзя і працягваецца па сённяшні дзень. За гэты час сабрана разнастайная калекцыя кафлі, з якой і знаёміць нас даследчык. Яна разглядаецца ў храналагічнай паслядоўнасці. Гэта адпавядае развіццю дэталяў яе канструкцыі і арнаментыкі.

Даволі прадуманай выглядае структура брашуры. У першай яе частцы «З гісторыі кафлі» Ю. А. Заяц дапоўніў інфармацыю беларускіх даследчыкаў па гісторыі архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі, якая з'яўляецца своеасаблівай культурнай з'явай, што зарадзілася ў старажытнасці ў Егіпце і Грэцыі, затым паступова распаўсюдзілася на іншыя краіны і, у прыватнасці, дастаткова шырока выкарыстоўвалася ў манументальнай архітэктуры гарадоў Кіеўскай Русі ў XI—XII стст.

Тут аўтару трэба было больш аргументавана сказаць, што яго прымусіла апісваць гісторыю архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі, адным з відаў якой з'яўляецца пячная кафля. Яе ж вытворчасць, як лічыць А. А. Тарасаў са спасылкамі на працы польскіх і нямецкіх даследчыкаў, зарадзілася ў другой палове XIII ст. у Германіі. Ю. А. Заяц правільна адзначае, што пячная кафля на тэрыторыі Беларусі пачала выкарыстоўвацца ў XIV ст. у выніку шырокіх і differentia разнабаковых сувязей беларускіх земляў з суседнімі краінамі. Аўтар на аснове добрага ведання гістарыяграфіі пытання дастаткова поўна ахарактарызаваў гісторыю кафлі і працэс яе вытворчасці.

Другая частка брашуры прысвечана сасудападобнай кафлі Заслаўя. Адзін з яе тыпаў даследчыкі класіфікуюць як гаршковую, хоць больш правільна называць яе гаршкападобнай. Аналагічныя рэчы з Заслаўя Ю. А. Заяц называе таксама сасудападобнымі.

Вялікую цікавасць уяўляе знойдзеная ўпершыню ў Заслаўі гаршкападобная кафля з «раструбам», якая пашырае нашы веды аб працэсе эвалюцыі кафлі на тэрыторыі Беларусі.

У трэцяй частцы разглядаецца каробчатая кафля XVI ст., што атрымала ў гэты перыяд шырокае распаўсюджанне. Адну з самых рэдкіх унікальных яе груп складае партрэтная кафля, прадстаўленая трыма экземплярамі. Не менш цікавая геральдычная кафля, выявы якой кваліфікавана расшыфраваў аўтар. Прадстаўленыя віды кафлі ўяўляюць не толькі неад'емную частку дэкаратыўнага афармлення печаў, але і сапраўдныя творы мастацтва. У асноўным яны добра захаваліся, таму ў мастацкіх, тэхнічных і гістарычных адносінах утрымліваюць вялікі аб'ём інфармацыі.

Чацвёртая частка брашуры прысвечана заслаўскай кафлі XVII—XVIII стст., разнастайнай па форме, колеру, набору дэкаратыўных кампазіцый. Шэраг экземпляраў бязмарачнай, паяснoй, гзымсавай паліхромнай кафлі XVII ст., а таксама прафіляванай паяснoй кафлі канца XVI—XVII стст. прадстаўлены толькі фрагментамі, аднак яны маюць вялікае значэнне для агульнай характарыстыкі матэрыялу.

У апошняй частцы даследчык расказвае пра заслаўскія кафляныя печы XVI—XVII стст., якіх было выяўлена 10, хаця ва ўводзінах (с. 4) адзначана, што знойдзены рэшткі васьмі печаў. Іх памеры і поўны набор кафлі дазволілі даследчыку зрабіць абгрунтаваныя рэканструкцыі чатырох печаў.

На с. 56 паказана рэканструкцыя бакавой сцяны адной з печаў канца XVI ст., на якой бачна, што кафля падабрана па тэматычным прынцыпе, каб надаць цэласнасць дэкаратыўнай кампазіцыі печы.

Вялікую цікавасць выклікае заключэнне, дзе аўтар дае шэраг высноў па эва-

люцыі заслаўскай кафлі XIV—XVIII стст. Даследчыку ўдалося выявіць рысы, якія характэрныя менавіта для заслаўскай кафлі. Тым самым падмацоўваецца выказаны аўтарам тэзіс аб яе мясцовым паходжанні. І гэта важна, бо не заўсёды беларускія археолагі дакладна могуць вызначыць для некаторых стылістычных груп кафлі іх лакальныя прыкметы, бо аналагічная кафля шырока распаўсюджана не толькі ў Беларусі, але і ў Літве.

Брашура Ю. А. Зайца «Заслаўская кафля» уводзіць у навуковы ўжытак шмат новых каштоўных матэрыялаў, дае ўяўленне аб асноўных асаблівасцях і эвалюцыі кафлі гэтага старажытнага беларускага горада. Нашы веды пра ўзровень эканамічнага і культурнага развіцця беларускіх земляў XIV—XVIII стст. папаўняюцца.

**Алесь КУШНЯРЭВІЧ**

# ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ МАРКІ

*Небагатая філатэлістычная спадчына Беларусі да сёння застаецца загадкавай. Публікацыі Л. Коласава ды Гая Пікарды («Спадчына», 1990, № 4) толькі часткова праліваюць святло на паходжанне дзвюх серыяў марак —«Беларусь» і «Асобны Атрад БНР».*

*Гай Пікарда мае рацыю: Урад БНР маркі выпускаў, прынамсі, адну марку. Пацвярджаюць гэта лісты колішняга дзяржаўнага сакратара Ураду БНР К. Дуж-Душэўскага да экс-прэм'ера В. Ластоўскага. У 1919 г. супрацоўнікі Місіі БНР у Берліне В. Захарка, Л. Заяц і А. Вальковіч па даручэнні Ураду заняліся камерцыяй: закупкай і рэалізацыяй спажывецкіх тавараў. Не без удзелу гэтых людзей у 1919-1920 гг. у Берліне працавала выдавецтва Беларускай Місіі. Натуральна, пры грашовых разліках маглі ўзнікаць непаразуменні. К. Дуж-Душэўскі ўлетку 1923 г. пісаў В. Ластоўскаму: «Вельмі цёмная справа рабілася і з выпушчанай пачтовай маркай, якая дала добрую пажыву для тых-жа асоб». У лісце ад 25 лістапада 1923 г. ён яшчэ раз згадвае марку: «Вельмі цёмная справа, па слухах, даўшая колосально вялікі заработак гр. Вальковічу, была зроблена і з выпушчанай пачтовай маркай. Кажуць, што ён зарабіў шмат больш, чым тая сума, за якую марка была прададзена».*

*Не зусім зразумела, якую марку (прычым у адзіночным ліку) Дуж-Душэўскі меў на ўвазе. Калі гэта была серыя «Асобны Атрад БНР», дык адзіночны лік можна вытлумачыць аднолькавай гравюрай усяго выпуску. Дарэчы, А. Вальковіч у 1920 г. ездзіў у Рыгу дзеля рэалізацыі раней закупленых з даручэння Ураду тавараў. Магчыма, ён рэалізаваў там і маркі, а тады знаходзіць тлумачэнне версія пра «латышскае» паходжанне гэтай серыі. У кожным разе прынамсі адна з дзвюх вядомых серыяў выпушчана ў Нямеччыне.*

*Да беларускага філатэлістычнага здабытку належаць маркі і серыі, што пабачылі свет у паваенным часе стараннямі беларускай эміграцыі. Гэта — прыватныя выпускі, выходзілі яны звычайна да юбілейных датаў, паштовага хаджэння не мелі. Выключэнне складаюць дзве серыі «Air mail. Лятунская пошта», выпушчаныя спецыяльна для авіяпошты ў 1971 г. Тады Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі скарыстала страйк на брытанскай пошце, каб заснаваць Згуртаванне беларускіх паштавікоў (ЗБП) ды за 19 дзён да канца страйку пусціць у паштовы і філатэлістычны свет яшчэ адзін напамін пра зямлю, што завецца Беларусь.*

*Беларускія «эміграцкія» маркі не маюць поўнага апісання, але час патрабуе ўвядзення іх у агульны кантэкст беларускай філатэліі.*

**Ю. ВАСІЛЕЎСКІ**



«НАСЛЕДИЕ»
(на белорусском языке)















**Паштовыя і сувенірныя філатэлістычныя выданні беларускай эміграцыі.**

Цана 1 руб. Індэкс 74988



Крыжаападобная падвеска і падвеска-канёк з гарадзішча Мастаўцы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Канец XI — пачатак XII ст.

Спадчына, 1991, № 4, 1—112.